Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 13 лістапада 1987 г. № 46 (3404) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

ЛЮДЗІ РОДНАГА КРАЮ





## САД ЯГОНАГА ЖЫЦЦЯ

Наўрад ці хто помніць сёння ў Глыбоцкім лясгасе дакладна той дзень, калі з'явіўся на свет гэты чароўны, дзіўны куточак прыроды. Ды такі дзень усё ж быў. І яго добра памятае Віктар Антонавіч Ламака. Бо гэта ён тым днём выкапаў і прывёз з лесу дзесятак саджанцаў бярозы, клёна, ліпы, дуба і высадзіў побач з лясгасаўскай канторай. Так з'явіўся вопытны лясны ўчастак.

Ішлі гады. Непрыкметна сплыла чвэрць стагоддзя. Людзі пасталелі. Дрэвы выраслі. Цяпер гэта — унікальны дэндрарый, другога такога няма ў рэспубліцы. Ні па тэрыторыі, ні па прыгажосці. На васьмі гектарах у поўнай гармоніі ўжыліся не толькі дрэвы і расліны сярэдняй паласы, але і нязвыклыя для тутэйшага клімату — туя заходняя, аронія чарнаплодная, спірэя бумальда, арэх маньчжурскі... Ды хіба ўсе пералічыш? Іх тут 480 відаў.

Ах, якія тут ландшафты з алеямі і сажалкамі! Глядзіш на ўсё гэта і думаеш: вялікі мастак — прырода, ды ўсё ж чаго яна была б вартая без дапамогі чалавека.

Чалавек гэты — ён, Віктар Антонавіч Ламака. Былы лясгасаўскі інжынер. Спецыяліст па лесе, але штосьці большае жыве ў ягонай душы. Не за грошы і ўзнагароды садзіў ён дрэвы. З дня ў дзень прыходзіў сюды, ускопваў, паліваў, прышчэпліваў, рабіўназіранні, праводзіў доследы. Робіць ён гэта і цяпер, нягледзячы на свой амаль васьмідзесяцігадовы ўзрост. Але ўжо не адзін, а з дапамогай такога ж няўрымслівага аматара прыроды Тадэвуша Ласоўскага. І радасна стараму гаспадару — у дэндрарыя будзе надзейны захавальнік.

Вось і ўсё, што я хацеў сказаць чытачам пра гэтага чалавека і ягоную справу. Сам я не так даўно вярнуўся адтуль і знаходжуся пад уражаннем прыгажосці і харaства гэтага цуда-куточка. Перад вачамі стаіць карціна: мора жоўта-чырвоных фарбаў. Па алеі, усыпанай золатам лістоты, нетаропка ступае пажылы чалавек. Шапаціць пад нагамі лісце. У небе плывуць тысячы павуцінак. Цішыня. Пара бабінага лета...

А. КЛЯШЧУК.
Фота аўтара.



## У НУМАРЫ:

ствaральнай працы савецкага народа атрымалі належную ацэнку, і гэта мяне вельмі радуе.

Перабудова, якая вядзецца зараз ва ўсіх сферах жыцця, найбольш прыкметны размах набывае ў эканоміцы. Цяжэй вызначыць, як змяняецца псіхалогія людзей, якія зрухі адбыліся ў свядомасці, у маральнай сферы.

А між тым, ад маральнага здароўя народа залежыць літаральна ўсё. Поспех перабудовы будзе рэальны і гарантаваны толькі пры ўмове, што кожны ўдзельнік яе глыбока ўсвядоміць арганічную неабходнасць гэтай перабудовы для яго асабіста, для яго душы. Рухаючая сіла перабудовы —свядомы чалавек, актыўны чалавек. І перш чым узяцца за любую справу, вялікую ці малую, трэба пераканацца, што тыя, каму яна даручана, маральна, псіхалагічна гатовы да выканання яе.

**Як мне здаецца, стварэнне маральна-псіхалагічных асноў перабудовы ў калектывах вядзецца яшчэ недастаткова, слаба. Іржа, якая раз'ядала душы людзей у гады застою, вычышчаецца не так энергічна, як трэба. Гэта можна бачыць на кожным кроку.**

**Яшчэ часта разыходзяцца словы і справы. Чалавек з трыбуны гаворыць адно, а ў прыватнай гутарцы — другое. Пабяцаць з трыбуны і не зрабіць — стала нормай.**

**Ды што далёка хадзіць: колькі добрых прапаноў запісваем мы ў рашэннях партыйных сходаў, пленумаў праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, пасяджэнняў сакратарыята, а колькі з іх выконваецца? Ці ўзяць апошні партыйны сход у СП, прысвечаны перабудове. Пра што там толькі ні гаварылася, на што ні скардзіліся прамоўцы, чым ні хваліліся, а пра самае галоўнае для творчай арганізацыі — пра аналіз нашай творчасці, кірунак яе развіцця, яе праблемы — па сутнасці нічога грунтоўнага не было сказана.**

Перабудова, як я разумею,— не аднаразовая акцыя, а няспынны працэс удасканалення нашай працы, нашай свядомасці. Для літаратараў гэта глыбіннае спасціжэнне жыцця, яго шматлікіх працэсаў, спасціжэнне душы, псіхалогіі сённяшняга чалавека, будаўніка камунізму. Задача, шчыра скажам, найскладанейшая з усіх задач перабудовы. На нашу долю выпала ў мастацкіх вобразах і ў публіцыстыцы адлюстраваць вострую барацьбу новага са старым у свядомасці людзей, чым паскорыць працэс перабудовы і пакінуць нашчадкам яркую, аб'ектыўную, дакладную карціну жыцця сучаснікаў.

Пачынаць жа давядзецца, відаць, з саміх сябе. Перш за ўсё самакрытычна, аб'ектыўным вокам паглядзець у сваю душу і пашукаць як след, чаго там за гады застою наліпла нягожага, дробязнага, карыслівага, зайздрослівага, мяшчанскага, і рашуча пачысціць сваю свядомасць. А пасля ачышчэння ад усяго гэтага паставіць сваё пяро на службу перабудове.

Час не чакае. Прыбаўляць у працы мы абавязаны не менш, чым станочнікі ці хлебаробы. Наша адказнасць за выхаванне свядомасці актыўных будаўнікоў камунізму нарастае.

## З ПОШТЫ «ЛіМА»

# Не спазніцца б...

Мяне ўзрушыў артыкул Ніла Гілевіча «Як гэта зразумець?» («ЛіМ», 2.X.87 г.). Сапраўды, цяжка зразумець, чаму так фармальна падышлі да важнейшай справы тыя, хто рыхтаваў дадаведачны матэрыял па Лагойскім раёне для «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Ёсць жа выдатныя знаўцы роднага краю на Лагойшчыне! Назаву толькі аднаго: Барыс Уладзіміравіч Сасноўскі, супрацоўнік райгазеты «Ленінскі сцяг». Але такіх людзей, відаць, не шукалі, не пыталі іх думку. Адсюль і прыкрыя прагалы ў папулярным выданні.

І ўсё ж на паперы хібы выправіць можна: зрабіць, напрыклад, дадатак да выдання, бо, пэўна ж, нейкія промахі былі дапушчаны і па іншых раёнах.

Сёння балюча турбуе іншае: што станецца з некаторымі купалаўскімі мясцінамі на Лагойшчыне ў бліжэйшыя гады? Ёсць пагроза іх поўнага зруйнавання. І Селішча, і Акопы, і іншыя купалаўскія куточкі — цяпер гэта глухія ўрочышчы, што згубіліся сярод хмызнякоў. А на хмызнякі з двух бакоў вядзецца наступленне. З аднаго боку, саўгас, расшыраючы сельгасугоддзі, руйнуе лес, кусты, каменне... Ці ўстаяць тут падмуркам і валунам Акопаў, калі дойдзе чарга да гэтага ўрочышча?

З другога боку, дачы гараджан па Даўгінаўскім тракце дабраліся да вёскі Жукаўка. І хто ведае, магчыма, дзесьці ўжо рыхтуецца цыркуляр каб і Акопы адвесці пад дачы? Гэта ж так блізка! А прыватнік здольны на многае ў горшым сэнсе гэтага слова. Каменне са свяшчэнных падмуркаў можа трапіць у падмуркі садовых домікаў...

Лічу, што такая пагроза рэальная, а таму трэба дзейнічаць, пакуль яшчэ не зусім позна. Мясцовыя ўлады наўрад ці абароняць гэтыя мясціны. За справу неабходна ўзяцца Саюзу пісьменнікаў і Міністэрству культуры БССР. Тэрмінова абвясціць купалаўскія мясціны запаведнымі зонамі. Зоны будуць невялікія і эканамічнай шкоды нікому не прынясуць. Але іх трэба дакладна абазначыць і забараніць там любыя «аздараўленчыя» работы.

Я веру, што прыйдзе час, калі знойдуцца сродкі, каб пабудаваць дзе трэба капітальныя памятныя знакі, а дзе і філіялы музея. Цяпер жа, «каб не страціць святое штосьці», неабходна захаваць гэтыя мясціны да лепшых дзён, не дапусціць іх зруйнавання.

Між іншым, па Лагойшчыне можна пракласці купалаўскі маршрут для турыстаў (пра што пісаў у «ЛіМе» Ф. Гінтаўт). Сёння Даўгінаўскі тракт — нядрэнная гравійная дарога. А ён жа вядзе да Карпілаўкі, ад якой да Акопаў — рукой падаць. У самой жа Карпілаўцы — рэшткі сядзібы Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Далей па тракце — вёска Малыя Бясяды. Сюды юны Купала прыходзіў з Селішча да мясцовага пана Чаховіча па кніжкі. Наведваў Купала М. Бясяды і ў савецкі час. Яшчэ праз тры кіламетры, каля вёскі Дзяніскі, паварот з Даўгінаўскага тракту на Жодзінскую дарогу. Па ёй можна трапіць у Селішча, Прудзішча, Косіна. З Косіна — вярнуцца на Лагойскую шашу і каля Астрашыцкага Гарадка павярнуць на Бяларучы...

Вось такім ці трошкі іншым мог бы быць турыстычны маршрут. Але пакуль што няма чаго паказваць турыстам. Спачатку гэтыя мясціны трэба добра ўпарадкаваць. Думаю, неабходна зрабіць памятны знак у Малых Бясядах. Тут цяпер зона адпачынку Мінскага трактарнага завода. І калі б кампетэнтныя арганізацыі звярнуліся да кіраўніцтва МТЗ, яно б, напэўна, не адмовілася прыняць удзел ва ўвекавечанні памяці вялікага паэта, выдзеліць пэўныя сродкі. А мясціны тут маляўнічыя, і як бы добра было праводзіць у Малых Бясядах святы купалаўскай паэзіі!

Такія вось думкі выклікаў у мяне артыкул Н. Гілевіча.

**М. ТОНКАВІЧ,**
**былы жыхар**
**Лагойскага раёна.**

# Азірнуцца, убачыць... і зразумець

Я згодзен з А. Сідарэвічам («Азірнуцца і ўбачыць», «ЛіМ», 2.X.87 г.), які скептычна ставіцца да распачатай у «ЛіМе» Л. Дранько-Майсюком гаворкі: дыскусій пачыналася шмат, але яны абрываліся на паўслове. У лепшым выпадку канчаліся «избиением младенцев».

Чаму так здараецца? Ды таму, што бюракратызм і «чинопочитание» праніклі даўно і ў літаратуру.

Дыскусія, як справядліва піша сёння друк, — нармальны стан грамадскага жыцця. Дзе няма дыскусій, там гнілое балота.

Звязаныя лаўрэатствам і ганаровымі званнямі, многія пісьменнікі сёння здольны ўспрымаць толькі пахвальбу ў свой адрас. Яны не прывыклі, каб іх усур'ёз крытыкавалі. (Пад словам крытыка я разумею аб'ектыўную ацэнку творчасці пісьменніка). Дзе вы бачылі, сур'ёзны крытычны артыкул пра творчасць нашых «жывых класікаў»? Ёсць, на жаль, і маладзейшыя пісьменнікі, якія сёння жывуць у зоне, куды крытыцы ўваход забаронены.

Але не зусім мае рацыю Анатоль Сідарэвіч, калі пачынае разважаць пра эпоху культу.

Пры аналізе жыццёвых, літаратурных і іншых з'яў мы павінны заўсёды ў думках перанесціся ў той час, у тую эпоху, калі адбываліся падзеі, калі ствараўся той ці іншы твор. Без уліку гэтага аб'ектыўную ацэнку той ці іншай з'яве даць нельга.

Азірнуцца і ўбачыць мала. Трэба азірнуцца, убачыць і зразумець.

**Рыгор РОДЧАНКА.**
г. Слуцк.




**Павел Якаўлевіч Міхайлаў — радавы салдат мінулай вайны. Шафёр, вадзіцель палутаркі, ён і сёння помніць да дробязей, як пад варожым агнём вазіў на перадавую салдат і боепрыпасы, прадукты, вывозіў параненых. Удзельнічаў у абароне Масквы, Ленінграда, прайшоў праз баі на Курскай дузе, пад Кёнігсбергам.**

**Дэмабілізаваўшыся, прыехаў Павел Якаўлевіч на родную Верхнядзвіншчыну на сваёй... франтавой палутарцы. І была яна тады ці не адзіным грузавіком на ўвесь раён.**

**Сёння ў раёне сотні, а мо і тысячы аўтамашын і сярод іх — «франтавічка». Некалі падараваная маршалам Жукавым, палутарка і праз дзесяцігоддзі дзякуючы ўмелым рукам — на хаду.**

**Крутане Павел Якаўлевіч ручку стартэра і доўга слухае, як роўна тахкае матор. Што мроіцца ў гэтыя мінуты старому франтавіку?**

**А. КЛЯШЧУК.**
Фота аўтара.

# На які рахунак?

Сёлета мы—байцы будатрада «Нашчадкі», студэнты гістарычнага факультэта Мінскага педінстытута—працавалі на археалагічных раскопках у Гродне. Заробленыя грошы вырашылі пералічыць на аднаўленне архітэктурнага помніка ў Мінску—храма Святога Духа. Пытанне аб грамадскіх ахвяраваннях на Святадухаўскую царкву, ратушу і вежу з гадзіннікам узнімалася ўжо неаднойчы. Улічваючы, што праціўнікі праекта аднаўлення гэтых помнікаў спасылаюцца менавіта на адсутнасць сродкаў, зразумела, наколькі важная ініцыятыва мінчан для справы адраджэння будынкаў, якімі захапляліся падарожнікі XVIII—першай паловы XIX ст. Рэстаўрацыя гэтага кутка горада без іх аднаўлення губляе сэнс, бо не будзе створана цэласнага гістарычнага і мастацкага вобраза старажытнай плошчы.

Звяртаючыся ў рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва» з гэтым лістом, мы хочам высветліць, якім чынам пералічыць нам грошы на рэгенерацыю названых помнікаў? Які нумар банкаўскага рахунку?

**Уладзімір ЯРАШЭВІЧ,**
**камандзір атрада «Нашчадкі»,**
**Людміла ІСАКАВА,**
**камісар.**

**КАМЕНТАРЫЙ АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ**

**З пытаннямі, якія паставілі ў сваім лісце будатрадаўцы, мы звярнуліся ў Беларускі фонд культуры. Але вырашылі пацікавіцца яшчэ і тым, ці трапяць грошы, якія збіраюцца пералічыць «Нашчадкі», менавіта на адраджэнне названых студэнтамі архітэктурных аб'ектаў!**

**Як паведаміла нам намеснік старшыні праўлення Беларускага фонду культуры А. Багданава, пералічаць сродкі трэба на банкаўскі рахунак № 702, прычым, з абавязковым удакладненнем, на які аб'ект ахвяруюць грошы прыватныя асобы, арганізацыі, прадпрыемствы і г. д. У такім выпадку, удакладніла Алена Яўгенаўна, сродкі пойдуць толькі на тыя мэты, на якіх прызначае іх ахвяравальнік. (Дарэчы, ва ўсіх рабочых дакументах Святадухаўская царква пазначана як Рыначная).**

**А. Багданава паведаміла нам таксама, што зараз распрацаваны праект рэспубліканскай праграмы «Спадчына», які прадстаўлены на грамадскае абмеркаванне.**

# Дні культуры МінШчыны ў Польшчы

**У Плоцкім ваяводстве Польскай Народнай Рэспублікі завяршыліся Дні культуры Мінскай вобласці, прысвечаныя 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Сярод тых, хто прыняў у іх удзел, былі пісьменнік Іван Чыгрынаў і народны артыст СССР Расціслаў Янкоўскі.**

# З УЗНАГАРОДАЙ!

**За плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з васьмідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў пісьменніка СКРЫПКУ Міхаіла Аляксандравіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

## СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ

# САДЗЯЧЫ НОВЫ ЛЕС...

Здараецца, што чытацкі рэзананс выклікаюць не толькі буйныя артыкулы ці публікацыі, але і надрукаваны ў газеце ліст. Так, напрыклад, чытачы адгукнуліся на ліст юрысконсульта А. Голубева («ЛіМ», 9.X.1987 г.). Нагадаем, што наш карэспандэнт з Віцебска выказаўся па некаторых пытаннях ідэалагічнага і грамадскага жыцця, пры гэтым згадаўшы артыкул А. Сідарэвіча «Азірнуцца і ўбачыць» («ЛіМ», 2.X. 1987 г.).

Некаторых нашых чытачоў непрыемна ўразіла рэпліка А. Голубева наконт ксяндзоў, «якія сталі паэтамі». «Калі б так ставіліся да спадчыны ў братніх рэспубліках,—лічыць наш сталы аўтар ленінградскі вучоны В. Грыцкевіч,—то выкрэслілі б з гісторыі літоўскай літаратуры празаічную творчасць М. Валанчуса (біскупа Жамайцкага), паэзію К. Данелайціса, А. Страздаса, А. Баранаўскаса, Майроніса... З украінскай літаратуры былі б выкраслены Рыгор Скаварада, а з рускай — наш зямляк Сімяон Полацкі».

Археолаг М. Чарняўскі ў сваю чаргу нагадвае, што і Францыск Скарына, 500-годдзе з дня нараджэння якога рыхтуецца адзначыць у свеце, перакладаў на беларускую мову не што іншае, а Біблію.

Супраць так званай «князябоязі» выступаюць студэнт Гродзенскага медінстытута І. Навумаў, настаўнік М. Бусел з Гомельшчыны.

У многім чытачы маюць рацыю, але мусім нагадаць, што А. Голубеў, здаецца, зусім не меў на мэце прынізіць значэнне нашай спадчыны. Даючы артыкулу А. Сідарэвіча станоўчую ацэнку, ён толькі выказвае пажаданне не валіць усіх і ўсё «ў адну кучу».

Аддзяляць мякіну ад зерня прапаноўвае і М. Бусел. Без аналізу мінулага, слушна лічыць ён, ніякі рух наперад не магчымы. «Дайце спачатку разабрацца, а забегчы наперад генеральнай лініі і радасна сустрэць яе на пустым месцы мы паспеем»,—піша чытач.

Падсумоўваючы, скажам: не ганьбаванне ці беспадстаўнае ўзвелічэнне спадчыны павінны мець месца, а менавіта аналіз —сур'ёзны і розныбаковы. «Каб пасадзіць новы лес, трэба расчысціць завалы»,—сказаў у сваім лісце А. Голубеў. Тут, спадзяёмся, пярэчанняў не будзе.

**АДДЗЕЛ КРЫТЫКІ «ЛіМА».**

Мікола МЯТЛІЦКІ



# НАЗОЎНІК

*ПАЭМА*

«Прыбыло слынным чыноўнікам!»
Быў дзеясловам,
А стаў — назоўнікам.
Гадаў, варажыў,
Кім лацвей быць,
Хварэючы кіраўнічай хваробай.
Зачаўся, узнік з дзеяслова
Рабіць,
Ператварыўся ў назоўнік —
Робат!
На вачах быў, дагаджаў.
Паперы натрос — цэлы стос.
Не другіх, — сябе ашчаджаў...

«Біяграфія!!»
«Лёс!!»

Не сакрэт,
Няма сарака.
«Аўтарытэт!»
Ёсць рука!

Хутка на кіраўнічай вярсце
Назоўнік прыназоўнікамі абрасце.
Асабліва гучнымі — «пры» і «за».
Пальцам ткні,
Скажы ад душы.
Не, лепей рот
за-ткні,
Гнеў
пры-душы.

Чаму паэму пра яго пачынаю!
Проста не са слоў яго знаю.
Ён ува мне рос і крэп,
Еўшы застою мяккі хлеб.
Проста, яго сёння суджу —
Праўду сабе
Пра яго кажу.
Здымаю яго з душы,
Як іржу.
Праўду сабе
Пра яго кажу.

Ён рос,
Калі з усіх трыбун
Нашых здзяйсненняў узносіўся бум.
Калі «за» —
Далонямі пляскалі,
Пальцы сцяўшы гатоўна.
Калі ў дакладах паўзы рабіліся
Звыштактоўна —
Для адышкі, склерозу.
Як жыць мог Назоўнік і мысліць!
— Цвяроза!

На зямлі,
дзе жыта расло,
дзе прадзед ад поту слеп,
Цягло прагрэсу ў ім узвіло
Будучы кіраўнічы сверб.
Ён плюнуў пад ногі
(шырэй — на зямлю) —
«Гразь... не люблю...»

Усхапіўся бацька:
«Не любіш гразь —
У людзі пралазь!»

Помнік Назоўніку:
П'едэстал —
бацькава мазолістая рука
Увесь ён
«ад сахі і ад малатка».
«Ад мовы, ад песні...»

(Ды болей за ўсё —
ад руціны і плесні)
Саракагадовы ўюн-кіраўнік.
Здаецца, тыповы вобраз узнік.

«Ад сахі і ад малатка» —
Лозунг знаёмы трымае, як шчыт,
Хоць малатка —
Не брала рука,
Не малатком,
Языком,
Каваў дабрабыт.

«Ад песні, ад мовы» —
Шэпча і ўдзень, і ўночы замовы.

Ідэйную сутнасць змен
па-свойму ён разумее.
Рука кожная, як бязмен.
Ды рабіць анічога не ўмее.

Не на рукі пляваць,
Калі пачынаць работу, —
Вучыўся ён кіраваць
Да сёмага поту.

Колькі такіх «галасоў»
Павыбіла каласоў! —
Зерне ўпала!
Колькі такіх «галасоў»
Знішчыла рэк, лясоў!
Ды —
Засвітала!

Я пра сябе кажу,
З сэрца —
Здзіраю іржу.

Назоўнік!
Учора ён
Даваў указанні,
Дзе сеяць лён.
Прыехаў зноў і, дабрадзей,
Паўдня блукаў па кукурузе,
Вынесшы:
Ад яго смелых ідэй
Кіяхі — па галузе.
А потым,
засеўшы са «старшыном»,
Стакан перавярнуўшы ўверх дном,
Гутаркі вёў пахвалебна-ўпартыя.
І згодна ківаў наш «старшына»,
Бо тэма гаворак была адна —
«Я... і партыя!»

Аднойчы,
выводзячы госця за хлеў,
Наш «старшына» не ўтрываў, асмялеў.
Сказаў у морак густы, нямы:
«Партыя — гэта мы!»

«Не філасофствуй, дурань-дзівак!
Партыя — не для такіх зявак.
Партыя — на гарбе тваім.
Крэпка, трывушча мы з ёй стаім.
Партыя — голас такіх, як я!»

Сказаў «старшына»:
«Праўда твая!»

«Перабудова!»

Ці знік такі кіраўнік!
Ён прытаіўся, і...
ў якасці новай узнік.
Сёння з трыбун ён ізвяргае грамы:
«Партыя — гэта мы...»

Я пра яго
Праўду сабе кажу —
З сэрца, з душы
Здзіраю іржу...



# НЕСПАКОЙНАЯ ПЛЫНЬ ПРЫПЯЦІ

МНЕ, ЯК ГЕОЛАГУ, давялося на Палессі папрацаваць не адзін год, дзе наш Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР вывучае ўплыў меліярацыі на стан падземных вод, у *прыватнасці*, на іх хімічны склад. Вось чаму з такой зацікаўленасцю ўспрыняў я праект абвалавання Прыпяці. Многія яго палажэнні выклікаюць сур'ёзныя пярэчанні. Пра гэта—мае нататкі.

Меліярацыя, асушэнне Палескай нізіны, праблемы, звязаныя з уварваннем чалавека ў «святая святых» прыроды, не могуць пакінуць абыякавымі, мне здаецца, нікога.

Палессе—раён інтэнсіўнага *меліярацыйнага* будаўніцтва. Тут ужо асушаны вялікія плошчы балот і забалочаных зямель, што карэнным чынам змяніла аблічча гэтага краю. Меліярацыя зямель мае вялікае сацыяльна-эканамічнае значэнне. Адмаўляць гэта ні ў якім выпадку нельга. Але нельга не бачыць і тых пралікаў, якія былі допушчаны і цяпер усё яшчэ допускаюцца пры правядзенні асушальных работ. Нанесена значная шкода прыродзе гэтага цудоўнага краю. Дастаткова ўспомніць паўсюдна асуджаны метад, які да гэтага часу знаходзіцца ў арсенале меліяратараў.— спрамленне (каналізаванне) рэк. Непапраўны ўрон нанесены унікальнаму расліннаму і жывёльнаму свету Палесся. Між тым, натуральныя рэчышчы Прыпяці і яе прытокаў—гэта выключна прыгожыя мясціны. Знакамітыя палескія пойменныя дубровы вызначаліся высокай біялагічнай прадукцыйнасцю. Пойменныя лясы, балоты і лугі, шматлікія старыя рэчышчы і пратокі заставаліся своеасаблівымі запаведнікамі палескай прыроды.

Цяпер, калі закончана ці блізка да завяршэння асушэнне амаль усіх буйных аб'ектаў у рэгіёне, Мінвадгасам БССР распрацавана тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне абвалавання Прыпяці, асушэння і асваення яе рэчышча. Запланавана ўзвядзенне па абодвух берагах ракі. а таксама ў ніжніх цячэннях яе прытокаў суцэльных дамбаў абвалавання амаль ад вытокаў Прыпяці (ад вёскі Рэчыца на Украіне) да г. Мазыра. Іх агульная працягласць павінна скласці 1433 км, у тым ліку на тэрыторыі Беларусі—1166 км. Ак*рамя гэтага, з мэтай* зніжэння кошту і спрашчэння будаўнічых работ плануецца спрамленне рэчышча Прыпяці на значнай працягласці каля Пінска шляхам збудавання так званага перапуску для скідвання вады. *Перапускі даўжынёй ад 10 да* 26 кіламетраў будуць узведзены і ў нізоўях прытокаў Прыпяці: Ясельды, Бобрыка, Лані, Гарыні, Сцвігі, Убарці, Пцічы, Трэмлі, Іпы і інш. Для патрэб суднаходства таксама плануецца спрамленне вялікіх участкаў рэчышча Прыпяці. На рацэ будзе пабудавана 7 плацін (гідравузлоў) з пад'ёмам вады ад 3 да 6 метраў на кожнай.

Асноўнай мэтай праекта (праекціроўшчыкі прызнаюць гэта самі) з'яўляецца не столькі абарона ад паводак населеных пунктаў і сельскагаспадарчых угоддзяў, колькі асушэнне і асваенне новых зямель у поймах рэк. Гэтая пойма павінна скласці 81,4 тысячы гектараў, што *менш за 4 працэн*ты меліярацыйнага фонду толькі ў беларускай частцы Палесся. Ці апраўдвае гэта шкоду, якая будзе нанесена прыродзе? Дарэчы, нават праекціроўшчыкі тлумачаць павелічэнне колькасці паводак на Прыпяці ў апошнія гады менавіта ўзмацненнем гаспадарчай дзейнасці на пойме—будаўніцтвам дарог, дамбаў і г. д. Гэты праект —яшчэ адзін прыклад экстэнсіўнага гаспадарання, нястрымнага нарошчвання плошчаў асушэння, што асабліва абурае, *калі ўлічыць, што ўраджаі на* ўжо асушаных землях, як правіла, нізкія. У рэгіёне адбываецца дэградацыя і актыўная ветравая эрозія асушаных зямель, частыя пажары на тарфяніках. Практычна не праводзяцца работы па стварэнні ахоўных *лесапалос* і *водаахоўных* зон уздоўж рэк. Даследаванні вучоных паказваюць, што пасля вываду пойменных глебаў з рэжыму перыядычнага затаплення адбываецца рэзкае зніжэнне іх біялагічнай прадукцыйнасці.

Міждамбавая адлегласць, якая прапаноўваецца ў праекце (ад 0,45 да 1,3 кіламетра на Украіне і ад 1,5 да 4 км у Беларусі), з прыродаахоўных пазіцый не вытрымлівае ніякай крытыкі. Ад поймы Прыпяці, шырыня якой дасягае ў асобных месцах 25—30 кіламетраў, застанецца ў міждамбавай прасторы мізэрная частка, і ні пра якое захаванне натуральных умоў у такім вузкім калідоры не можа быць і гаворкі. Усё гэта прывядзе да рэзкага ўзмацнення эрозіі глебы і яе разбурэння ў час паводкі. Заўважым, што разглядаюцца ўжо новыя варыянты інтэнсіўнага асваення і гэтага ўчастка прыпяцкай поймы шляхам стварэння так званых затапляльных польдэраў.

Ажыццяўленне праекта прывядзе да змены гідралагічнай абстаноўкі. Трэба ўлічваць няўстойлівасць пераўвільготненых экасістэм, прыроды Прыпяцкага запаведніка. У праекце ж не прадугледжваюцца прыродаахоўныя мерапрыемствы. Роля адзінага ў Беларускім Палессі запаведніка будзе ў значнай ступені абясцэнена, бо па сваім статуце ён з'яўляецца ландшафтна-гідралагічным.

*Не можа* не выклікаць трывогі пагаршэнне стану самой Прыпяці, а таксама яе прытокаў. Уключэнне ў актыўнае сельскагаспадарчае выкарыстанне рачных поймаў, рост ужывання ўгнаенняў і ядахімікатаў (асабліва ў сувязі з ук*араненнем інтэнсіўных тэхнало*гій) непазбежна выкліча павелічэнне забруджвання ракі. У натуральных умовах пойменныя балоты з'яўляюцца магутнымі ачышчальнікамі і паверхневых, і грунтовых вод ад біягенных элементаў (фосфар, азот, сера, калій), цяжкіх металаў і інш. Асушаныя ж, яны не толькі не выконваюць гэтай ролі. Забруджванне пры адначасовым зніжэнні здольнасці рэк да самаачышчэння ў выніку скарачэння плошчы поймаў і змяншэння колькасці воднай расліннасці прывядзе да рэзкага пагаршэння якасці вады. І гэта праблема не толькі *нашай* рэспублікі. Прыпяць—прыток Дняпра, які мала саступае яму па воднасці. Таму пагаршэнне якасці прыпяцкай вады не лепшым чынам адаб'ецца на якасці вады Дняпра. Нават аўтары праекта прызнаюць, што «рэканструкцыя» Прыпяці адмоўна адаб'ецца на рыбных запасах і Дняпра, і Днепра-Бугскага лімана, і Чорнага мора. Пастаяннай пагрозай над усім басейнам навісае небяспека прарыву велізарных салігорскіх шламасховішчаў. У 1983 г. *прарыў шламасховіш*чаў Сцебнікоўскага калійнага камбіната на Днястры прывёў да экалагічнай катастрофы, якая яшчэ ва ўсіх на памяці.

Праект выклікае пярэчанні не толькі з прыродаахоўных пазіцый. Палессе займае асаблівае месца ў старажытнай гісторыі нашай Радзімы. На тэрыторыі Палесся багата археалагічных помнікаў, аднак вывучаны яны пакуль вельмі слаба. З-за асушальных работ многія з іх, асабліва самыя старажытныя азёрныя і балотныя пасяленні, ужо страчаны для нашай гісторыі і культуры. Выка*нанне праекта* без уліку *гэтага* аспекта прывядзе да яшчэ большых страт.

Цяпер, пакуль яшчэ не разгарнуліся работы (а праект *першай чаргі ўжо гатовы*), неабходна разгледзець і іншыя, альтэрнатыўныя варыянты праекта. У прыватнасці, варта разгледзець экалагічна бяспечны, на наш погляд, варыянт не суцэльнага абвалавання Прыпяці, а лакальнай супрацьпаводкавай аховы населены. пунктаў і сельскагаспадарчых угоддзяў. Адвяргаць гэты варыянт толькі таму, што аб'ём земляных работ па ім на 57 працэнтаў большы, чым пры суцэльным абвалаванні, недальнабачна. Супрацьпаводкавая ахова, дарэчы, не самы дарагі элемент праекта. Затраты на меліярацыю, напрыклад, у шмат разоў большыя. Неабходна рашуча адмовіцца ад планаў спрамлення, нават частковага, для якіх бы там ні было патрэб (суднаходства ці меліярацыі), рэчышча Прыпяці і яе прытокаў, адмовіцца ад збудавання на гэтай рацэ плацін. У праекце трэба прадугледзець спецыяльныя супрацьэразійныя мерапрыемствы на землях, якія застаюцца ў міждамбавай прасторы, а самі яны павінны быць значна павялічаны. У абавязковым парадку павінны быць прыняты меры, якія гарантуюць падтрыманне гідралагічнага рэжыму Прыпяцкага запаведніка.

Праект закранае інтарэсы мільёнаў людзей, інтарэсы нашага і будучых пакаленняў. Таму неабходна яго галоснае, усебаковае і ўдумлівае абмеркаванне. Вырашаць лёс вялікага рэгіёна, зыходзячы толькі з ведамасных, цяперашніх інтарэсаў, — недапушчальна.

В. ПАШКЕВІЧ,
кандыдат геолага-мінералагічных навук.
г. Мінск.

## Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР

# НАПЕРАД ДА ЧАЛАВЕКА— БУДАЎНІКА, МЫСЛІЦЕЛЯ, РЭВАЛЮЦЫЯНЕРА!

3 лістапада, напярэдадні 70-ай гадавіны Кастрычніка, адбыўся пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. На парадак дня пленума было вынесена адно пытанне: «Вялікі Кастрычнік і задачы развіцця беларускай савецкай літаратуры на сучасным этапе». Уступнае слова зрабіў першы сакратар праўлення СП БССР Ніл Гілевіч. З дакладам выступіў сакратар праўлення Васіль Зуёнак. У абмеркаванні прынялі ўдзел Максім Лужанін, Уладзімір Някляеў, Анатоль Вярцінскі, Георгій Колас, Леанід Дайнека, Уладзімір Дамашэвіч, Уладзімір Конан, Уладзімір Федасеенка, а таксама прадстаўнік таварыства маладых літаратараў пры СП БССР Алесь Бяляцкі і слуцкі краязнаўца Рыгор Родчанка.

У рабоце пленума прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Я. К. Вайтовіч, загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ А. І. Бутэвіч, адказны работнік Савета Міністраў БССР В. М. Харавец, начальнік Беларускага аддзялення УААП Г. М. Конанаў.

Ніжэй друкуем матэрыялы пленума — уступнае слова і даклад (са скарачэннем).

## Уступнае слова Ніла ГІЛЕВІЧА

У гэтыя дні ўвесь савецкі народ і ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначаюць 70-я ўгодкі нараджэння першай у свеце сацыялістычнай дзяржавы — нашай шматнацыянальнай Радзімы.

70 гадоў Краіны Саветаў — гэта і 70 гадоў савецкай літаратуры, неад'емнай часткай якое з'яўляецца наша беларуская літаратура. Шлях народа, які здзейсніў Кастрычніцкую рэвалюцыю, шлях нашай сацыялістычнай Бацькаўшчыны — гэта і шлях нашага краснага пісьменства, нашай мастацкай думкі і нашага мастацкага слова. Пад кіраўніцтвам партыі Леніна народ прайшоў гэты вялікі і неймаверна цяжкі шлях доблесна, адолеўшы ўсе перашкоды і заслоны, выстаяўшы ва ўсіх паядынках з варожымі сіламі, вынесшы на сваіх плячах, здавалася б, непасільны цяжар ратных і працоўных перамог, непахісна — праз боль і пакуты, праз драмы і трагедыі, праз агонь і смерць — пранёсшы ў сэрцах веру ў сваю Рэвалюцыю, у свой Кастрычнік, у сваю здабытую ў бітвах з адвечнай крыўдай і няпраўдай светлую долю.

Учора, у дакладзе на ўрачыстым пасяджэнні ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў, М. С. Гарбачоў падкрэсліў, што наш юбілей — гэта, па-першае, момант гордасці, бо ганарыцца ёсць чым, па-другое, — гэта момант памяці, бо нішто не павінна быць забыта, па-трэцяе, — момант роздуму, бо ёсць над чым і задумацца, паразважаць, а яшчэ — гэта і погляд у будучыню, клопат пра заўтра.

У. І. Леніну належыць знакамітае выказванне, што найлепшы спосаб адзначыць юбілей — гэта засяродзіць увагу на нявырашаных задачах. Хацелася б, каб і мы сёння не абмежаваліся канстатацыяй здзейсненага і здабытага, каб святочны настрой не перашкодзіў нам глянуць на рэальны стан рэчаў цвяроза і крытычна — крытычна толькі таму, што мы хочам, каб было лепш — для ўсіх нас, для нашай літаратуры. Каб перабудова ішла паспяхова, нам патрэбна гістарычна праўдзівая ацэнка пройдзенага шляху, каб можна было зрабіць вывады і ўрокі. Даклад М. С. Гарбачова якраз і з'яўляецца для нас прыкладам, як трэба мужна і бясстрашна глядзець і на мінулае і на сучаснае нашай Радзімы, і як удумна і ўважліва трэба асэнсоўваць, аналізаваць і абагульняць факты рэчаіснасці, — і тыя, што сталі гісторыяй, і тыя, што ўзнікаюць і нараджаюцца сёння.

Бясспрэчна, што адна з галоўных задач, якая стаіць сёння перад намі, літаратарамі, — гэта яшчэ і яшчэ раз паглядзець, прааналізаваць, прасачыць, як творы беларускай літаратуры далучаны да ідэалаў Кастрычніка, як у іх увасабляецца рух ягоных ідэй. У якой ступені ў іх асэнсаваны шлях народа і рэспублікі за 70 гадоў? Ці ўсё праўдзіва і ці па-мастацку? Ці не давядзецца на многае зірнуць па-новаму і пісаць нанова? А найперш — пра самае галоўнае: пра Вялікі Кастрычнік на Беларусі. Ды і пра ўсе наступныя этапы сацыялістычнага будаўніцтва ва ўсёй іх складанасці і супярэчлівасці.

Відочна, нам прыйдзецца перажыць, асэнсоўваючы пройдзенае, нямала горкага і балючага. Гісторыкам літаратуры давядзецца гаварыць пра трагедыю тых нашых пісьменнікаў, што былі гвалтам вырваны з літаратуры і жыцця, і пра творчую трагедыю тых, што ў 30—40-я гады — у часы росквіту культу асобы — свядома ці несвядома па сутнасці здрадзілі свайму таленту, бо здрадзілі праўдзе. Давядзецца гаварыць, што, побач з сур'ёзнай і сумленнай, была і літаратура, якая старалася перш за ўсё дагаджаць, і што іменна яна доўгі час лезла наперад, на віднае месца, шумела і арганізоўвала шум вакол сябе...

Вучыцца праўдзе і шчырасці асабліва важна для маладых — для тых, што толькі прыходзяць у літаратуру. Моладзь хоча мець ідэалы, у якія б верыла, — палітычныя, сацыяльныя, маральныя, эстэтычныя... Як дапамагчы маладым, каб іх творчыя пошукі былі плённымі, каб у жыцці і творчасці яны кіраваліся прынцыпамі і ідэаламі Кастрычніка? Каб, скажам, іх натуральная цікавасць да мінулага свайго краю, да яго гісторыі, да народнай памяці развівалася не за кошт паслаблення цікавасці да таго здаровага і плённага, што нясе жыццё, дзень сённяшні, не за кошт паслаблення нашай рэвалюцыйнай, інтэрнацыянальнай самасвядомасці.

У каго вучыцца ідэалам, без якіх моладзь не можа — інакшай зойдзе ў духоўны тупік? Вядома, у вялікага правадыра рэвалюцыі У. І. Леніна і яго паплечнікаў. У вялікіх паэтаў і пісьменнікаў — як Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны... Але гэта гісторыя. А сёння? У каго, напрыклад, вучыцца, як шанаваць сваю мову, любіць яе, клапаціцца пра яе? Ці ў кожнага з сённяшніх старэйшых? Вось нібыта паважны пісьменнік — і з імем, і пры рэгаліях, — а ў яго кнігах мова кепская, без фарбаў і водару роднай зямлі. Мала таго, — у яго тоўстым томе публіцыстыкі — ні слова аб праблемах мовы, нават у плане культуры мовы, мовы як інструмента мастацкага пісьма. Здаецца, усё, што ёсць сумленнага сярод творчай інтэлігенцыі, крычыць ад болю за становішча, у якім апынулася наша мова, наша беларуская школа, а яму — а ні шум баравы, а ён толькі тое і думае, што пра новыя рэгаліі, пра новыя звыштыражы і звышперавыданні сваіх пузатых тамоў.

Моладзь законна задае пытанне: калі будзе выпраўлена становішча — і з беларускай школай, і з выданнем іх кніжак, і з вяртаннем творчай спадчыны нявінна пакараных смерцю? Моладзь хоча верыць у абвешчаны курс на праўду, на справядлівасць, на чалавечнасць, але калі нічога не рабіць практычна — то ў яе асяроддзі будзе наступаць страшнае расчараванне. І што ж тады? Глядзець, як бязвер'е і цынізм будуць раз'ядаць яе душу? Але з цынікаў сапраўдныя творцы, майстры мастацтва не вырастаюць.

Пазіцыя супраціўлення праўдзе, справядлівасці, гуманнасці, шчырасці асуджана на правал, асуджана партыйным курсам перабудовы. Чым хутчэй гэта зразумеюць яе абаронцы — тым лепш. Учора М. С. Гарбачоў сказаў: «Адступлення партыя не дапусціць». Значыць — павароту назад не будзе. Грамадства можа доўга цярпець фальшыўцаў і дэмагогаў — але ж не бясконца. Скрышаны канчаткова культаўскія запоры і засаўкі — гэтага трэба было чакаць. Інакшай хлусня і паказуха, крывадушнасць і бюракратычная дэмагогія зусім бы разбэсцілі грамадства, і яно зачахла б сацыяльна-эканамічна, апусташылася б духоўна, вырадзілася б маральна.

Пільнай пісьменніцкай увагі патрабуе гісторыя Кастрычніка, грамадзянскай вайны і першых двух дзесяцігоддзяў Савецкай улады на Беларусі. Паслухаць некаторых гісторыкаў, як яны вышукваюць і тыкаюць пальцам у «ідэйныя памылкі і ўхілы» відных дзеячаў беларускай навукі і культуры, дык можна падумаць, што яны большыя патрыёты народа і Савецкай улады, чым тыя, што за шчасце свайго народа гадамі гнілі ў царскіх турмах, нажывалі сухоты на сібірскай катарзе, ваявалі за Савецкую ўладу са зброяй у руках на франтах грамадзянскай, устанаўлівалі Савецкую ўладу на Беларусі, былі першымі народнымі камісарамі БССР, першымі савецкімі акадэмікамі і прафесарамі, першымі савецкімі паэтамі і пісьменнікамі. Адкуль у іх, хто сёння карыстаецца заваёвамі Савецкай улады, такая няўдзячнасць да тых, хто за гэту ўладу змагаўся і яе ўсталёўваў? Яны ўзялі на сябе ролю суддзяў — хаця вучоным проціпаказана такая роля. З якой лёгкасцю незвычайнай, з якой упэўненасцю яны судзяць тых, хто, на іх думку, памыляўся! Але: ці не стаіць за гэтай лёгкасцю судзейства, за гэтай упэўненасцю — элементарны недахоп культуры, дасведчанасці, інтэлігентнасці, звычайнай чалавечай сумленнасці, мужнасці — глянуць праўдзе ў вочы?

Ні гістарыяграфія, ні філасофія, ні літаратуразнаўства не могуць, як і любая іншая навука, развівацца без сутыкнення думак, поглядаў, меркаванняў. На многія спрэчныя, недастаткова высветленыя пытанні гістарычнага развіцця беларускага народа ёсць погляды, якія істотна адрозніваюцца ад тых, што афіцыйна абвешчаны адзіна беспамылковымі, ісцінай у апошняй інстанцыі. Ёсць іншыя — і вельмі сур'ёзныя, узброеныя фактамі — канцэпцыі старажытнай гісторыі Беларусі. Яны ўжо ў рукапісах, і ім трэба даць дарогу да чытачоў, інакшай — будзем мець грамадазнаўчы варыянт лысенкаўшчыны. Адзіны спосаб паважаць ісціну — шукаць яе дэмакратычна, адкрыта, шляхам дыскусій, абмену думак і без дыктату з якога-небудзь боку. Гэта тое, што было натуральным у 20-я гады, і дарэмна сяму-таму яно здаецца сёння страшнай ерассю.

Так, на многае нам прыйдзецца, улічыўшы гістарычны рух часу, паглядзець па-новаму, адкінуць штампы і ярлыкі, даць аб'ектыўныя ацэнкі, асэнсаваць сапраўды з навуковых пазіцый, вытравіць сляды невуцтва, узаконеную калісьці элементарную непісьменнасць і безгустоўнасць.

Адна з самых вялікіх і важных праблем, якія патрабуюць сёння вельмі ўважлівага падыходу, гэта праблема нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў жыцці, у мастацтве і літаратуры. Праблема, якую доўгі час трактавалі больш чым спрошчана — проста ігнаравалі, думалі, яе ўжо няма. А між тым... Вось што чытаем у найноўшых рускіх даследаваннях: «Современное историческое развитие не подтверждает прогнозов о затухании национальных литератур. Более того, во всем мире наблюдается заметное укрепление национальных истоков художественного творчества».

Многія нашы беларускія філосафы, гісторыкі, ідэолагі як бы не чытаюць гэтага — б'юць і б'юць у адну і тую ж рэйку: злівайце ўсё нацыянальна адметнае і самабытнае, злівайце ў імя росквіту культуры народа і духоўнага росту асобы! І крый бог — не захапляйцеся нацыянальнымі вытокамі!.. Але ж ёсць глабальныя, агульныя тэндэнцыі развіцця чалавецтва! І ёсць жа заканамернасці гэтага развіцця. Ці можна людзям навукі з імі так не лічыцца? Ці не безадказнасць гэта перад сваім народам, перад яго будучыняй?

Як на відочны прыклад таго, да чаго нам трэба вярнуцца практычна, спашлюся на рэформу беларускага правапісу, праведзеную дэкрэтам Урада БССР ад 1933 года; гэтай рэформай было, апрача ўсяго іншага, ліквідавана абазначэнне мяккасці зычных гукаў на пісьме — чым была нанесена нашай мове страшная шкода. Пазбаўленая адной з самых адметных сваіх фанетычных рыс, яна аказалася знявечанай і скалечанай і такою застаецца дасюль. Напомню, што гэта было здзейснена ў час самага разгулу пагромшчыкаў нацыянальнай культуры. Няма ў нас маральнага права мірыцца і надалей з паследкамі той экзекуцыі, якую ўчынілі невукі і чыноўныя бюракраты над адной з самых прыгожых моў славянскага свету.

Або такі прыклад, такая звышактуальная на сёння задача. Нам трэба адвярнуць моладзь ад чумы псеўдакультуры, ад рок-музыкі і іншага дзікага, абразлівага для мастацтва крыўляння. Але адвярнуць ад нечага аднаго — значыць, павярнуць да нечага другога. Да чаго? Да здаровых, плённых традыцый гуманістычнага, высакароднага мастацтва, да лепшага ў духоўнай спадчыне нацыі і свету, у народнай этыцы і эстэтыцы. Каб на аснове гэтых традыцый, на гэтым грунце маладыя вялі свае творчыя пошукі. Ці хочам мы да гэтага павярнуць іх? На словах нібыта так, а на справе?

Трэба адкрываць новыя маладзёжныя клубы, трэба, каб іх было як мага больш. Трэба адкрываць новыя трыбуны для абмену думкамі. Дарэчы, чаму ў БССР няма абласных маладзёжных газет — калі яны ёсць у РСФСР, на Украіне і ў іншых рэспубліках Саюза? Што за такія асаблівыя адносіны да беларускага камсамола і ўсёй нашай моладзі? І чаму маўчыць сам камсамол?..

І яшчэ адзін прыклад — ужо зусім творчага парадку. Нас заклікаюць стварыць вобраз героя нашага часу — у тым ліку, лепшага чалавека сучаснай вёскі. Хто ён — гэты герой-гаспадарнік? Ці не пара на некаторых з іх сёння ўжо глянуць трохі інакшай? На тых, напрыклад, чые поспехі мералі аднабакова, недакладнай меркай. Амаль не глядзелі, а як на яго вельмі хлебнай і вельмі малочнай тэрыторыі — з нацыянальнай культурай? З беларускай школай? З захаваннем помнікаў? З выхаваннем павагі да мясцовай гісторыі? Ці не ў яго на старажытных курганах пабудаваны свінарнікі? На нядаўнім рэспубліканскім партыйна-гаспадарчым актыве ў Брэсце т. Я. Я. Сакалоў крытыкаваў сельскую архітэктуру, забудову новых пасёлкаў — за безаблічнасць, за адсутнасць беларускага нацыянальнага каларыту. Справядлівая крытыка. І не толькі адной архітэктуры датычыць.

Такіх прыкладаў, якія сёння вымагаюць ад кожнага з нас павышанай мастакоўскай і грамадзянскай чуйнасці і пільнасці, смеласці і мужнасці, можна прыводзіць шмат. Я спынюся на гэтым — і запрашаю вас да актыўнай і зацікаўленай гаворкі. Дазвольце павіншаваць вас са слаўным 70-годдзем Вялікага Кастрычніка і аб'явіць чарговы пленум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі адкрытым.

## *Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР*

# Даклад Васіля ЗУЁНКА

Шлях народа ў 70 год прайшла і наша літаратура — як адна з галоўнейшых частак яго духоўнага жыцця. І калі сёння задаць сабе такое футуралагічнае пытанне: ці змогуць будучыя пакаленні, нашы нашчадкі, скажам, яшчэ праз 70 год цалкам даверыцца літаратуры нашага сямідзесяцігоддзя ў стварэнні рэальнай карціны жыцця народа на гэтым этапе, — то адказ, пэўна ж, мусіць быць адназначны: так, могуць. Літаратура наша ў асобе лепшых сваіх прадстаўнікоў і ў лепшых сваіх праяўленнях ніколі не хлусіла народу і часу. І калі сёння выстраіць такія творы — не па даце напісання, а па іх суаднесенасці з галоўнымі этапамі 70-гадовай барацьбы за здзяйсненне ідэй Кастрычніка, то пабачым не толькі панараму, але адчуем і ўсе глыбіні народных узрушэнняў, перажывём і ўрачыстыя моманты перамог, і горыч страт, і надзеі, і іх зруйнаванне, пабачым, як наша грамадства праз пошукі і супярэчнасці літаральна выпакутавала сацыялізм. Як і ў жыцці, былі, зразумела, і ў літаратуры спады, былі няўдачы, але ў галоўным кардыяграму жыцця народа яна давала дакладную.

Гэтыя вехі — ад «На імперыялістычнай вайне» Максіма Гарэцкага да «Паэмы сораму і гневу» Пімена Панчанкі — усім нам добра вядомыя.

І таму хацелася б гаварыць больш не пра вынікі, а пра ўрокі 70-гадовага, нялёгкага, складанага гістарычнага шляху, дзе ісці даводзілася найбольш першапуткам. І яшчэ — пра ўрокі, што пакінулі нам выдатныя творы. Мы будзем звяртацца да іх — як да крыніц прыпадаць. І трэба ўсё зрабіць, каб да іх, гэтых крыніц, ішлі нашы нашчадкі.

Вялікім Кастрычнікам народжана новая сацыяльная фармацыя і разам з ёю — новая мастацкая свядомасць мас, мастацкае светаўспрыманне працоўных людзей, угрунтаванае на сацыялістычных ідэалах, на гуманістычным разуменні законаў грамадскага агульнажыцця. Узнікла новая літаратурная супольнасць — савецкая, шматнацыянальная. 70-гадовы шлях літаратур народаў СССР пракладваўся праз асваенне новага сацыялістычнага зместу ў формах нацыянальных і меў на мэце — як адну з важнейшых перадумоў развіцця — узаемаабмен мастацкімі каштоўнасцямі і ўзаемаўзбагачэнне. Лозунг «Дружба народаў — дружба літаратур» хоць трохі і набыў агульнапараднае адценне ад празмерна частага ўжывання, глыбіннай сутнасці сваёй не растраціў. Сацыялістычны інтэрнацыяналізм, савецкі патрыятызм — прынцыпы, якія сцвярджаюцца нашай шматнацыянальнай літаратурай, служаць надзейным гарантам яе жыццядзейнасці, яе руху наперад,— у спасціжэнні лёсаў народных і чалавечых у сённяшнім свеце — складаным, супярэчлівым, неадназначным, але скіраваным сілай людскога духу да самай запаветнай мэты — камуністычнай. І ў гэтым — найгалоўнейшы ўрок і запавет, накрэслены Кастрычнікам усім, хто мае дачыненне да мастацкай творчасці.

Пісьменніцтва — як род чалавечай дзейнасці — складаецца з двух кампанентаў, дзвюх велічынь: жыццятворчасць, дзе чалавек творыць жыццё, а



Выступае В. Зуёнак

жыццё — чалавека, і ўласна творчасць, дзе чалавек, надзелены пэўнай здольнасцю, талентам, імкнецца расказаць людзям пра сваё разуменне жыцця, адкрыць сваю таямніцу. І якому з гэтых кампанентаў у зямным быцці мастака аддаць прыярытэт — цяжка сказаць. Не назавеш іх і раўназначнымі. Яны ўзаемапранікальныя, бываюць нават узаемавыключаемыя (калі толькі самім актам фізічнай смерці сцвярджаецца перамога і трыумф мастакоўскага жыцця), але сэнс і мэта іх рэалізуюцца толькі ў дыялектычным адзінстве. «Паэт — гэта лёс», — сказаў Аляксандр Блок. Працягнем: празаік — таксама лёс. І дададзім: крытык — лёс удвая.

Сёння можна толькі дапускаць нейкія меркаванні, як бы склаўся творчы шлях пакалення, што нарадзілася на працягу 30-х гадоў. Аднак усе сённяшнія гіпотэзы былі ўжо даўно перакрэслены адным трагічным ранкам — 22 чэрвеня 1941 года. Лёс ваеннага дзяцінства стаўся іх творчым лёсам — каго ні вазьміце: Ніла Гілевіча, Уладзіслава Нядзведскага, Сцяпана Гаўрусёва, Валянціна Тараса, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Івана Чыгрынава, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі, Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Дамашэвіча, Анатоля Грачанікава, Юрася Свіркі, Уладзіміра Паўлава. Наскрозь пранізаны гэтаю тэмай, гэтым болем і гэтай памяццю роздумы Віктара Казько, Міхася Стральцова, Янкі Сіпакова, Анатоля Кудраўца, Дануты Бічэль-Загнетавай, Петруся Макаля, Кастуся Цвіркі. Дабіраецца — праз эпічныя малюнкі заходнебеларускай вёскі — да «сваёй» вайны і Вячаслаў Адамчык... Гэта з'ява, якая патрабуе ўсебаковага літаратуразнаўчага асэнсавання і даследавання. Аднак у адным мы ўжо зараз можам быць пэўныя: пакаленне сказала сваё слова. Пры агульнасці гістарычнага лёсу кожны з іх — дзяцей вайны — сцвердзіў сябе ў літаратуры на грунце гэтага лёсу — сваім адметным голасам, стылем, бачаннем свету. Можа, гэта і страшнавата гучыць: але не было б вайны, не было б і гэтага, менавіта гэтага, творчага пакалення. Было б штосьці іншае...

Да трагічнага ваеннага эпіцэнтра прыцягваюцца думкі і тых, хто нарадзіўся пасля вайны,—Аляксея Дударава, Сяргея Законнікава, Таісы Бондар, Уладзіміра Някляева. Аднак, як мне ўяўляецца, ношу гэтага пакалення — а ім сёння ёсць што ўзяць на плечы і магчымасці расказаць пра сябе і сваё месца ў часе адкрыты шырокія, — браць перш за ўсё ім самім. Зрэшты, новыя кнігі і творы як згаданых таварышаў, так і Яўгеніі Янішчыц, Алеся Разанава, Васіля Гігевіча, Георгія Марчука, Генадзя Пашкова, іншых іх равеснікаў добра абнадзейваюць у гэтым сэнсе.

Так, сапраўдную кнігу, каб стварыць, трэба пражыць, выпакутаваць. У кожнага яно атрымліваецца па-свойму, і рэцэптаў, як гэта робіцца, апроч самога жыцця, ніхто не можа даць. Але што ён ёсць, гэты феномен, мы павінны ведаць, бо нельга, немагчыма без яго жыць у мастацтве. Я хачу падзяліцца момантам радасці яшчэ аднаго далучэння да такой таямніцы. Які ўжо раз бралася ў рукі гэтая кніжка. Цяпер я разгарнуў яе як бы па «службовай» неабходнасці — знайсці, каб працытаваць, не спадзеючыся на памяць, патрэбныя два-тры радкі. А выйшла так, што, і адшукаўшы іх, не мог адарвацца, чытаў паўдня — з тых некалькіх дзён, скупа адпушчаных службай. Дзякуй, Іван Антонавіч, за гэты «ўкрадзены» час, дзякуй за гэты яшчэ адзін—брылёўскі — сюжэт «праведнікаў і зладзеяў», народжаны томам вашых лірычных запісаў і мініяцюр, каб стаць неафіцыйным момантам афіцыйнага даклада.

Гэтак жа, мне здаецца, піша сваю кнігу вайны Васіль Быкаў, — кнігу, напісаную спачатку ўласным лёсам. А далучэнне да яго вопыту мірнага, цывільнага жыцця — да вайны ці пасля вайны — яшчэ шырэй раскрыла, паглыбіла магчымасці магутнага таленту гэтага пісьменніка. Вобразы Петрака і Сцепаніды сталі ў шэрагу класічных набыткаў беларускай літаратуры, а сам мастацкі спосаб стварэння іх наблізіў Васіля Быкава да таго ідэалу, які вызначыў Леў Талстой не толькі загалоўкам, але і формулай адлюстравання жыцця — «Вайна і мір».

Не будзем падмяняць час і расстаўляць замест яго ўсе ацэнкі на вялікасць, усе акцэнты і кропкі, але — што тычыцца тэмы «пісьменнік і лёс» — не лішнім будзе нагадаць словы Леаніда Лявонава: «Сапраўдны, вялікі пісьменнік можа нарадзіцца толькі з вялікага чалавека».

Гэтыя словы варта яшчэ паўтарыць і з думкаю аб заўтрашнім дні нашай літаратуры. Паўторым: выхаванне маладога мастака — гэта перш за ўсё выхаванне ў ім чалавека: ідэйна загартаванага, шырокага душой, дапытлівага і нястомнага ў пошуку, натхнёнага ўсім новым, непрымірымага да ўсякага дагматызму, да старых стэрэатыпаў як у сацыяльным, так і ў мастацкім мысленні. Гэта ідэальная праграма можа выклікаць у маладых таварышаў скептычную ўсмешку. І яна будзе справядлівай — у тым сэнсе, што абсалютна такія ж пажаданні не пашкодзіць адрасаваць усім нам — незалежна ад узросту. Але надзея — застаецца надзеяй: з ёю — будучыня. І таму не можа не турбаваць, што дзейнасць нашых самых маладых літаратурных сіл, тых, што яшчэ на падыходзе да Саюза пісьменнікаў, на жаль, застаецца пакуль што на ўзроўні абяцанняў і дэкларацый, якія даўно пара б — і ў гэтым наша самае запаветнае чаканне і жаданне — падмацаваць смелымі, наватарскімі па духу, напоўненымі пякучай праўдай жыцця мастацкімі творамі. Перабудова адкрыла такія магчымасці — аднак... «Парадоксамі самастойнасці» назвала гэтую з'яву ў нататках з XI рэспубліканскага семінара творчай моладзі карэспандэнт «Звязды» А. Ціхановіч (дарэчы, сама прадстаўнік маладога творчага пакалення, — значыць, голас чуваць не «збоку», а «знутры») і заўважыла: «Цэлае пакаленне падрасло з атрафіраванымі мышцамі самастойнасці — і вось цяпер — чаго трэба было чакаць — старт новага часу яно пачынае з замінкі». Парадаксальна, але ў маладых назіраецца яўны дэфіцыт маладосці, нестае таго, што крытык Уладзімір Гніламёдаў назваў «лірычнай энергіяй», «лірычнай дзёрзкасцю».

Імкненне не стаць ценем літаратурных папярэднікаў — якасць добрая і неабходная: толькі так нешта вартае можна зрабіць у творчасці. І робіцца. Згадаем Хрысціну Лялько, Міколу Мятліцкага, Леаніда Дранько-Майсюка, Леаніда Галубовіча, толькі што прынятую ў Саюз пісьменнікаў Ірыну Жарнасек. Аднак насцярожвае ў некаторых маладзейшых нейкая ненатуральная творчая самазадаволенасць, а яшчэ — другасная эксплуатацыя прыёмаў і форм, не падмацаваных важкім зместам. І як тут не параіцца з выдатным майстрам Іванам Мележам. «Наватарства, — гаварыў ён, — найперш у поглядзе на жыццё, на людзей, на час». Толькі такім, сапраўдным, наватарствам можна дасягнуць сапраўднай мэты: не аддаць душы маладых сваіх равеснікаў-чытачоў, адстаяць іх ад запаўнення і атручвання д'ябальскім зеллем «масавай культуры» самых нізкіх гатункаў. «Слухаць музыку рэвалюцыі» — гэта, мусіць жа, слухаць музыку сатварэння чалавека, а не вакханальнае гукавое суправаджэнне разбурэння чалавечай сутнасці — і духоўнай і, як сведчаць медыкі, фізічнай. Паэзію народнага слова, паэзію народных звычаяў і святкаванняў, паэзію рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця па законах народнай мудрасці клічам мы сёння вас, маладыя творцы, супрацьпаставіць какафанічнаму пахвальнаму маршу духоўнасці Чалавека.

Пэўная доля скепсісу маладых да старэйшых таварышаў



У зале пасяджэння

па пітаратурнаму цэху не беспадстаўная. Не трэба цешыць сябе: не ўсе творы рыхтавалі перабудову. Былі і такія, што мацавалі пазіцыі застою. Але вінаваціць адзін аднаго — ці самы гэта лепшы спосаб вырашэння справы?..

Прыгадаем, як радаваўся ў далёкія 20-я гады часопіс «Полымя», што яго малодшы сабрат «Маладняк» у сваім першым нумары — насуперак задзірыстаму лозунгу «У рожкі са старымі» — друкуе творы Купалы і Бядулі, што гэтым самым «сінтэзаваны бурнаімпэтныя, віхраста-бадзёрыя парывы нашага жывога маладняку з вялікай мастацкай вытрыманасцю і гартам нашых літаратурных ветэранаў...» А заўважым, друкаваліся там палымяныя купалаўскія радкі — «Арлянятам»:

Вам на памяць Серп і Молат  
Даравала доля,  
Каб з вас кожны быў, як волат,  
Не гнуў плеч ніколі,  
Каб здабытую свабоду  
Зналі, шанавалі

І у цяжкую прыгоду  
Ўсталі грознай хваляй.

Лепшыя творы прадстаўнікоў «бурапеннага» «Маладняка» трывала леглі новымі вянцамі ў будынак беларускай савецкай літаратуры. «Босыя на вогнішчы» — паэма Міхася Чарота — і сёння ўражвае нейкай нават кінематаграфічнай набліжанасцю — буйным планам вобраза, мастацкай формулай, у якой і малюнак, і сэнс увабралі ў сябе лёс народа. Босыя на вогнішчы, — так і бачыцца бясконцая хада мільёнаў разутых, абяздоленых па апаленых, пякельных — як тое вогнішча — дарогах гісторыі. Бачыцца і балгарскі танец несцінарак — на гарачым вуголлі, танец вогнепаклоннікаў, дзе — і закліananне агню і ачышчэнне агнём, рытуальнае вогненнае дзейства не толькі ног, але і духу, умацаванага агнём і роўнага агню. «Полымя» — гэтае слова ўспыхнула ў 1922 годзе і на вокладцы нашага першага літаратурнага часопіса, што і па сёння свеціць беларускаму чытачу верай і праўдай.

Набіралася моцы літаратурная рунь. Маладая ўзнёслая песня Уладзіміра Дубоўкі, Алеся Дудара, Паўлюка Труса, Андрэя Александровіча, Язэпа Пушчы, Тодара Кляшторнага, Уладзіміра Хадыкі, амсціслаўцаў Змітрака Астапенкі, Юлія Таўбіна, зусім юнага Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі, Максіма Лужаніна, Станіслава Шушкевіча, Цімоха Крысько (сённяшняга вясёлага і мудрага казачніка Васіля Віткі), Сяргея Грахоўскага падмацоўвалася трывалым словам першых празаічных твораў Міхася Зарэцкага, Кузьмы Чорнага, Платона Галавача, Міхася Лынькова, Рыгора Мурашкі, Яна Скрыгана (тады яшчэ і паэтычнага Янкі Відука)... Сатыра і гумар, байкі Кандрата Крапівы адразу ж рабіліся з'явай усенароднай. А там, за «негарэльскаю аркай», гучаў змагарскі голас Піліпа Пестрака, Валянціна Таўлая, Максіма Танка...

У пераемнасці пакаленняў — яшчэ адзін урок: толькі разам, у еднасці і добрым паразуменні — залог вырашэння складаных задач, што наканавала нам апошняя квадра XX стагоддзя.

Выслухоўваючы сёння справядлівыя ў цэлым закіды, асабліва з боку маладзейшых, як, напрыклад, у па-добраму задзірыстым, але занадта катэгарычным у абагульненнях артыкуле Леаніда Дранько-Майсюка з горкімі словамі «гэта праз нашую халопскую пакору



У. Казбярук, М. Мушынскі, А. Пяткевіч і К. Хромчанка.
Фота Ул. КРУКА.

час усё часцей і часцей ахінаўся заместа пэўных мастацкіх колераў у нешта аднастайнашэрае», — закіды наконт ілюстрацыйнасці, бесхрыбетнасці некаторых твораў, хацелася б трошкі паразважаць у гэтым кірунку.

Ілюстрацыйная літаратура... Баяцца такога вызначэння творцы, калі гучыць яно ў іх адрас, на ўсе лады праклінае гэты тэрмін крытыка... Ёсць, ёсць — ва ўсе эпохі была такая паўзучая літаратура... Аднак жа — адлюстраванне... Трэба ж нешта адлюстроўваць, нешта адстойваць, за нешта змагацца. Прыгадаем хаця б: чаму браўся за пяро Леў Мікалаевіч Талстой? Які генетычны код быў закладзены ў кожны яго мастацкі шэдэўр? Дзе той атам, што выбухам сваім учыняў ланцуговую рэакцыю?

А ўсё пачыналася ад, на першы погляд, «ілюстрацыйнасці», быццам бы трывіяльнай зададзенасці «праілюстраваць» пэўную ідэю, даказаць ісціну аргументам жыццёвага прыкладу. Атрымлівалася ж нешта зусім іншае: пабудова вырастала ў велічны гмах жыцця — з яго радасцямі, трагедыямі, падзеннямі і ўзвышэннямі. Прыгадаем, як намер асудзіць паводзіны жанчыны ў «Ганне Карэнінай» ператварыўся ў поўную сваю супрацьлегласць — стаўся гімнам жанчыне, яе фізічнай і духоўнай красе. Прамая дэкларацыя перамагалася сілай тварэння, як бы памірала, каб узнавіцца, ажыць у новай сваёй якасці — мастацкай, — што, аднак, па часе перастала задавальняць Льва Талстога і памкненні яго пачалі схіляцца да непасрэдна пропаведзі.

То як жа быць з такой «ілюстрацыйнасцю»? З тым Львом Талстым, што азначаны «как зеркало русской революции»? Выходзіць, ідэя заўсёды была рухавіком мастацкага твора. Але ідэя, якую сам мастак высняў для сябе, правяраў жыццём ці, прынамсі, жыццёвымі сітуацыямі, створанымі ўласным уяўленнем. А гэта не раўназначна «творчай працы» дзіцяці над кніжкай «Расфарбуй сам», дзе па гатовых контурах каляровымі алоўкамі запаўняюцца «пустоты». Малюнак атрымліваецца — на радасць мамы і таты ды і самога «мастака» — яркі, стракаты, толькі творчасці тут — на даўжыню алоўкавых грыфеляў.

Вось гэткая «мастацкая» ілюстрацыя, што робіцца пад пастанову ці рашэнне, сёння, здаецца, канчаткова губляе глебу пад нагамі. Калі ў жыцці партыя дае накірунак і заклікае да творчасці працоўныя масы — то хіба гэта не тычыцца літаратуры? Мастак заўсёды быў акумулятарам новых, творчых ідэй, новых пошукаў; наш час ставіць гэтае правіла ў ранг патрабавання.

Чым жа адказваем мы, калі партыя вяртае нас, вяртае краіну, вяртае грамадства да тых вытокаў, якія народжаны былі Кастрычніцкай рэвалюцыяй, уласна — да ленінскіх норм жыцця? Да крыўднага мала зроблена намі ў асэнсаванні сённяшніх працэсаў, што сапраўды па-рэвалюцыйнаму ўскалыхнулі наша жыццё.

Што ж мы — пісаць развучыліся? Не, мы проста неяк разгубіліся перад гэтымі адкрытымі дзвярыма галоснасці: гукаць ці пакуль што, на ўсякі выпадак памаўчаць?

Здаецца, разгубленасць гэта часовая. Ды, зрэшты, можна заўважыць, што сапраўдныя, выпрабаваныя майстры ў нейкай асаблівай перабудове і не маюць патрэбы. Як і раней па гарачых слядах падзей не рабілі яны аднадзёнак, так і зараз пішуць творы злабадзённыя, але моцныя, трывалыя, рэалістычна праўдзівыя. Прыгадаем паэзію Пімена Панчанкі, — яна ва ўсіх у нас на памяці. Альбо апошнія публікацыі Максіма Танка... Прыгадаем і парадуемся, што яны не належаць да той катэгорыі «шчаслівых» людзей, якім і тады было ўсё ясна і цяпер, — з адзінай папраўкай: яшчэ ясней стала.... Сапраўдныя мастакі здабываюць праўду: для народа, для партыі, для ўсіх. Яны не чакаюць каманды для перабудовы: прагучала слова «перабудова» —і, калі ласка, майце: мы ўжо тут як тут—перабудаваліся, крутануліся флюгерамі на 180 градусаў.

Перабудова — гэта новае мысленне, падмурак якога — у глыбіннай народнай праўдзе быцця і ў такім жа глыбінным, народным аптымізме будучыні, несупыннасці жыцця («Паміраць ладзься, а жыта сей...»). І літаратура, узнімаючы гэтыя пласты векавой, працоўнай мудрасці, тым самым спрыяе руху грамадства наперад, а не яго вясёлай, на допінгавым падпітку, хадзе ўлукаткі — ад аднаго кіруюча-апорнага частаколу да другога. Мастак не ілюстратарам павінен быць, а жывой душой сапраўднага стану грамадства, высвятляючы яго і нацэльваючы яго на арыенціры, абраныя нашай рэвалюцыяй у 1917 годзе. А калі, як заўважыў М. С. Гарбачоў на сустрэчы з кіраўнікамі сродкаў масавай інфармацыі і творчых саюзаў, «пачнуць здгукацца на вялікую справу, якую мы задумалі, не асэнсаваўшы яе, адгукацца шэрасцю, то такі водгук нам не патрэбен».

Вялікі абсяг творчых пошукаў адкрыўся тут найперш для публіцыстыкі. Ды і для паэзіі, і для драматургіі...

Не будзем прыспешваць манументальную прозу, аднак жа нагадаць не лішне... Праўда, першыя ластаўкі ёсць. Вось хоць бы — аб самым балючым — апавяданне Івана Пташнікава «Львы», аб чарнобыльскай бядзе... Гэта новая, трагічная прыступка экалагічнай лесвіцы, па якой вялі чытача раней, яшчэ да чарнобыльскай эры, Віктар Казько, Віктар Карамазаў і Алесь Жук — «Нерушам», «Пушчай», «Паляваннем на апошняга жураўля»...

Усе апошнія гады ў мяне як у чытача ёсць патаемнае чаканне, а хутчэй — жыве надзея, што скажа, бо не можа не сказаць, сваё слова, узгадаванае на палетку сённяшніх дзён, Васіль Быкаў.

Пакуль жа мы толькі можам канстатаваць, што ў нас няма чаго паставіць побач з «Пажарам», «Сумным дэтэктывам», «Плахай», «Усё наперадзе»...

Мы дружна заклікаем адзін аднаго, тлумачым, а здаецца, і нам, пісьменнікам, час перайсці ад слоў да справы, хоць і гучыць гэта парадаксальна, бо словы — наша справа. Аднак жа — колькі б мы ні гаварылі, а сур'ёзных творчых набыткаў у подступах да самых балючых праблем грамадства дапытлівым вокам чытача пакуль што не заўважаецца.

Каб напісаць новыя творы пра новае ў жыцці, каб пульсаваў у іх дух перабудовы, трэба, перш за ўсё, перабудоўвацца самім (не зважаючы, як ужо гаварылася, што кожны недзе носіць у куточку душы аргументы сваёй пастаяннай «перабудаванасці»). Ісціна не новая. Помніце — у Чэхава — пра неабходнасць кроплю за кропляй выціскаць з сябе раба. Выйшла так, што з цягам гадоў многія з нас, літаратараў, самі сталіся рабамі. Рабамі занудлівага чалавечка, што сядзіць дзесьці ў кожнага за пазухай, паслужліва выпраўляючы, трафарэтна абалваньваючы яшчэ не выказаныя ўголас — з самых пялёнак — думкі і ідэі. Выціснуць, выгнаць з сябе гэтага «ўнутранага» рэдактара-перастрахоўшчыка, глянуць на свет па-чалавечы смела, шырока, з пазіцый часу, па-партыйнаму прынцыпова, — відаць, ці не першая перадумова нашай творчай перабудовы. Грамадства мяняецца праз тыя перамены, што адбываюцца ў чалавеку — кожным і канкрэтным. Не складае ў гэтым сэнсе выключэнне і часцінка грамадскай самасвядомасці — літаратура. Абстракцый тут быць не можа. З сябе пачынаць перабудову, — гэта тычыцца і нас, пісьменнікаў, і шырэй — усіх, будучых герояў нашых твораў, а найперш тых, хто, заўважаючы «парушынкі» ў чужым воку, у сваім не бачыць бервяна, хто цвярдзіць штодзённа аб усталяванні сацыяльнай справядлівасці, і з такой жа штодзённай пастаяннасцю да яго пад'езда падкатвае машына з такім шырокім і тоўстым задам, і пад акампанемент гэтага лозунга вёрткі шафёр-экспедытар валачэ ў кватэру чамадан з правізіяй. А людзі ж усё гэта бачаць і ацэньваюць... Яно, зразумела, чалавек заняты — аформіў заказ з дастаўкай на дом. І гэта было б па справядлівасці, калі б тое ж самае і з тым жа самым мог зрабіць кожны просты рабочы ў кожным бліжэйшым магазіне. Пакуль жа гэта не забяспечана, то, відаць, справядлівей будзе, каб жонка таго ж занятага таварыша, скажам, міністра гандлю ці яго намесніка, штодня сустракалася ля прылаўка ў чарзе з жонкай рабочага, і вечарам дакладвала мужу-міністру, як трэба палепшыць гандлёвую справу. Давайце так збліжаць лозунгі з жыццём! А прыкладаў для гэтага нам рэвалюцыя дала нямала. Усе мы помнім, як літаральна траціў прытомнасць ад голаду нарком харчавання Цюрупа, камуніст ленінскай школы і ленінскага гарту. Бо ён не мог сабе дазволіць жыць не так, як жыве народ. Інакш губляецца сэнс рэвалюцыі.

Яшчэ адна небяспека на шляху перабудовы: мы вельмі здорава навучыліся траціць намаганні не на паляпшэнне справы, а на «чарговыя меры» па далейшаму паляпшэнню... Стварылася катастрафічнае разыходжанне паміж тым, як разумеў, успрымаў і асэнсоўваў жыццё чалавек працы — стваральнік матэрыяльных каштоўнасцей, эканамічнай базы сацыялізму, і чалавек афіцыйна-бюракратычнага апарату, лозунг якога, афіцыйны заклік прыгожы і правільны, а дзеянні ў многіх — мяшчанскія, асабліва, калі ён пакідаў службовы кабінет і «расслабляўся» ў дамашняй ці інтымнай абстаноўцы... Гэтае раздваенне, а то і растраенне асобы («гавару адно, думаю другое, раблю трэцяе») прывяло да ўтварэння як бы двух пластоў жыцця: адно — рэальнае, другое — папяровае. І вось такі «носьбіт» папяровага жыцця — самы страшны, па сутнасці, праціўнік перабудовы. Чалавек, які не мае канкрэтнага занятку з канкрэтным карысным вынікам, але мае канкрэтную і — неблагую — зарплату і штодзённы важкі кавал матэрыяльных даброт, натуральна вымушаны якімсьці шляхам штодзённа сведчыць, што ён адпрацоўвае ўсё гэта. Інакш нехта пакажа пальцам: «ці не дарма ты хлеб ясі»? Трэба даказваць адваротнае, бо здаўна вядома: што напісана пяром — не высечаш тапаром...

Сцвердзілася сама сабою такая бюракратычна-джэнтльменская змова: ты мне паперу — я табе... І каб усё сыходзілася — дэбет з крэдытам, каб не ўзнікала лішніх, пабочных, пытанняў і клопатаў: «Я спытаю: — Белае? — Ты адкажы: — Белае».

Уяўляеце сабе — 18 мільёнаў цыркуляраў штодзённа! (Так ва ўсякім разе павінна быць: 18 мільёнаў упраўленцаў у краіне). Хай у кожным цыркуляры па 2 старонкі (у сярэднім), то 2×18 будзе ўжо 36 мільёнаў ды на адказ столькі ж («ты мне — я табе»), і выходзіць штодзённы «раман» нашага жыцця ў 72 мільёны старонак!.. Далей за аптэкарскую дакладнасць падліку я не паручаюся, але галоўнае — у тэндэнцыі. А яна такая: калі ўзяць, што стосік паперы ў 100 аркушаў прыкладна мае вышыню 1 см, то штодзённа «творыцца» папяровая гара вышынёю 7,2 км, — без малога штодзённы Эверэст!

Для нас, пісьменнікаў, сёння важна ўберагчыся, каб нейкая глыба ад гэтага сучаснага геалагічнага ўтварэння не навалілася і не прыціснула жывую літаратурную справу. Хай лепш папера ідзе на занатаванне новых твораў, якія б, у прыватнасці, змагаліся і з гэтым папяровым Эверэстам.

Застойныя гады ўзвялі на п'едэстал панавання сацыяльна-эстэтычны прынцып ацэнкі, які грунтаваўся не на жыцці, а на ўяўленні пра жыццё: гэта няпраўда, бо так быць не павінна. Такі крытэрый «працаваў» і ў эпоху «лакіроўкі» і ў эпоху «гераізацыі». І вельмі прыкра, што зноў — ужо амаль з таго свету — пераносіцца ў палату рэанімацыі непрыманне «маленькага» героя, зноў пачынаюць гучаць абвінавачванні ў «дэгераізацыі» рэчаіснасці, зноў супрацьпастаўляецца будзённая праўда жыцця нейкай «эталоннай», «пародзістай» з вялікімі надоямі і перамогамі праўдзе. Каму і навошта патрэбна сёння ўзводзіць гэтыя штучныя барыкады з заляжалай старызны думак? Няўжо мы не паразумнелі за апошнія 30 год, каб не зразумець гуманістычную сутнасць літаратуры, і, наогул, мастацтва: калі чалавек зарыўся з галавой у зямлю і чакае, пакуль гухне чарговы выбух бомбы ці міны, а пасля ўзнімаецца і, аглухлы, бяжыць у атаку; калі чалавек тую ж самую зямлю палівае штодзённа потам, каб радзіла яна хлеб, — дык які ж гэта «маленькі» герой? Гэта ж самы што ні ёсць герой нашага часу! «Маленькі» ён можа быць толькі ў паказе пісьменніка, бо ў таго не хапіла сіл ці таленту раскрыць усю веліч подзвігу і пакут свайго героя. Гэта ўжо іншая справа.

Да ваеннай тэмы, мне здаецца, павінна быць асаблівае стаўленне. Мы павінны помніць, ды і маладым часцей нагадваць тых, як назваў іх равеснік — сёння вядомы пісьменнік, акадэмік Іван Навуменка — хлопцаў семнаццатай вясны, якія стваралі падполле, бралі зброю, ішлі ў партызанскія атрады — на змаганне за ідэалы Кастрычніка. У такой жа меры сказанае мае на ўвазе і нашых франтавікоў. Кожны чалавек — аб гэтым кажуць нам і новыя, нядаўнія, публікацыі Івана Новікава, Аркадзя Марціновіча, Кастуся Кірэенкі, Навума Кісліка, Аляксея Русецкага і многіх іншых — нясе ў памяці і ў душы сваю вайну і кожнаму яна па-свойму прыходзіць у сны, трывожыць і не дае спакою. І таму кожны з тых, каго абмінула смерць (успомніце, што ў пакаленні Васіля Быкава гэта адзінкі з соцень), мае запавет сяброў, а з ім і права паказаць сваё бачанне вайны, тое, што адкрылася яму на гэтых кругах пекла, і хаця б так, на паперы, расквітацца з ёю — бяссоннай ваеннай памяццю. І мае, нарэшце, права быць надрукаваным. Павінна застацца для нашчадкаў яшчэ адно сведчанне непасрэднага сведкі трагічных падзей... Але ўсё гэта магчыма пры адной умове, пра якую Васіль Быкаў сказаў: «Было б злачынствам і перад сучаснікам і перад будучай гісторыяй пакінуць нашчадкам паўпраўду «культаўскіх» твораў, горшую за бессаромную хлусню, белетрыстычнае «сачыніцельства» пабочных назіральнікаў і лакіроўшчыкаў. Абавязак кожнага сведкі і ўдзельніка мінулай вайны — гаварыць толькі праўду, якой бы горкай яна ні здавалася, будучы пры гэтым бязлітасным у сваёй шчырасці».

Так, гэта ўжо само па сабе — вялікі талент: сказаць праўду... Забудзь пра хітрыкі і спакусы «мастацкасці» — дай праўду. І тады, можа, гэтая праўда загаворыць з вялікаю мастацкаю сілай, як загаварыла яна галасамі герояў кнігі Адамовіча, Брыля і Калесніка «Я з вогненнай вёскі...» ці — Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар». І таму паасцеражэмся судзіць сучаснікаў імем літаратуры (імем вечнасці), — іх можна судзіць пакуль што толькі імем праўды. Я помню, як узрушылі маё чытацкае сэрца старонкі «Вогненнага азімута» Алеся Асіпенкі непадробленай, непадфарбаванай праўдай малюнкаў і эпізодаў першых крокаў арганізацыі партызанскай барацьбы (хаця б аб тым, як выпорвалі з запечкаў некаторых дужых, раптоўна пабарадзелых мужчын). Гэтае самае пачуццё судакранання з праўдай я перажываў, упершыню чытаючы «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава. Магчыма, эмацыянальныя згадкі не самы прыдатны спосаб аргументацыі ў такім сур'ёзным жанры, як даклад, але, бадай, лепшых «козыраў» у мяне няма.

Як слова наша адгукнецца? — непакоіць гэта сёння і старэйшых працаўнікоў роднай літаратуры і самых маладых. Любая ідэя, якая б ні была яна добрая, набывае жыццёвую сілу, калі яна аваlодвае сэрцам, помысламі, звычайнымі будзённымі памкненнямі чалавека. І таму не могуць не здзіўляць нейкія няўцямныя, блізарукія, а можна нават сказаць, мяшчанскія разважанні, а то і кіраўнічыя сцвярджэнні (калі гэты мешчанін сядзіць у кіраўнічым крэсле) — самых розных калібраў — у адносінах як да самае літаратурнай творчасці, так і да яе вынікаў, ураджаю: маўляў, вы напісалі — ваш і клопат гукаць чытача да свайго «літаратурнага прылаўка». Гэты гандлярскі падыход стаіць у прамой супрацьлегласці да ленінскіх палажэнняў аб тым, што літаратура — неад'емная частка справы партыйнай. Усё таленавітае павінна брацца на ўзбраенне нашымі ідэалагічнымі работнікамі,

(Заканчэнне на стар. 8—9).

# Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5).**

павінна знайсці чытача, дайсці да яго. І вось якраз на гэтай дарозе трэба расчышчаць завалы, створаныя за апошнія дзесяцігоддзі няўвагаю, абыякавасцю да беларускай мовы, мовы, на якой творыцца літаратура, — высокамастацкая і высокаідэйная. Імем партыйнага абавязку мы павінны супрацьстаяць валюнтарысцкаму звужэнню сферы ўжывання беларускай мовы, бо менавіта яна з'яўляецца носьбітам неацэнных духоўных багаццяў народа, багаццяў, якія засведчаны беларускай літаратурай і, несумненна, будуць яшчэ створаны ў часах наступных. Мудрыя словы сказаў Карл Маркс: «Колькі мы ведаем моў, столькі разоў мы — людзі». То па якому ж праву адымаецца ў нейкага хлапчука ці дзяўчынкі яшчэ адна магчымасць далучыцца да гэтага высокага наймення, а ў дзяцей наогул — яшчэ адзін раз, кажучы словамі Купалы, «людзьмі звацца»? Трэба вяртаць беларускую школу, а ў ёй з аднолькавай любоўю і пашанай вывучаць як родную мову, так і рускую — мову нашага братэрства, міжнацыянальнага яднання і духоўнага ўзаемаўзбагачэння.

Для нас у гэтым пытанні нейкіх іншых адценняў не было і не будзе. І што значыць для беларускіх пісьменнікаў руская літаратура, скажам словамі двух яе выдатных прадстаўнікоў. Васіль Быкаў: «Вялікая руская літаратура была і застаецца той галоўнай школай духоўнасці, якую павінен прайсці кожны, перш чым асмеліцца дабавіць у ёй нейкі свой радок»... Янка Брыль — зусім канкрэтна, з дакладным адрасам і вельмі інтымна: «Что такое искусство?» Чытаю, вучачыся пісаць, рыхтуючы сябе да жыццёвага подзвігу», — як душэўнае прызнанне Льву Мікалаевічу. І яшчэ: «Дзесяць дзён шчасця працы, высакароднага адпачынку — «Вайна і мір»...

Сведчанні вычарпальныя і гранічна ясныя.

Сённяшні росквіт беларускай літаратуры — вынік не толькі выяўлення таленту народа, але і ўмоў, якія былі створаны гэтаму таленту Кастрычнікам, а перад усім — вольнае развіццё ў сям'і вольнай, новай.

Чаму ж на гэтай дарозе ўзнікаюць пытанні, а потым яшчэ пачынаюць абрастаць новымі? А таму, што мы, часцей за ўсё, недаравальна спазняемся з адказамі на іх. Жыццё не стаіць на месцы. Жыццё рухаецца, развіваецца. Жыццё ставіць праблемы — яны не са столі валяцца. Вядомая рэч — жыццё і вырашыць іх. Але, відаць жа, павінна быць у нас і навуковае прадбачанне, гіпотэза. Хто патлумачыў, напрыклад, як разумець тэзіс «Зліццё нацый праз іх росквіт»? Гэта што — азначае ў пару самага росквіту ўзяць ды зрэзаць дрэва? Ці пасля росквіту наступіць эра адмірання і адмаўлення ўсяго нацыянальнага? Альбо чаму ў практычных ацэнках і вывадах іншы раз пераважае неакрэсленасць у трактоўцы, а то і падмена паняццяў «нацыянальнае» і «нацыяналістычнае»? І тут слова, перш за ўсё, за нашымі грамадазнаўчымі навукамі — філосафамі, гісторыкамі, сацыёлагамі. А што яны сказалі на гэты конт? Ды амаль нічога. Паўтарэнне агульных, прапісных ісцін, без уліку гістарычнага руху, дыялектычнага развіцця грамадства, — гэта яшчэ не навука. Гэта кансерватыўная канстатацыя аднойчы сказанага ці зацверджанага пячаткай. Не агароджвацца цытатамі з класікаў, а браць у іх урок падыходу да з'яў рэчаіснасці; не гатовых рэцэптаў шукаць на ўсе выпадкі, а вучыцца мастацтву дыялектычнага вырашэння пытанняў, якія ці не штодня ставіць наша імклівае, дынамічнае ў сваёй складанасці жыццё,—на такія шляхі скіроўвае нас XXVII з'езд партыі, у тым ліку і ў пытанні ўдасканалення патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання працоўных.

Вядомы рускі гістарычны пісьменнік, даследчык фальклору і народнага побыту Дзмітрый Балашоў у адным з нядаўніх інтэрв'ю гаварыў: «...народ жывы, пакуль жывая яго гістарычная памяць. Канчаецца памяць — канчаецца нацыя, пачынаецца штосьці іншае»...

Нямала зроблена апошнім часам па навуковаму ўпарадкаванню і асэнсаванню нашай культурнай спадчыны. Выданне шматтомнага збору беларускага фальклору — з'ява, можна смела сказаць, унікальная і наватарская. Аднак непакоіць іншае: ці стане гэты неацэнны духоўны скарб з'явай сённяшняга культурнага жыцця рэспублікі, залогам яе далейшага ўздыму? Ці ўсё застанецца на ўзроўні паліц кнігасховішчаў? Песні, сабраныя ў народзе, павінны зноў вярнуцца ў народ — новымі творамі, новай музыкай, ускормленай народнымі каранямі і акрыленай ідэямі і настроямі нашага часу. Духоўная спадчына народа — надзейны падмурак наватарскіх пошукаў самых найноўшых стыляў, рытмаў, колераў. І, мабыць, тады перастане гуляць па душах нашых дзяцей і ўнукаў бязродная і бязладная наркаманія слоў і гукаў, адзіным вымярэннем якіх з'яўляюцца дэцыбелы...

Амаль ужо закончана выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Дастойнае ўшанаванне знайшлі тут магілы абаронцаў Радзімы ў гады Вялікай Айчыннай вайны і мемарыяльныя знакі, звязаныя з іх імёнамі і подзвігамі. Аднак пытанні, пастаўленыя праз тыднёвік «ЛіМ» Нілам Гілевічам, можна адрасаваць не толькі кнізе І-й тома «Мінская вобласць» у дачыненні да асвятлення, а дакладней сказаць, неасвятлення тэмы «Янка Купала і Лагойшчына», але і артыкулам пра іншыя раёны, дзе абыдзены многія мясціны, звязаныя самым непасрэдным чынам з культурай беларускага народа. Спашлюся таксама на свой, дамашні прыклад. У артыкуле пра мястэчка Халопенічы Крупскага раёна ні словам не згадана, што нарадзіўся тут, правёў дзіцячыя і юнацкія гады, тут наслухоўваўся ад сваёй бабкі казак, паданняў, песень і легенд вядомы фальклярыст і этнограф Адам Ягоравіч Багдановіч, — а з гэтай жа крыніцы, безумоўна, чэрпаў і сын Адама Ягоравіча—класік беларускай літаратуры Максім Багдановіч. Дарэчы, і пра тое, што сярэдняя школа ў Халопенічах носіць імя Багдановіча, не сказана. А чаму б не згадаць пра вёску Шчаўры таго ж раёна, куды прыязджаў да сяброў адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Дунін-Марцінкевіч, маляўніча апісаўшы дарогу сваёй вандроўкі ў вершаваным апавяданні «Літаратурныя клопаты», а само гасцяванне — у «Шчароўскіх дажынках» (сучаснае напісанне і назва, якая замацавалася ў народным ужытку — Шчаўры). Можна запярэчыць, што няма фармальных падстаў для ўпамінання такіх мясцін у «Зборы...», бо не засведчаны яны мемарыяльнымі адзнакамі. Заўважым, што гэта ўжо само па сабе кепска. Але ці лепшы варыянт наогул абыходзіць іх маўчаннем? Гэта ж мясціны, звязаныя з нашай культурай,—дык хай бы адзначаны былі яны хоць словам у такім шаноўным выданні. Зрэшты, тады б і знакі хутчэй паявіліся...

Не ўнік замоўчвання і энцыклапедычны даведнік «Янка Купала»— не адзін і не два яго творы не знайшлі тут навуковага адбітку. Да якога ж гэта часу мы з такім зняважлівым недаверам будзем ставіцца да спадчыны народнага паэта, які звяртаўся да роднай Беларусі словамі гарачага закліку: «Выйдзі стрэнуць свой Кастрычнік песняй гулкай, звонкай!..»

Дарэчы, ашчаднаму захаванню і вяртанню народу ўсяго, што мае мастацкую каштоўнасць і вартасць, нам трэба павучыцца сёння ў рускіх таварышаў. Друкуюцца творы—з належнымі каментарыямі, тлумачэннямі—людзей, якія пакінулі Радзіму, будзем так гаварыць—нават зацятых антысавецчыкаў, друкуецца і тое, што не магло прыйсці да чытача ў гады культу ці застою. Нічога, вартага культурнай спадчыны народа, не прападае. Мы ж ледзь-ледзь зрушылі справу з выданнем Алеся Гаруна, чалавека, які дзесяць год пакутаваў за народную волю на царскай катарзе. Застаюцца невядомымі шырокаму чытачу раман «Крывічы» М. Зарэцкага, «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя і іншыя творы.

Яшчэ з часоў зараджэння сацыял-дэмакратычнай думкі ў Расіі, у тым ліку, зразумела, і ў Беларусі, развіццё грамадства ставілася ў залежнасць ад сацыялізму, а само гэта паняцце яднала, як мы цяпер бы сказалі, «інтэгрыравала» мінулае, сённяшняе і будучае. І таму любое адступленне ад гэтага трыадзінства было і ёсць адступленнем ад сацыялізму. А вось жа знаходзяцца ў наш «просвещенный век» самадзейныя мастацтвазнаўцы з кабінетаў гарадской канторы «Саюздруку» і «Галоўпаштамта», якія, ні кропелькі не бянтэжачыся, тыражыруюць «новыя падыходы» да ацэнкі гістарычна-культурнай спадчыны, бяздоказна і безапеляцыйна сцвярджаючы, што «архітэктурная і гістарычная каштоўнасць многіх з гэтых помнікаў «весьма сомнительна». Увесь культурны свет па чарапку, па крупінцы збірае рэшткі сваіх помнікаў, а ў нас з гэтакім «почтмейстерским» размахам направа і налева «размятаюць» архітэктурныя збудаванні— з таго нямногага, што цудам ацалела ў агнях войнаў і стагоддзяў...

Апошнім часам з'явіліся і ў нас публікацыі пра некаторых дзеячаў, імёны якіх звязаны з літаратуразнаўствам, мовазнаўствам, гісторыяй, наогул культурай,—як, да прыкладу, Ігнатоўскі, Лёсік. Спроба слушная і своечасовая—з сучасных пазіцый паглядзець, што значаць гэтыя асобы ў гістарычным кантэксце развіцця той ці іншай навуковай галіны, грунтоўна, доказна, без экзальтацый прааналізаваць усе іх «плюсы» і «мінусы». Але калі такая мэта маецца на ўвазе, то ажыццяўляць яе варта іншымі сродкамі. Сённяшні чытач чакае аргументаў, яго можна пераканаць матэрыяй сутнасці, а не паўтарэннем «матэрыялаў», сфармуляваных у стылі пракурорскіх допытаў і абвінаваўчых заключэнняў 30-х гадоў. Такім спосабам можна напалохаць, але пераканаць немагчыма...

Трэба нам больш паслядоўна і абгрунтавана праводзіць мемарыяльную палітыку, ушаноўваючы памяць дзеячаў роднай літаратуры і культуры ў назвах вуліц, навучальных установ, культурных цэнтраў. Гэта будзе найлепшы працяг справы, пачатак якой пакладзены ленінскім планам манументальнай прапаганды адразу ж пасля здзяйснення Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Вось толькі некаторыя факты. Гродзенскі педагагічны інстытут насіў імя Янкі Купалы, атрымаў ён статус універсітэта і застаўся безыменным. А хіба імя народнага паэта не прыдатнае ці не дастойнае, каб атрымаць універсітэцкую прапіску? Ці зноў жа універсітэт—Гомельскі. У ранзе педінстытута ён меў імя Чкалава (што само па сабе, пры ўсёй павазе да памяці славутага лётчыка, было не лепшым варыянтам), — а зараз? Хіба зямля беларуская ды і тая ж Гомельшчына не маюць дастойнага сына ці дачкі, каб іх імя спалучылася з імем маладога універсітэта?

Мінскі гарсавет не заўжды прадумана перайменоўвае вуліцы, абразаючы і без таго не надта трывалыя карані гістарычнай памяці нашай сталіцы, пасля кідаецца ў адваротны бок, рассякаючы аднайменную вуліцу на дзве—як бы разрываючы яе паміж старым і новым іменем. А ў той жа час—я здзівіўся нядаўна, адкрыўшы гэта для сябе,—ёсць у Мінску пасёлак Паўночны, а ў ім вуліцы — Алтайская, Ангарская, Ахоцкая, Байкальская, Дзяжнёва, Енісейская, Іркуцкая, Хабараўская, завулкі — Табольскі, Зімні... (Праўда, нейкім цудам прарвалася ў гэтае царства і Летняя вуліца)... Што гэта—філіял Сібіры ў Мінску? І як тут не ўспомніць радкі з верша Пімена Панчанкі «Скарга Палярнай вуліцы», адрасаваныя «таварышу з гарсавета».

Ці ён змёрз, ці то настрой
меў хмарны ён,
Ці зусім знядужыўся
ад спраў...
Вуліцу, дзе мы жывём,
Палярнаю
Нехта з вас, таварышы,
назваў...—

гэта было напісана ў 1951 годзе,—аказваецца, і сёння малюнак той жа...

Радасна, што мацнее ў нашай літаратуры дрэва, якое з самаадданым клопатам вырошчваў Уладзімір Караткевіч. Цікавасць да гістарычнай і асабліва гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы скіроўвае сёння асноўныя творчыя намаганні Леаніда Дайнекі, Кастуся Тарасава, Вольгі Іпатавай, Генрыха Далідовіча, Эрнеста Ялугіна, Уладзіміра Арлова. Тут, аднак, хоць пачатак і зроблены, яшчэ непачаты край работы, а стан і час перабудовы даў для яе новыя спрыяльныя імпульсы. Гэтак жа шмат трэба нашай літаратуры яшчэ зрабіць і ў адлюстраванні вобраза Уладзіміра Ільіча Леніна. Творы Івана Шамякіна, Васіля Хомчанкі ў прозе, Анатоля Вялюгіна, Генадзя Бураўкіна ў жанры паэмы, Паўла Ткачова ў літаратуры для дзяцей — гэта яшчэ толькі пачатак нашых падступаў да невычэрпнага акіяна, імя якому — Ленінскае жыццё. Час ад белетрызацыі вобраза ісці ў яго дыялектычную складанасць, шматграннасць, філасофскую і чалавечую глыбіню.

Слаба, а то і амаль не выкарыстоўваем мы грандыёзныя, выключныя магчымасці тэлебачання ў прапагандзе, асвятленні, папулярызацыі сваёй гістарычнай, літаратурнай спадчыны. Успомнім, як прыцягваў увагу да блакітнага экрана Міхайла Ламаносаў. А дзе нашы тэлефільмы пра Скарыну, Каліноўскага, Цётку? А які цудоўны музычна-паэтычны фільм малюе ўяўленне пра Максіма Багдановіча! А Янка Купала, Якуб Колас, — час ужо і ім стаць героямі тэлевізійных мастацкіх серыялаў. Сцэнарыі, спытаеце? Ёсць раманы, ёсць кнігі — Алега Лойкі, Валянціны Коўтун, Анатоля Клышкі, — чаму ж не быць сцэнарыям? А драматычныя паэмы Аркадзя Куляшова, Міколы Арочкі, Нэлы Тулупавай — хіба гэта не выдатны матэрыял для тэлесюжэтаў? І першы свой позірк у бок «блакітнага ўладара» павінна б звярнуць секцыя драматургіі — і Мікола Матукоўскі, «Мудрамер» якога на купалаўскай сцэне атрымлівае шматлікія апладысменты, і Алесь Петрашкевіч, і Леў Караічаў, і Алесь Асташонак.

Сёння востры непакой выклікае работа нашых творчых секцый. Але вось паслухайце: «Некалькі гадоў мы гаворым аб дрэннай рабоце камісіі па крытыцы... А што было зроблена, каб ажывіць яе работу? Пакуль што нічога. Слаба працавалі і творчыя секцыі Саюза пісьменнікаў, якія ў першую чаргу павінны былі ўзнімаць і абмяркоўваць на сваіх пасяджэннях усе важнейшыя праблемныя пытанні развіцця жанраў. Але такія пасяджэнні праводзіліся рэдка і абмеркаванне новых твораў часта праходзіла на іх або фармальна, або з аглядкай на рангі, без сур'ёзнага творчага разбору і прынцыповай крытыкі», — гэта было сказана Іванам Шамякіным ні мала ні многа — ажно ў 1954 годзе: як у той быліне Ілья Мурамец роўна «тридцать лет и три года» сіднем сядзіць гэтае пытанне. Дык ці не пара яму, нарэшце, як былінному герою, і ўзняцца — для рашучых дзеянняў? Аднак жа вельмі застаяліся, атрафіраваліся ў нас мышцы...

Як выпраўляць становішча? Пэўна, перш за ўсё шляхам самай шырокай і самай глыбокай дэмакратызацыі пры вырашэнні ўсіх пытанняў — як творчых, так і арганізацыйных. Асноўную ролю тут павінен узяць на сябе калектыў — гэта значыць, творчая секцыя. Як мага найбольш галоснасці і права.

Сказанае ў гэткай жа меры тычыцца і нашых абласных пісьменніцкіх арганізацый — уласна ж, для выяўлення новых талентаў — у школах, на прадпрыемствах, для выхавання іх, для ўмацавання літаратурнага жыцця на месцах у першую чаргу і ствараліся гэтыя арганізацыі. Асабліва пра гэта трэба падбаць магілёўцам і гомельцам.

Варта, відаць, падумаць і аб арганізацыйнай пераарыентацыі абавязкаў сакратароў праўлення. Магчыма, адзін з іх павінен сканцэнтраваць сваю ўвагу і намаганні выключна на працэсе выхавання маладых, на арыентацыі дзейнасці абласных аддзяленняў і літаб'яднанняў. Участак партыйнай і культурна-масавай работы мог бы весці другі сакратар. Словам, гэта для роздуму...

Бюро секцыі, выбранае тайным галасаваннем і зноў жа—самым дэмакратычным шляхам—праходзяць тыя, хто набраў большасць галасоў,—павінна мець права рашаючага голасу ва ўсіх пытаннях, падлеглых яго кампетэнцыі. Варта штогод абнаўляць, прынамсі, на дзве трэці, склад бюро секцыі, каб кожны яе член мог праверыць і праявіць свае арганізацыйныя здольнасці. Словам, сумны вопыт, як мы «цвёрда сядзім» на адных і тых жа кансерватыўных пазіцыях не толькі з году ў год, але і з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе, прымушае сур'ёзна задумацца і аб выніках, і аб перспектывах.

Наогул, азіраючыся сёння назад, можна заўважыць дужа цікавыя і павучальныя паралелі. Вось аб тыражах—Янка Брыль, з прамовы на III з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў 1954

годзе: «Ёсць у нас, напрыклад, адзіны ў рэспубліцы дзіцячы часопіс «Бярозка». Ён выдаецца смешна малым тыражом—10000 экземпляраў, у той час, калі ў Беларусі адных толькі школ 11000». Зноў жа, бачыце, як быццам сёння гаворыцца...

Ці яшчэ адна паралель, яшчэ адна сумная эстафета. Паўтарэнне імён ганіцеляў літаратуры. Як яны перакідваюцца ад таленту да таленту. Пра Бэндэ ўжо шмат гаворана. Але, помніце, як эстафетную дубінку хапае Агееў? Пяцідзесятыя гады—наводмаш лупіць Янку Брыля (за аповесць «На Быстранцы»). Спатрэбілася праз нейкія паўтара дзесятка год збэсціць Васіля Быкава,—і зноў тут як тут той жа Агееў... Згадваецца гэта не дзеля таго, каб зводзіць нейкія рахункі,—тым больш імёны даўно забытыя, адышлі ў нябыт. Згадваецца ўсё, паўторым, як урок. Бо заўсёды гатовыя знайсціся нейкія літаратурныя «шукайлы», «бэндэ», «агеевы»...

Патрабавальнасць крытыкі нельга блытаць з разносам, з самавольным прысваеннем сабе—кім бы там ні было—ісціны ў апошняй інстанцыі. Гэта — самае горшае ў літаратуры, дый у мастацтве наогул, гэта—тормаз, немінучы застой. Шаблон масавай свядомасці, які ўмацаваўсяараднымі мерапрыемствамі паказнога прызначэння, можна разбурыць, перамагчы толькі свабоднай, адкрытай дыскусіяй, не навязваннем думак, а абменам. А галоўны інструмент усяго гэтага—крытыка і самакрытыка і, калі хочаце, іронія і самаіронія. Трэба расхаваць груваскія калодкі мудрападобнай крытычнай нуды. Шмат шкоды прыносяць і так званыя «міжсабойчыкі»—няважна, станоўчыя яны ці адмоўныя,—дзе прыватнае пікіраванне падмяняе аналітычныя развагі і абагульненні. «Існуе агульны ўзровень,—як слушна заўважае ў лімаўскай анкеце «Кастрычнік і перабудова» дырэктар Інстытута літаратуры АН БССР Віктар Каваленка,—грамадскага або эстэтычнага разумення тых або іншых актуальных праблем і ў адукаваным асяроддзі лічыцца непрыстойным апускацца асабліва ў публічных выступленнях, ніжэй гэтага агульнага, распаўсюджанага ўзроўню». У тэлемосце «Разам да Марса» прафесар Саган заўважыў: «Калі вучоныя не спрачаюцца, дык яны проста дарэмна трацяць час. Спрэчкі—кроў навукі». А хіба нельга сказанае адрасаваць нашай літаратурнай крытыцы ды і наогул грамадскай думцы? Мележаўскі Іван Анісімавіч Апейка (у накідах да аднаго з наступных тамоў «Палескай хронікі»—«Праўда вясны») так думаў пра падобныя сітуацыі: «Ёсць людзі, якія лічаць за доблесць, што яны ўмеюць не разважаць! Партыя сказала, партыя рашыла!.. Няма чаго разважаць!.. А я хачу думаць, хачу зразумець усё, адчуць, як сваю праўду! Я павінен быць перакананы ва ўсім, а для гэтага я павінен зразумець усё, адчуць! Розумам і сэрцам! Сапраўдны бальшавізм і ёсць перакананасць! Мы бальшавікі—ад перакананняў. У гэтым наша асаблівасць і наша сіла! Сіла! Бо няма нічога мацней за цвёрдыя перакананні».

Перабудова вяртае наша грамадства да норм жыцця, вызначаных, адкрытых Кастрычнікам, да ленінскіх норм жыцця. У цэнтры гэтых працэсаў стаіць чалавек—будаўнік, мысліцель, рэвалюцыянер у самым шырокім сэнсе гэтага слова. І таму сёння лозунг, напісаны на нашым літаратурным сцягу,—наперад да чалавека! Расказаць пра яго, раскрыць яго свет, стварыць кнігі, дастойныя яго велічы,—наш абавязак і наша мэта. Рэвалюцыя ідзе праз людскія сэрцы. І гэта мы, працаўнікі літаратуры, павінны помніць, гэтым кіравацца ў сваёй штодзённай працы са словам—і вусным, і пісьмовым.

# КРЫТЫКА: дзень мінулы і сённяшні

## З пашыранага пасяджэння секцыі крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР

АДКРЫВАЮЧЫ ПАСЯДЖЭННЕ, якое адбылося напярэдадні юбілею Кастрычніка, старшыня секцыі **Н. Пашкевіч** падкрэсліў, што сёння, ва ўмовах галоснасці, ствараюцца спрыяльныя ўмовы для больш глыбокага асэнсавання падзей мінулага і сённяшняга дня. Тэма нашай размовы сфармулявана так: «Увасабленне ідэй Вялікага Кастрычніка ў творах беларускай мастацкай літаратуры і пазіцыя крытыкі». У цэнтры ўвагі хацелася б паставіць пытанне аб узроўні вырашэння гісторыка-рэвалюцыйнай тэматыкі ў розных жанрах літаратуры, а таксама праблемы праўдзівага адлюстравання савецкай рэчаіснасці на розных, перш за ўсё пераломных этапах яе развіцця.

З дакладам выступіў крытык **А. Сідарэвіч.** Ён, у прыватнасці, сказаў:

**— Адзін з урокаў культурнай палітыкі партыі заключаецца ў тым, што, паводле У. І. Леніна, палітычная форма свядомасці не можа прэтэндаваць на статус вышэйшасці ў дачыненні да іншых форм грамадскай свядомасці: маральнай, мастацкай, навуковай, юрыдычнай і г. д.**

**Ленінскі прынцып «Не смець камандаваць!», прадаўжаў А. Сідарэвіч, быў сфармуляваны ў дачыненні да сялян, але гэты прынцып цалкам стасуецца і ў дачыненні да інтэлігенцыі. І вось ён быў парушаны, перамаглі погляды Троцкага, які сцвярджаў, што старую інтэлігенцыю, нават калі яна стала на бок Савецкай улады, ідэалагічна перавыхаваць нельга. А раз гэтак, дык ад яе трэба пазбавіцца, яе таксама трэба «раскулачваць». Прыгадаем, што ў Аргкамітэт, які павінен быў стварыць Саюз савецкіх пісьменнікаў Беларусі, не былі ўключаны Купала і Колас.**

**Дбаннем і стараннем Бэндэ, Аляхновіча, Канакоціна, іншых крытыкаў літаратурная частка партыйнай работы была прыроўнена да іншых частак гэтае работы, ад літаратуры прама і недвухсэнсоўна запатрабавалі быць рупарам ідэй, літаратура была пастаўлена ў становішча служанкі палітыкі, гэтак, як калісь філасофія была служанкаю багаслоўя.**

**Калі БелАПП давёў атмасферу нецярпімасці ў літаратурна-мастацкім жыцці да кропкі, працягваў А. Сідарэвіч, выйшла пастанова ЦК аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый. Бэндэ, Канакоцін і К° былі пазбаўлены верхаводскіх функцый.**

**Але, як гэта ні парадаксальна, менавіта некаторыя былыя рапаўцы і белапаўцы прыйшлі да кіраўніцтва ў Саюзе пісьменнікаў, а атмасфера нецярпімасці, барацьба груповак не слабла і пад новаю шыльдаю. Вульгарна-сацыялагічная крытыка, нягледзячы на роспуск БелАППа, заставалася пануючай.**

**Гісторыя нашай літаратуры паказвае, што такое афіцыйная крытыка, якая забывала на ленінскі прынцып «Не смець камандаваць!». Мы памятаем, якую ролю ў лёсе многіх пісьменнікаў адыгралі сумна вядомыя выступленні і выказванні некаторых кіраўнікоў, разносныя артыкулы ў газетах, што былі кіраўніцтвам да дзеяння. Аспрэчваць гэтыя артыкулы не было ніякай магчымасці. Цяпер, праўда, можна спрачацца і аспрэчваць. Хацелася б думаць, што гэтыя перамены — надоўга. Без гэтых перамен немагчымая дэмакратызацыя і, значыць, вяртанне да ленінскіх норм і прынцыпаў. Апошні артыкул Віктара Каваленкі ў «ЛіМе» быў дастойнай водпаведдзю на спробы навязаць свае ацэнкі творчасці Алеся Адамовіча ў якасці адзіных і неаспрэчных. Такія публікацыі і ёсць сапраўднае забеспячэнне прастору думкі, пра што пісаў У. І. Ленін у артыкуле «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура».**

**Публікацыя артыкула В. Каваленкі не сведчыць, аднак, што перабудавалася рэдакцыйна-выдавецкая крытыка.**

**Перабудова ў нас ледзь-ледзь пачалася, сказаў у заключэнне А. Сідарэвіч. Дух РАППа выяўляўся не толькі ў аглабельнай вульгарнай крытыцы. Ён ускосна выяўляецца і ў тым, што наша крытыка ўнікае гаворкі, і, калі трэба, палемікі аб вострых сацыяльных і гістарычных праблемах. Тут боязь зачапіць болькі, «неудобные» пытанні. Але пытанні застаюцца пытаннямі, калі на іх няма навуковага адказу.**

Я падтрымліваю асноўны пафас даклада, сказаў **Д. Бугаёў,** які першы выступіў у спрэчках. Ён спыніўся на творах, недастаткова ацэненых у свой час крытыкай, у прыватнасці, на рамане М. Зарэцкага «Вязьмо». З твораў пра калектывізацыю ён вылучыў «Палескую хроніку» І. Мележа. Сёння, калі пра той складаны і драматычны час гавораць праўду вучоныя, трэба і пісьменнікам сказаць сваё слова. Праблем у нас шмат, і праблем балючых.

**М. Мушынскі** як даследчык гісторыі крытыкі гаварыў пра найбольш значныя перыяды нашага літаратурнага жыцця. У многіх творах 40 — 50-ых гадоў нас не задавальняюць адсутнасць гістарычнай праўды, другаснасць, ілюстрацыйнасць. Ёсць у гэтым і віна крытыкі, якая не падхапіла лепшых традыцый 20-ых гг. Многія творы былі выключаны з агульналітаратурнага кантэксту. Пра С. Баранавых, Б. Мікуліча, П. Галавача, М. Зарэцкага мы ўспамінаем толькі з нагоды юбілеяў. Творчасці гэтай плеяды беларускіх пісьменнікаў масавы чытач фактычна не ведае. А між тым без іх твораў, без «Віленскіх камунараў» М. Гарэцкага вобраз Кастрычніка будзе не поўны. Мы толькі сёння пачынаем усведамляць, якую шкоду нанеслі нашай літаратуры вульгарныя сацыёлагі, выступіўшы супраць рамантызму. Цэлы напрамак у паказе рэвалюцыі быў перакрэслены. Мы павінны перагледзець творы, напісаныя да калектывізацыі: «Мядзведзічы», «На чырвоных лядах» К. Чорнага і іншыя. Пад сцягам барацьбы за сацыяльнасць быў занядбаны сямейна-бытавы раман. Варта перачытаць нам аповесць Якуба Коласа «Адшчапенец». Адным словам, час пачынаць практычную працу па пераасэнсаванні нашай спадчыны.

Наша пасяджэнне павінна паспрыяць таму, каб скіраваць увагу крытыкі і літаратуры на важныя моманты нашага сучаснага літаратурнага жыцця, заначыў **А. Асіпенка.** Беларуская літаратура на сённяшні дзень мае вялікія дасягненні. Ёсць І. Мележ, В. Быкаў, Я. Брыль—пісьменнікі, якіх чытаюць ва ўсім свеце. На жаль, многія перыяды літаратурнага працэсу да сённяшняга дня не асветлены як след. Літаратары вымушаны выконваць ролю і гісторыкаў, бо наша гістарычная навука не шмат зрабіла для перамогі праўды. Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на сумленнасць крытыкі. Наша крытыка чамусьці часцей вядзе дыялог з пісьменнікам і забываецца, што ёсць яшчэ і чытач. Бракуе ёй і ідэйна-эстэтычных, грамадскіх абагульненняў.

У дакладзе было замнога эмоцый, працягваў гаворку **М. Сташкевіч,** адзін з запрошаных на пасяджэнне гісторыкаў. Так, да 70-ых гадоў у гістарычнай навуцы існавала вульгарная схема, і ёй падпарадкоўвалася наша літаратура. Але з пачатку 80-ых гадоў дзякуючы працы нашых гісторыкаў гэтая схема пачынае разбурацца. Узнікае новая канцэпцыя беларускай гісторыі. І з гэтай канцэпцыі трэба зыходзіць пры ацэнцы дзейнасці Я. Лёсіка, В. Ластоўскага і іншых тагачасных дзеячаў, якія былі праціўнікамі бальшавізму. Што ж да адлюстравання і асэнсавання калектывізацыі, то трэба прызнаць — наперадзе ідуць літаратары. Што ж да рамана І. Шамякіна «Петраград — Брэст», я лічу, што гэта з'ява ў літаратурным жыцці нашай рэспублікі. Гэта цяжкая і складаная праца, бо фактычна да гэтага часу гісторыкамі Брэсцкі мір належным чынам не асветлены. Перад пісьменнікамі, заначыў гісторык, вялізнае поле дзейнасці. Сама класавая барацьба стварыла драматургію, — застаецца пайсці ў архівы, пазнаёміцца са шматлікімі дакументамі.

Хачу падтрымаць заклік Сташкевіча працаваць разам, сказаў літаратуразнаўца **В. Скалабан.** Беларускія гісторыкі нямала зрабілі ў ацэнцы вызваленчага руху 20-ых гг. Але імя Зміцера Жылуновіча мы згадваем рэдка. А ён жа быў і гісторыкам — начальнікам найбольшага ў Беларусі архіва. Трэба назваць і імя Вадзіма Андрэевіча Круталевіча, які плённа працуе ў галіне гісторыі.

В. Скалабан звярнуў увагу пісьменнікаў на тэму бежанства. У гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў за межы Беларусі выехала звыш 3 мільёнаў жыхароў. Шмат дакументаў па першых гадах Савецкай улады, багатая перыёдыка, стэнаграмы з'ездаў — ідзі і працуй.

Пісаць і гаварыць, што думаеш, — вось галоўны здабытак сённяшняга дня, так пачаў сваё выступленне **Р. Шкраба.** Трэба назваць імёны тых, хто ў свой час затоптваў найбольш праўдзівыя і вострыя творы. Праўда пра мінулы час неабходна перш за ўсё для нашай моладзі. На жаль, у некаторых рэдакцыях і сёння друкуюць толькі тое, што адпавядае іх інтарэсам і поглядам. Азіраючыся ў мінулае, прадаўжае Р. Шкраба, мусім гаварыць толькі пра канфрантацыю гісторыкаў і пісьменнікаў. Нашы гісторыкі не сказалі праўды пра Ігнатоўскага. Догмы перашкаджаюць нам правільна ацэньваць многія з'явы мінулага і сучаснасці.

Народны пісьменнік **Я. Брыль** згадаў пра былога рэдактара газеты «Советская Белоруссия» А. Здаравеніна, рускага па нацыянальнасці, сапраўднага грамадзяніна, які ў свой час падтрымаў Пімена Панчанку. Часам дастаткова аднаго слова, каб перамагла справядлівасць. Хто з нас дакарае сёння А. Талстога і І. Буніна за былыя грахі і памылкі? Гэтыя пісьменнікі вернуты нашаму мастацтву і нашай памяці. Чаму ж у нас на Беларусі да гэтага часу ў дачыненні да нашых вядомых культурных дзеячаў зноў падымаюцца сталінскія аргументы? Мы самі замоўчваем свае дасягненні. Нам трэба разварушваць адзін аднаго і грамадскасць, закончыў сваё выступленне Я. Брыль.

Падсумоўваючы гаворку, **Н. Гілевіч** адзначыў, што даклад А. Сідарэвіча дапоўнілі станоўчымі момантамі ў выступленнях. Роля крытыкі ў асвятленні гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы надзвычай вялікая. Пішучы пра дзеячаў мінулага, гісторыкі павінны аперыраваць фактамі. Нельга Лёсіка і Ластоўскага ставіць на адну дошку з фашысцкімі паслугачамі. Яны самі адмовіліся ад памылковых поглядаў. Да гэтага часу мы не сказалі належнага слова пра «Нашу Ніву». Гэта была газета прагрэсіўная, газета сапраўды народная. У заключэнне Н. Гілевіч выказаў пажаданне, каб нашы друкаваныя органы сталі нарэшце трыбунай дэмакратыі.

У спрэчках выступілі таксама **В. Козіч, К. Шэрман, М. Няхай, Г. Колас.**

У пасяджэнні прымаў удзел загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ **А. Бутэвіч.**

## ВІНШУЕМ

# *Валянціну* ЛУКШУ—50



16 лістапада спаўняецца 50 год пісьменніку Валянціну Лукшу. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Паважаны Валянцін Антонавіч!**

**Сардэчна вітаем Вас у дзень Вашага 50-годдзя!**

**Вось ужо больш як трыццаць гадоў працуеце Вы на ніве роднай літаратуры ў жанры паэзіі, публіцыстыкі, драматургіі і мастацкага перакладу, а ў апошнія гады ўзначальваеце выдавецтва «Юнацтва».**

**Вашаму пяру належаць зборнікі вершаў «Гарады нараджаюцца сёння», «Атава», «Споведзь», паэма-хроніка «Белыя берагі», вершы і фельетоны «Радзімыя плямы». Вашы творы прысвечаны як мінуламу, так і сённяшняму дню, жыццю і працы нашых сучаснікаў. З поспехам вы пішаце і для дзяцей, пра што сведчаць кніжкі «Аркестр», «Зялёная бальніца», «Лета — круглы год», «Крылаты цэх».**

**Уменне адгукацца на самыя надзённыя праблемы нашага часу пераканаўча выявілася ў Вашых публіцыстычных кнігах «Наша, полацкая прафесія», «Рамантыкі шасцідзесятых», «Дзесяць дарог да чароўнага», «Полацк».**

**Радыёслухачы мелі магчымасць пазнаёміцца з Вашымі п'есамі «Інтэгралы на цэгле», «Мая радня», «Свае крылы», «Вецер веку» (паводле аднайменнага рамана І. Гурскага). Па Вашым лібрэта К. Цесаковым напісана радыёопера «Барвовы золак».**

**У перакладзе на рускую мову ў выдавецтве «Юнацтва» выйшлі Вашы дзіцячыя вершы і казкі «Лето круглый год», а ў Маскве — кніжка для дзяцей «Черные аисты» і паэтычны зборнік «Моя криничка».**

**Ад усяго сэрца віншуючы Вас з юбілеем, жадаем Вам, дарагі Валянцін Антонавіч, моцнага здароўя, бадзёрасці і новых поспехаў у ведавецкай і літаратурнай працы».**

Супрацоўнікі штотыднёвіка далучаюцца да гэтага віншавання.

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# З КЛОПАТАМ ПРА МАЛАДЫХ

На чарговым пасяджэнні прэзідыума СП БССР абмеркавана работа з творчай моладдзю рэспублікі. З дакладам выступіў старшыня камісіі па рабоце з маладымі літаратарамі пры СП БССР Я. Сіпакоў. З кароткімі справаздачамі выступілі сакратары абласных аддзяленняў СП БССР М. Пракаповіч (Брэст), А. Салтук (Віцебск), А. Карпюк (Гродна), І. Сяркоў (Гомель), І. Аношкін (Магілёў) і А. Сыс (таварыства маладых літаратараў пры СП БССР). Меркаваннямі па закранутых пытаннях падзяліліся У. Калеснік, В. Адамчык, сакратар ЦК ЛКСМБ М. Самафалаў, загадчык сектара мастацкай літаратуры аддзела культуры ЦК КПБ А. Бутэвіч. У заключным слове першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч адзначыў, што неабходна ствараць моцныя культурныя асяродкі ў абласных цэнтрах і іншых гарадах рэспублікі, а таксама паляпшаць умовы ўваходжання ў літаратуру маладых талентаў.

Пад час работы прэзідыума былі ўручаны ганаровыя граматы СП БССР народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю і былому намесніку Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжковай.

**Сёлетні год багаты на шматлікія тэатральныя фестывалі. У рамках Усесаюзнай творчай сустрэчы «Тэатр і час» у Кіеве і Ерэване, Ташкенце і Кемераве, Маскве і Каўнасе сцэнічныя калектывы краіны паказваюць свае лепшыя спектаклі (дарэчы, у снежні музычныя тэатры збяруцца ў Мінску).**

**Змяшчаем нататкі з тэатральных форумаў, якія праходзілі ў Тбілісі і Каўнасе. Рэжысёр М. Пінігін узнаўляе атмасферу фестываляў, а таксама разважае над праблемамі маладзёжнага тэатральнага руху.**

# Грыбныя дажджы

...НА ПАЧАТКУ мая ў Мінску было холадна. Дождж, снег, слата. Аэрапорт выглядаў вялізнай, шэрай і азяблай стадолай... Але вось, калі ласка: дзве гадзіны ў паветры—і лета. Я трапіў у Тбілісі, на Усесаюзны фестываль маладзёжных спектакляў. Прыехаў госцем — проста паглядзець. Мне ўсё было надзвычай цікава... Таленавіты спектакль паказвае табе новыя магчымасці тэатра — новае ў мове, стылі, спосабе думаць і даносіць думку да гледача. Бяздарны спектакль абуджае пратэст, пачынаецца ўнутраная спрэчка: «а як бы я зрабіў»...

Упершыню на гэты форум былі запрошаны аматарскія калектывы. Што ж, ідэя ўвогуле плённая, праўда, адбор спектакляў мог бы быць больш удумлівы. Мне падалося, што паказанае на фестывалі — не самае цікавае з таго, чым займаюцца сёння самадзейныя калектывы нашай краіны.

А вось прафесіяналы не раз і не два пераканаўча даводзілі, што тэатр — гэта прафесія. Складаная, тонкая і з тых, якія патрабуюць гранічнай самааддачы.

Бясспрэчнай падзеяй фестывалю быў спектакль маскоўскага тэатра-студыі «Чалавек» — «Эмігранты» С. Мрожака. Пад дахам студыі сабраліся маладыя мхатаўскія акцёры А. Фякліставў і Р. Казак, якія разам з рэжысёрам М. Макеевым (таксама мхатаўцам) ажыццявілі таленавітую пастаноўку. У чым сакрэт поспеху? Нават не ведаю, ці сакрэт гэта — выдатная драматургія, тонкая рэжысура, віртуознае выкананне...

Два польскія эмігранты ў нейкай капіталістычнай краіне сядзяць у падвале на жалезных ложках. Адзін (прафесар-філолаг) кінуў радзіму па палітычных прычынах, другі (вясковец) з'ехаў зарабіць грошай, каб вярнуцца і паставіць добрую хату. І ўсё... І дзве з лішкам гадзіны не адарвацца ад таго, што адбываецца на сцэне.

Вядома, цікаўнасць выклікала найперш п'еса польскага драматурга. І тут сапраўды можна казаць пра вынікі перабудовы. Надышоў час, калі людзі атрымалі магчымасць гаварыць (і іграць) тое, што думаюць. І адразу абудзілася глядацкая ўвага да тэатра. Чалавек, які гаворыць шчыра і пра набалелае, заўсёды на сцэне будзе выразны — не зважаючы на тое, што ў жыцці ён, магчыма, коснаязыкі і бляклы.

Фармальныя пошукі рэжысёра У. Мірзоева зацікавілі мяне ў спектаклі «Святочны дзень» В. Міхайлавай. Гэта, калі не памыляюся, першы і апошні твор студыі «Дэбют» пры маскоўскім Тэатры імя Ленінскага камсамола.

Нам паказваюць шэрае жыццё двух падлеткаў, якія жывуць дзесьці ў Падмаскоўі. Нават не шэрае. Гэта — кіч. Танцы, транты, прычоскі, стыль паводзін, слэнг... Галоўны здабытак спектакля — тое, што кіч як тэма вырашаны і паслядоўна ўвасоблены праз кіч як форму дзеі.

Мы, рэжысёры, вельмі часта забываем,што кожны твор сцэнічнага мастацтва, ці не ў першую чаргу, — **рытм!** Рытмічную структуру свайго спектакля У. Мірзоеў вызначыў, на мой погляд, ідэальна. Цябе трымае гэтае відовішча. Яно навязлівае і безумоўнае — ты ягоны палоннік. Ёсць у спектаклі каханне, якое прарастае скрозь пярэстую гару смецця, скрозь шквал дэцыбел. Гучыць тэма свабоды і тэма годнасці чалавечай асобы. Спектакль змагаецца супраць свядомасці натоўпу і абывацельскіх стэрэатыпаў.

І яшчэ адзін спектакль. Гаспадары фестывалю — маладзёжная студыя пры Тэатры імя Шата Руставелі — паказалі «Мачаху Саманішвілі» класіка грузінскай літаратуры Д. Кладзіяшвілі.

**Трэба сказаць, што я закахаўся ў Грузію, у горад, дзе праходзіў фестываль, і таму, напэўна, прадузяты. Але такая з'ява як сучасны грузінскі тэатр — патрабуе надзвычай пільнай увагі. І павагі, бо ў наш інфантыльны век тэатр гэты нясе мужнасць і пяшчоту, страсць — дзікую, прыродную, і розум — высакародны, ясны. І ў дадатак — надзвычай высокая тэатральная культура. А якія традыцыі выхавання маладых акцёраў! Трывалая метадалогія («школа») спалучаецца з рамантызмам, вышынёй духу, годнасцю. Калі казаць працей, дык такой колькасці прыгожых маладых твараў на сцэне я даўно не бачыў. Мужчыны былі мужчынамі, жанчыны — жанчынамі! Зусім не было звыклага ў сучасным тэатры нейкага істэрычнага клікунства. Гэта былі дзеці вялікай нацыі.**

**Я глядзеў на іх і думаў: а ці можна ў нас у Мінску скласці меркаванне пра нацыю пасля наведвання, напрыклад, маладзёжнага тэатра? Але ж мастацтва — і душа народа, і яго аблічча. Дарэчы, пра гэта пазней...**

Я знарок не пераказваю спектакль. Мне здаецца, грузінскім акцёрам зусім не важна, што іграць. Ведаеце, так зусім не важна, пра што апавядае добры расказчык, — цікавае ўсё, на ўсё свой погляд, усё мае адметны вобразны лад.

КАЛЕКТЫЎ гэты сёлета ўразіў мяне яшчэ раз. Увосень, у верасні. У Каўнасе адбываўся фестываль тэатраў-студый, на які яны прывезлі спектакль «Заўтра была вайна» Б. Васільева. У зале плакалі...

Перадваенныя гады, трагічны 37-ы — юнацтва нашых бацькоў... Спектакль пра тое, як час выпрабоўваў і катаваў людзей, як, спекулюючы на веры народа, бязлітасна вынішчалася ўсё лепшае, чыстае, таленавітае, інтэлігентнае. Я раптам упершыню па-сапраўднаму зразумеў, чым былі для нашай Айчыны часы сталінізму, а пасля—вайна. Колькі загінула лепшых з лепшых, як бы жылі мы сёння, калі б столькі светлых галоў не легла на плаху ў той страшны перыяд.

Гэта ж такая рэдкасць сёння — здолець крануць сэрца гледача, усхваляваць, прымусіць суперажываць. Адчуваць.

Фестываль у Каўнасе запрашаў толькі тэатры-студыі. Гэта быў першы форум, які паспрабаваў асэнсаваць складаную і новую з'яву — студыйны рух. Прычым, у самых розных яе аспектах.

Усталяваўся ўжо выраз, што сёння ў краіне тэатры-студыі растуць, нібыта грыбы. Што ж, выдатна. Мы даўно чакалі гэтых «грыбных дажджоў» у нашай тэатральнай справе. Калектывы сабраліся надзвычай розныя — і па ўзроўні, і па рэпертуары, хоць геаграфія была не надта шырокая. У асноўным, тэатры-студыі Масквы і Ленінграда. М. Разоўскі прывёз свой тэатр-студыю «Ля Нікіцкіх варот». У рэпертуары — тры назвы, тры п'есы самога Разоўскага: «Чырвоны куток», «Канцэрт Высоцкага ў НДІ» і інсцэніроўка талстоўскага «Халстамера». Ведаю гэты тэатр амаль з часу яго стварэння і вельмі люблю ў ім спектакль «Бедная Ліза» паводле М. Карамзіна. На жаль, «Беднай Лізы» на фестывалі не было, астатнія ж пастаноўкі студыі (як і многіх іншых калектываў) пакінулі адчуванне самадзейнасці. І вось чаму.

**Памятаеце, у лермантаўскім «Герої нашага часу» Грушніцкі носіць салдацкі шынель. Ён разжалаваны, і ва ўяўленні Мэры гэтая дэталь надае яго абліччу рамантычны арэол. Але вось, нарэшце, Грушніцкі — у новым з іголачкі афіцэрскім мундзіры. Здавалася б, Мэры павінна быць аслеплена бляскам эпалетаў... Але ж не, — Грушніцкі зрабіўся ёй нецікавы. Знікла таямніца, незавершанасць вобраза, з'явілася сумная акрэсленасць.**

**Нешта падобнае адбылося, на маю думку, і з тэатрамі-студыямі, якія год назад атрымалі магчымасць перайсці на гаспадарчы разлік і самаакупнасць. Яшчэ ўчора бескарыслівыя аматарскія спектаклі сёння пачалі паказваць за грошы. Я не супраць платных білетаў — не і не. Але платны спектакль, хочам мы ці не хочам, — робіцца таварам. І калі ўчарашні глядач аматарскіх спектакляў, трапляючы ў атмасферу гарэння, *аднадумства* і студыйнасці, дараваў акцёрам і рэжысёрам іх непрафесіяналізм (усё акуплялася шчырасцю, азартам, першароднасцю), дык у новай сітуацыі глядач, па сутнасці, прыходзіць да прафесіяналаў, якія зарабляюць тэатрам на жыццё. Глядач плаціць—і мае права патрабаваць адпаведнага ўзроўню.**

**А ўчарашнія аматары — не маюць школы. Для таленту яна, напэўна, і не патрэбная. А для астатніх — «добрых і розных»?**

**Далей... Спектаклі пачынаюць «круціць» штодня, каб выжыць у рэжыме самаакупнасці. Унутры калектыву пачынаюць складацца «службовыя адносіны» — мы разам працуем, выступаем, атрымліваем заробак, нам ужо ёсць што дзяліць. А раней спектаклі былі толькі духоўнай патрэбай, усе іншыя сферы і інтарэсы пакідаліся па-за сценамі студыі. А цяпер...**

Могуць запытацца: дык што ж, не трэба тэатраў-студый на гаспадарчым разліку? Я нікога не палохаю. Трэба. Але і небяспека існуе сур'ёзная. Дзе ж выйсце?

І зноў, цяпер ужо ў Каўнасе, тэатр-студыя «Чалавек» паказвае «Эмігрантаў». Поспех надзвычайны. Яшчэ адзін спектакль — «Чынзана». Я шмат бачыў пастановак і гэтай, і іншых п'ес Л. Петрушэўскай, але такога адчування стылю, мовы, часу, такога засваення здабыткаў тэатра абсурду, такой глыбіні — нешта не згадваю. І што? У спектаклі зноў заняты маладыя **мхатаўскія** акцёры. І «Эмігранты», і «Чынзана» сыграны акцёрамі з цудоўнай школай — і сыграны віртуозна.

Сёння тэатры-студыі, прадстаўленыя на фестывалі, — ужо калектывы прафесійныя, з пячаткай, з банкаўскім рахункам, з «канторай» і білетамі. Натуральна, патрабаванні да іх узраслі. Ці не тое самае адбываецца сёння і ў эканоміцы, і ў сферы абслугоўвання, і ў адукацыі. Мы захлынуліся колькасцю, валам — і мы прагнем унікальнасці, якасці, узроўню, непаўторнасці, разнастайнасці. А ці атрымліваем? Той самы Марк Разоўскі на абмеркаванні яго спектакля паводле Ф. Дастаеўскага «Дзве істоты ў неабсяжнасці» на пытанне крытыка — «а чаму так сумна?» — пачаў тлумачыць аўдыторыі, **што** сваімі бессмяротнымі творамі хацеў сказаць чалавецтву Фёдар Міхайлавіч... Але няма кепскіх тэм і ўсе здаровыя ідэі — добрыя. І вялікае ў мастацтве — усё ж не **што**, а **як** (**што** існуе аб'ектыўна, гэта аксіёма).

Сёння сцэна павінна рашуча адмежавацца ад тэлебачання і публіцыстыкі. У тэатра свой шлях, свая годнасць, свае задачы. Яны — у пошуках вобраза, вобразнасці, у мастакоўскім асэнсаванні быцця, а не ў аператыўных водгуках на падзеі дня. Трэба думаць і не мітусіцца.

На большасць пытанняў, што ўзнікалі пад час фестывальных дыскусій, пераканаўча адказала паказанае ў Каўнасе маскоўскім тэатрам «Школа драматычнага мастацтва» «Серсо» В. Слаўкіна—грандыёзны спектакль (у вышэйшым сэнсе школа рэжысуры). Яго пастаноўшчык А. Васільеў сёння, несумненна, самы прафесійны рэжысёр савецкага тэатра, а занятыя ў спектаклі акцёры, напрыклад, Н. Андрэйчанка і П. Пятрэнка, і ўвогуле не патрабуюць рэкламы. «Серсо» ўсё расстаўляе па сваіх месцах, і пагарда «сусветным прафесіяналізмам», як лозунг усіх аматараў, успрымаецца, мякка кажучы, недарэчнасцю...

**І ўсё-такі цудоўна, што аматарскія тэатры нараджаюцца! Чым больш іх будзе, тым больш актыўна яны пачнуць канкурыраваць, а гэта прымусіць урэшце задумацца аб прафесіі. Мне здаецца, Свой тэатр («свой» я знарок пішу з вялікай літары) — гэта велізарная спакуса калектыўнай творчасці. Мы — кампанія аднадумцаў, мы — каманда, мы, мы, мы... Не я, а мы! І кожны такі тэатр — гэта свая эстэтыка, свая атмасфера, што надзвычай важна, бо ў тэатры-студыі не «служаць», не «займаюцца», яе не «наведваюць» — тут жывуць. Гэта — лад думак, светаадчуванне; гэта — духоўнае асяроддзе. У тэатрах-студыях, ва ўсякім разе, па першым часе, людзі працуюць за ідэю, у імя ідэі. Там не можа быць сітуацыі, якая да смешнага звыклая ў дзяржаўных прафесійных калектывах — калі твор бярэцца ў рэпертуар толькі таму, што мясцовая прымадонна так хоча. Там не можа быць пастаўлена бяздарная п'еса якога-небудзь уплывовага графамана — бо гэтым маладым хлопцам ад яго пакуль што анічога не трэба...**

Няхай узнікаюць новыя тэатры! У рэшце рэшт, гэта патрэба маладых — канструяваць на сцэне жыццёвыя калізіі і пражываць іх усур'ёз. Думаць, пакутаваць, пільна ўзірацца ў час.

ДВА маладзёжныя тэатральныя фестывалі зрабілі вялікую справу. Напярэдзе—новыя сустрэчы. Але вось што крыўдна — ні ў Тбілісі, ні ў Каўнасе не было ніводнага тэатральнага калектыву з Беларусі,

Увогуле, мяне гэта часта здзіўляе, нават бянтэжыць. Праходзяць фестывалі, сустрэчы, паказы — уражанне такое, нібыта Беларусі — не існуе. Людзі вязуць спектаклі з Камчаткі, з Урала, з Якуціі, а мы жывём у Еўропе і нічога вартага паказаць не можам. Што гэта — віна арганізатараў фестываляў? Забыліся? Не ведаюць, што адбываецца ў тэатрах нашай рэспублікі?

*Напэўна, і такі момант* існуе... Але будзем зусім шчырыя: хіба нам ёсць што прадстаўляць на ўсесаюзныя маладзёжныя тэатральныя форумы? Каб быў гэта і ўзровень, і клас, і па «гамбургскім рахунку»? Па-мойму, не. І калі, нарэшце, *адпала неабходнасць* у спектаклях «дацкіх», «да падзей» і «з нагоды» — мы аказаліся ледзь не з пустымі рукамі.

Мяне ўразіла — у Каўнас маладзёжную студыю тэатра імя Руставелі суправаджаў начальнік упраўлення тэатраў Міністэрства культуры Грузіі. Не пагрэбаваў прыехаць з нейкім малавядомым калектывам, ды яшчэ і не за мяжу...

Вось сапраўднае стаўленне да сваіх дзяцей, да будучыні тэатральнай культуры сваёй рэспублікі. У спектаклі «Заўтра была вайна» ў грузінскіх акцёраў на сцэне наладжана такое пяшчотнае партнёрства, адчуваецца такая кранальная беражлівасць адно да аднаго — ці не таму, што яны і збоку адчуваюць да сябе такое самае стаўленне, адчуваюць клопат і ўвагу? Яны патрэбны... І я бачу, што такое стаўленне да маладога грузінскага тэатра — часцінка нацыянальнай свядомасці.

А мы? Выпакутавалі за некалькі дзесяцігоддзяў адзін маладзёжны тэатр, ды яшчэ і без памяшкання... А ўсё астатняе— «словы, словы, словы». Колькі трэба тэатраў у сталіцы Беларусі? Хіба столькі, колькі ёсць цяпер? А хто дапаможа ў арганізацыі тэатраў-студый, хто дасць памяшканне, каму ўсё гэта баліць?

І ўсё-такі — я веру. Здаецца, надзвычай хутка надыдзе дзень, калі мы ўсе прачнёмся і перастанем перабольшваць узровень нашай тэатральнай культуры.

Жыццё ж такое кароткае і так шмат у ім трэба паспець...

**Мікалай ПІНІГІН,**
**рэжысёр Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.**

«Серсо» В. Слаўкіна. Сцэна са спектакля. Тэатр «Школа драматычнага мастацтва».
Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

СТО РАДКОЎ ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ

# ВЯРТАННЕ

**«Жыццё рэвалюцыянера». Аўтары сцэнарыя У. Дзюба і А. Пётух. Рэжысёр-пастаноўшчык В. Анісенка. Беларускае радыё, 1987 г.**

Гэты чалавек асабіста ведаў Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса. Сустракаўся з героем Парыжскай камуны Валерыем Урублеўскім і ўдзельнікам групы «Вызваленне працы» Паўлам Аксельродам, з заснавальнікам Камуністычнай партыі Кітая Сунь Ятсенам і відным палітычным дзеячам ЗША Джорджам Кенанам. Удзельнічаў у руху нарадавольцаў на Беларусі і Украіне і разам з Хрыста Боцевым змагаўся за незалежнасць Балгарыі. Пакінуў свой след у гісторыі рабочага і камуністычнага руху ЗША і краін Індакітая. Быў прэзідэнтам Гавайскіх астравоў. Яго добра ведалі на Філіпінах, а ў Японіі яму прысвечаны шматтомныя даследаванні.

Доктар Русель. Сапраўднае імя рэвалюцыянера — Мікалай Канстанцінавіч Судзілоўскі. Нарадзіўся ў Магілёўскай губерні.

На вялікі жаль, імя Судзілоўскага-Руселя, вядомае ў многіх краінах абодвух паўшар'яў планеты, доўгі час было незаслужана забыта на яго радзіме.

Лёсу неардынарнага палітычнага і грамадскага дзеяча, здольнага і мужнага чалавека прысвечана новая работа Беларускага радыё «Жыццё рэвалюцыянера». Першыя серыі спектакля выйшлі ў эфір у дні святкавання 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.

Заканамерна, што спектакль з'явіўся менавіта цяпер, калі мы ўсе з новай сілай усведамляем, што ў гісторыі нашай Радзімы не павінна заставацца «белых плям», што гісторыя — гэта людзі, іх лёс, драматычны і непаўторны.

«Жыццё рэвалюцыянера» — маштабная пяцічастквая пастаноўка, у якой робіцца спроба сумленна, па строга дакументальнай аснове і разам з тым эмацыянальна расказаць пра складаны, поўны нечаканых паваротаў жыццёвы шлях нашага суайчынніка. Важна, што стваральнікі перадачы не пайшлі на звычайнае «ілюстратарства», нанізванне адзін на адзін фактаў біяграфіі героя. Відаць, сама першаасنова спектакля не давала падстаў для спрошчаных рашэнняў. Наогул, белы верш з яго пругкай рытмікай, эпічнасць дзеі, насычанасць спектакля шматлікімі персанажамі, яго палітычная завостранасць, часам публіцыстычнасць — усё гэта робіць спектакль нялёгкім для ўспрымання, патрабуе ад слухача пэўнай інтэлектуальнай падрыхтаванасці.

Стварэнню эмацыянальнай атмасферы, цэласнасці спектакля спрыяе музыка У. Прохарава, напісаная спецыяльна для гэтай пастаноўкі. З'яўленню спектакля папярэднічала вялікая падрыхтоўчая работа. У ім занялі дзесяткі акцёраў з усіх тэатраў Мінска. Галоўную ролю выконвае народны артыст СССР В. Тарасаў.

У кароткай рэцэнзіі няма магчымасці спыніцца на мастацкіх вартасцях або недахопах пастаноўкі. Напэўна, не ўсе эпізоды раўназначныя па сэнсавай насычанасці, асобныя з іх могуць успрымацца зацягнутымі. Часам адчуваецца жаданне аўтараў сказаць пра свайго героя як мага больш, не падмацаваўшы гэтае жаданне эстэтычным рашэннем.

Але галоўная мэта пастаноўкі — стварыць паўнакроўны вобраз рэвалюцыянера, барацьбіта, інтэлігента ў вышэйшым сэнсе слова, — думаецца, дасягнута.

Перад слухачамі разгортваецца гісторыя чалавечай душы — мяцежнай, супярэчлівай, якая зведала і цяжкія сумненні і горкія расчараванні (Судзілоўскі перажыў і цяжкі разрыў з першай жонкай—Л. Савіч, і неразуменне многіх учарашніх «таварышаў па зброі», і смерць блізкіх). Але гэтай душы вядомы і высокія пачуцці дружбы, кахання.

Пражыўшы большую частку жыцця на чужыне, Мікалай Канстанцінавіч сэрцам і думкамі заўсёды заставаўся на радзіме, перапісваўся з сястрой, якая жыла на Беларусі.

У 1923 годзе ў прызнанне заслуг рэвалюцыянера перад Савецкай Расіяй Судзілоўскаму, які знаходзіўся ў той час у Кітаі і дапамагаў там адстойваць інтарэсы СССР, была прызначана персанальная пенсія — 100 рублёў. Але ён катэгарычна запатрабаваў, каб грошы пералічвалі ў дапамогу адному з дзіцячых дамоў у Маскве.

Маральныя і палітычныя якасці Судзілоўскага высока ставіў Ленін. У фінальнай сцэне спектакля гучаць словы Уладзіміра Ільіча, сказаныя ім пра Судзілоўскага-Руселя ў размове з Бонч-Бруевічам: «Без такіх людзей нам не перамагчы».

Зварот да лёсу Судзілоўскага-Руселя —гэта і вяртанне да нашых духоўных вытокаў.

**В. ТРАВЕНЬ.**

# ДОМ

**«Тры сястры» А. П. Чэхава. Пастаноўка Арсена Сагальчыка. Сцэнаграфія Марта Кітаева. Кампазітар Барыс Цішчанка. Мастак па касцюмах Наталля Клеміна.**

**Рускі тэатр БССР імя М. Горкага. 26 кастрычніка 1987 г.**



«Тры сястры» А. Чэхава. В. Клебановіч (Вольга) і Л. Былінская (Маша).
Фота Ул. КРУКА.

Чаканне прэм'еры чэхаўскага твора — заўжды нецярплівае і ўстрывожанашчаслівае. Прадчуваеш тэатральную падзею і пільна прыслухоўваешся да самой сябе: што азавецца ўва мне на загадкі п'есы, якая, калі перафразіраваць словы славутай актрысы, сказаныя з іншай нагоды, сама ўжо мае права выбіраць, каму ёй хочацца падабацца... Чым жа сёння, цяпер адгукнецца наша быццё на адвечныя пытанні, што ставіць перад намі—і перад сабой! — класіка?

...Людзі сноўдаюцца па сцэне, кідаюцца, хаваюцца па кутах, натыкаюцца на сцены, але ж сцен—няма... Няма тэатральнага гавільёна — дома Прозаравых, ёсць шыльдачка ці то на доме, ці то на гарышчы, — але дома няма і няма сцен. А людзі сноўдаюцца і не знаходзяць месца...

Напэўна, сцяна, перашкода—унутры, у саміх сабе? Самая звыклая і самая трывалая, перaадольваць якую цяжэй за ўсё? Можа, таму такая непрыкаянасць, непрывязанасць, адчуванне хісткасці і няпэўнасці жыцця, як чарнавіка, што заўтра будзе скамечаны і выкінуты, каб заўтра ж распачаць жыць начыста?..

Вяршынін марыць пра ціхі дом з кветкамі, дзе побач са сваімі чысценькімі і прыбранымі дзяўчаткамі піў чай на крухмальным абрусе. Ён пяшчотна агладжвае вачыма акуратную светлую кватэру Прозаравых і прагна гаворыць, гаворыць — быццам правяраючы, а ці не развучыўся думаць, ці не адвык. А сёстры, прызвычаеныя, не заўважаюць утульнасці і трызняць сваё «у Маскву, у Маскву, у Маскву», таму што туга абступіла з усіх бакоў і ўжо, здаецца, дом развальваецца... Тузенбах натхнёна ладзіць планы працоўнага жыцця, а ў голасе няма ўпэўненасці, і ў вачах сум, і, нібыта, ён у апошнюю хвіліну рашыў выпрабаваць лёс — «арол ці рэшка?» — загадаўшы: калі ацалее, вось тады...

Салёны шалёна зайздросціць Тузенбаху, гэтаму «высакаробаму», які ад нараджэння, «пародаю» —свой у гэтым доме, дзе яму, Салёнаму, даводзіцца так натужна сцвярджаць уласную незалежнасць, і дзе з адзінага жывога парывання нічога, апроч сораму, не атрымалася....

Маша прыходзіць у свой стары дом, не пазнае яго—яна ўжо іншая!—і вяртаецца ў абрыдлы новы. Пойдзе і апошні раз, назаўсёды, без усялякай там надзеі... Героі быццам нябачнымі путамі аплецены—быццам і робяць нешта, але нічога не дамагаюцца, толькі глыбей вязнуць у павуцінні.

І над усім пануе Наташа — акупіравала дом, распасціраецца ўсё шырэй, паўсюдная, аглушальная. Патокам пошласці, глупства, настырнасці змятае яна ўсіх, змятае сваімі капотамі, якія развяваюцца, нібы сцягі гэтай пошласці. Ільсцівая, нахабная, вось яна ўжо з сёстрамі размаўляе бесцырымонна — дама!

А. Цвяткова ў ролі Наташы — надзвычай дакладны рэжысёрскі выбар. Р. Янкоўскі—Вяршынін, А. Ткачонак—Тузенбах, В. Бандарэнка — Салёны, Л. Былінская — Маша, Ю. Ступакоў—Чабутыкін. Калі б перад пачаткам працы над спектаклем сярод гледачоў правялі рэферэндум, дык, думаецца, названы былі б менавіта гэтыя выканаўцы. А прыемная нечаканасць—А. Маланкіна ў ролі Ірыны.

І ўсё ж... Пакуль што спектаклю нестае дыхання — каб гаварыць на поўны голас. Не завершанасці нестае, зусім не, але—меры ўвасаблення задумы. Парадаксальна, ды здаецца, што ўнутраная перашкода («сцяна») чэхаўскіх герояў існуе і ў спектаклі пра іх. «У Маскву, у Маскву», — але застаюцца на месцы... Што гэта? Рэжысёрская нерэалізаванасць? Звычка тэатра—стваральны спектаклі, аналізуючы час, лёс, душу, не закранаць, не змяняць нічога істотнага ў самім сабе?!

**Лілія БРАНДАБОЎСКАЯ.**

# ЯРКА І НАТХНЁНА

**Адкрыццё новага канцэртнага сезона Акадэмічнага народнага аркестра БССР імя І. Жыновіча прывабіла ўвагу мінчан. Было нават нялёгка набыць білет на канцэрт, які адбыўся ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

У калектыве жыновічаўцаў пануе пасапраўднаму творчая атмасфера, створаны ўсе ўмовы для прафесійнага росту музыкантаў, заахвочваюцца цікавыя ў мастацкіх адносінах ініцыятывы кожнага з іх — ад аркестранта да галоўнага дырыжора. І вось вынік: канцэрт прайшоў як бы на адным дыханні. Слухачоў захапіла высокае майстэрства гэтага сапраўды мастацкага калектыву.

«Беларуская рапсодыя» Я. Глебава, якая адкрыла праграму, нібы дала настрой усяму канцэрту. Твор напісаны масцітым кампазітарам без скідкі на спецыфіку народнага аркестра, сучаснай гарманічнай мовай, з сімфанічнымі прыёмамі тэматычнага развіцця, але ўспрымаецца ў выкананні жыновічаўцаў арганічна.

Найгрышы для народнага аркестра «Жалейка» В. Кузняцова — вельмі прыемная для слыху п'еса — своеасаблівая жанравая замалёўка вясковага жыцця. Аркестранты, асабліва ансамбль дудароў, выконваюць яе натхнёна. Фантазію «Лянок» А. Мдзівані слухачы ўспрынялі таксама вельмі цёпла. Гэты шмат у чым наватарскі твор прадаўжае лінію стварэння аркестравага рэпертуару на фальклорнай аснове — адну з яркіх ліній творчага почырку А. Мдзівані.

Сапраўдным упрыгожаннем канцэрта з'явілася выступленне народнага артыста СССР Алібека Днішава — уладальніка цудоўнага лірычнага тэнару. Артыстызм, прафесійнае майстэрства ў інтэрпрэтацыі розных па характары, форме, стылі і жанры твораў зачаравалі публіку. У першым аддзяленні наш госць выканаў лірычныя рамансы рускіх кампазітараў, у другім ахвотна і шмат спяваў рускія, іспанскія, італьянскія народныя песні, рамансы, оперныя арыі. Вылучалася песня, словы і музыка якой належаць казахскаму паэту-асветніку і кампазітару Абаю Кунанбаеву. Артыст выконваў яе на казахскай мове, і здавалася, што ў зале павеяла водарам казахскіх стэпаў. Гэты цудоўны твор, які чуйна і з майстэрствам суправаджалі беларускія музыканты, міжволі нагадаў словы Р.Ралана: «Добрая музыка чыстая, як дзіця, і мудрая, як вочы старца». Зала стоячы вітала артыста з братняга Казахстана.

Вылучыліся ў той вечар і беларускія артысты-інструменталісты: лаўрэат Усесаюзнага конкурсу баяністка Святлана Лясун і цымбалістка студэнтка БДК Ларыса Рыдлеўская. Надзвычай складаную віртуозную п'есу Монці — Яшкевіча «Чардаш» сыграла С. Лясун. Артыстка іграла так натхнёна, што давялося біcіраваць. Прагучала п'еса, па-майстэрску напісаная А. Рашчынскім для гармоніка, баяна і аркестра «З рогу ўсяго многа». Гэты твор бліскуча выконваюць С. Лясун, В. Пляшэвіч і аркестр.

Маладая цымбалістка Л. Рыдлеўская—музыкант яркі. Фантазія на тэмы оперы «Кармэн» Ж. Бізэ ў вельмі цяжкой транскрыпцыі П. Сарасатэ для скрыпкі ўжо стала рэпертуарнай і для цымбалістаў. Аднак удаецца гэты твор рэдка каму. Пачынаючай артысты — удаўся. Нападзе ў яе—вялікая, пастаянная, напружаная праца.

І ўсё-такі галоўнай дзейнай асобай канцэрта быў аркестр. Акампанемент салістам-інструменталістам на самым высокім узроўні. Майстэрскае суправаджэнне спевака, з якім была толькі адна рэпетыцыя, — гэта праява высокага прафесіяналізму. Бездакорнае выкананне аркестравых п'ес «Закліканне агню» Дэ Луна і «Сіртакі» М. Тэадаракіса. Між іншым, выкананне на «біс» аркестравых п'ес—ужо сталая традыцыя жыновічаўцаў.

Поспех — заслуга ўсяго калектыву, асабліва ж — яго мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Міхаіла Казінца. Высокая прастата, натуральнасць яго творчасці, выключна сур'ёзнае стаўленне да сваёй прафесіі заўсёды выклікалі паважлівае пачуццё слухача. Генеральнай лініяй сваёй дзейнасці і творчасці жыновічаўцаў М. Казінец лічыць прапаганду лепшых узораў айчыннай і замежнай класікі, твораў савецкіх кампазітараў, беларускай нацыянальнай музыкі. Гэта на поўны голас засведчыў і нядаўні канцэрт.

**Міхась СОЛАПАЎ.**

# ЛЮДЗІ ГІНУЦЬ ЗА...

**«Вербачка зялёная, альбо Кінафельетон». Аўтар сцэнарыя П. Якубовіч. Рэжысёр В. Гайдук.**

**«Беларусьфільм», творчае аб'яднанне «Летапіс», 1987.**

**Ёсць людзі, якія нават не здагадваюцца пра існаванне чэкавага магазіна «Вербачка», а ёсць, аказваецца, такія, што з-за тых самых чэкаў могуць забіць... На экране—зала суда. У кадры—маладая, прывабны хлапец. Забойца. Але гэта ўжо фінал, мяжа...**

**А спачатку камера пакажа нам тых, хто ашываецца ля парога прэстыжнага магазіна: прывілеяваных уладальнікаў жаданых паперак, заможных людзей з паўднёвым разрэзам вачэй, а таксама брыгаду тутэйшых «бізнесменаў», якія дурачь прадаўцоў чэкаў з дапамогай элементарных картачных фокусаў. Пакрыўджаны, разгублены няўдалы «прадавец», усміхаецца «пакупнік» - фокуснік, іранізуюць аўтары фільма, манціруючы кадры допыту «бізнесменаў» з кадрамі так званага «прыгожага жыцця», смяецца глядзельная зала... Але смяецца да першых судовых кадраў, да апошняга, пакаяннага слова забойцы. Тут ужо не да смеху.**

**Натуральна, справа не толькі ў магазіне. За злачынствам схавана сукупнасць прычын. «Вербачка» — у поўным сэнсе д'ябал-спакуснік. Так, тут прыдатная глеба, тут забароны — камусьці можна, а камусьці, незразумела чаму, нельга. Сапраўды, «чаму нафтавік з Гомеля купляе рэчы ў ЦУМе, а нафтавік, які прыехаў «адтуль»—у «Вербачцы»?.. Чаму, пытаюцца стваральнікі фільма? Ці мае права на існаванне гэты магазін? Аўтары мержаванняў сваіх не навязваюць, але дакументальныя кадры красамоўныя самі па сабе.**

**Не толькі нечаканасцю і актуальнасцю тэмы вабіць фільм (як вядома, любую тэму можна сапсаваць)... Ён паслядоўна вытрыманы ў жанры кінафельетона, пазначаны сапраўдным прафесіяналізмам рэжысёра і аператара. Дзесяцімінутная карціна насычана яркім і разнастайным відэаматэрыялам, знятым таленавіта, без фармальных выштукоўванняў, выразна, эмацыянальна стрымана. Аўтары выяўляюць схільнасць да глыбокага псіхалагічнага аналізу чалавечых характараў і жыццёвых сітуацый. Дакладны і востры мантаж пабудаваны на кантрастах — ад смешнага і бязглуздага да сур'ёзнага, нават сапраўды драматычнага. Бадай, няма ніводнага зацягнутага ці лішняга кадра, фільм прасякнуты аўтарскай інтанацыяй, у якой чуваць і іронія, і заклапочанасць, і ўстрывожанасць.**

**Хочацца, каб новую стужку нашых дакументалістаў паглядзелі як мага больш людзей. Яна вартая глядацкай увагі. Але ці бачылі вы калі-небудзь вялікія, яркія афішы, якія буйным і кідкім шрыфтам запрашалі б на прэм'еру твора кінадакументалістыкі? Наўрад ці... Вось чаму на добры дакументальны фільм мы часцей за ўсё трапляем выпадкова. Ці няма тут несправядлівасці, над якой варта задумацца?**

Ірына КУДЗЕЛІНА.

# «ЧАС ПЕРАМЕНАМ СПРЫЯЕ...»

**Гутарка з рэктарам Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага народным артыстам БССР Міхалам КАЗІНЦОМ**

**— Карціну музычнага жыцця на Беларусі немагчыма ўявіць без кансерваторыі — асяродка выхавання творчых і музычна-педагагічных кадраў. Беларуская дзяржаўная кансерваторыя існуе з 1932 года, пра гістарычны ўплыў яе на культурны, мастацкі клімат рэспублікі гаварыць трэба, канечне, асобна... Давайце, Міхал Антонавіч, пагаворым пра яе дзень сённяшні.**

**Больш чым год назад БДК зрабіла першыя крокі ў новых умовах — ва ўмовах рэформы вышэйшай школы, ва ўмовах шматграннай, комплекснай работы па паляпшэнні канцэртнай дзейнасці і ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы канцэртных устаноў...**

— Жыццю кансерваторыі, як і жыццю нашага грамадства ў цэлым, заміналі многія застойныя з'явы. Перабудова прыйшла і ў нашу ВНУ. І пра тое, што ў кансерваторыі адбываюцца рэальныя і, думаю, пазітыўныя перамены, можна меркаваць па многіх фактах. У «ЛіМе», дарэчы, быў змешчаны артыкул пад назваю «Першыя крокі» (17 ліпеня г. г. — **Рэд.**). Яго аўтар, прарэктар БДК В. Яканюк, і расказаў пра тое новае, што з'явілася апошнім часам у навучальным працэсе. Тут і дзяржэкзамен па харавым дырыжыраванні ў форме адкрытага філарманічнага канцэрта, і публічныя выступленні студэнцкага духавога аркестра на стадыёнах і плошчах абласных цэнтраў, і павышэнне прэстыжу канцэртнай залы кансерваторыі...

**— У тым артыкуле закрануты некаторыя актуальныя праблемы вышэйшай музычнай школы рэспублікі.**

— Гэтыя праблемы абмяркоўваюцца ў нас на пасяджэннях кафедраў, на навуковых саветах, агульных сходах. Ёсць справы чыста ўнутраныя, вырашэнне якіх залежыць ад ініцыятыўнасці і творчага падыходу саміх педагогаў. А ёсць справы, якія нам не зрушыць з месца без падтрымкі дзяржаўных органаў.

**— Духоўна-эстэтычная будова музыкі павінна абапірацца на трывалы матэрыяльны падмурак, так?**

— Інакш і быць не можа! І мне прыемна паведаміць, што дзякуючы падтрымцы дзяржавы наша матэрыяльная база прыкметна ўмацоўваецца. За два гады, напрыклад, мы змаглі набыць 12 новых раяляў для класаў і залы, 24 піяніна — для інтэрната кансерваторыі. У нас з'явіліся сродкі на філарманічнае выкананне аркестравых твораў студэнтаў аддзялення кампазіцыі. Дасюль, як вы ведаеце, будучыя кампазітары навучаліся, можна сказаць, непаўнацэнна, не маючы магчымасці пачуць нават сваю дыпломную партытуру ў жывым гучанні. Яны прад'яўлялі педагогу і дзяржкамісіі часцей проста ноты на паперы, так і не праверыўшы на практыцы, што ж усё-такі атрымалася, а што — не. Цяпер у сезон некалькі сімфанічных канцэртаў будзе прысвечана музыцы аўтараў-пачаткоўцаў.

**— Гэта сапраўды важная перамена. Ды, як мне вядома, штосьці аналагічнае адбываецца не толькі на аддзяленні кампазіцыі. Зараз жа ўсе факультэты і кафедры працуюць над вырашэннем праблемы: наблізіць навучальна-выхаваўчы працэс да практыкі музычнага жыцця.**

— Сапраўды, як агульную тэндэнцыю перабудовы вышэйшай школы вылучаюць частковы перанос вучэбнага працэсу на вытворчасць. Наша «вытворчасць», як вядома, — гэта філармонія, музычны тэатр, музычная навучальная ўстанова. У нас, пра гэта гаварылася ў артыкуле В. Яканюка, падпісаны дагавор аб творчым супрацоўніцтве з Беларускай дзяржаўнай філармоніяй, паводле якога БДК абавязана падрыхтаваць для аркестравых калектываў і аддзелаў філармоніі музыкантаў пэўнай спецыяльнасці і кваліфікацыі. Аналагічны дагавор на падрыхтоўку спецыялістаў нядаўна заключаны з Дзяржаўным тэатрам оперы і балета БССР, дзе, нарэшце, створана стажорская група. Наладзілася творчая сувязь з калектывам тэатра музычнай камедыі: сёйтой з нашых вакалістаў быў там на практыцы, працаваў у спектаклях, нават абараніў дыплом на аснове сваёй сцэнічнай работы — і быў залічаны ў тэатр паводле размеркавання.

**— А ці даўно тэатр музкамедыі «хварэў» на цякучасць акцёрскіх кадраў, ці даўно тут пераважалі выканаўцы, што заязджалі ў Мінск папрацаваць сезон-другі? Вашы кантакты з тэатрам — зарука стабільнасці яго акцёрскай трупы.**

— Калі ж гаварыць пра далейшую інтэграцыю нашай ВНУ і «канцэртна-тэатральнай вытворчасці», дык, думаю, значную ролю адыграюць у гэтым педагогі-практыкі. Мы атрымалі магчымасць (гэта значыць, у першую чаргу, сродкі) далучаць іх як «пачасавікоў» для ўдзелу ў навучальным працэсе. Зразумела, яны зусім не замяняюць працу сталага прафесарска-выкладчыцкага складу, ядра нашага педагагічнага калектыву. Але ж як важна для будучых спецыялістаў мець кантакты, напрыклад, з галоўным дырыжорам Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР Ю. Яфімавым, з галоўным хармайстрам опернага тэатра А. Кагадзеевым, з выдатным ваенным дырыжорам Л. Муранавым, з вядучымі салістамі оперы А. Саўчанкам, Л. Колас, М. Гулегінай, з лаўрэатам Усесаюзнага і Міжнароднага конкурсаў піяністам І. Алоўнікавым, з вядучым нашым кларнетыстам Г. Забарам! Яны ўзбагачаюць студэнтаў неацэнным вопытам, даючы магчымасць бываць на чарнавых рэпетыцыях, далучаюць да практычнага жыцця ў будучай прафесіі.

Між іншым, менавіта наяўнасць у рэспубліцы лідэра мастацтва народна-харавога спявання, сталага практыка — Міхася Дрынеўскага, кіраўніка Акадэмічнага народнага хору БССР, дазволіла нам з гэтага года адкрыць спецыялізацыю па народна-харавых спевах. Дасюль БДК рыхтавала толькі харавікоў-«акадэмістаў», якіх перакваліфікаваць у «народнікаў» без выдаткаў складана. А патрэба ў высокакваліфікаваных кадрах харавікоў-«народнікаў» у нас досыць вострая.

Не менш вострая праблема падрыхтоўкі музыкантаў для эстрады. Ды зноў жа, дзякуючы энтузіязму аўтарытэтнага дырыжора М. Фінберга ў БДК уведзена і пашыраецца эстрадная спецыялізацыя. Першыя выхаванцы ўвайшлі ў склад Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, створанага ў 1987 годзе: кіруе ім гэты ж дырыжор. Думаю (і такога меркавання — многія музыканты рэспублікі), што ёсць усе падставы студэнцкі духавы аркестр пад кіраўніцтвам А. Берына зрабіць базай для Дзяржаўнага духавога аркестра БССР, стварэнне якога намечана на 1988-89 гады. Пра гэта, дарэчы, «ЛіМ» апублікаваў асобны і вельмі слушны матэрыял М. Волкава (гл. нумар за 30 кастрычніка г. г. — **Рэд.**).

**— Перамены па цяперашнім часе адбываюцца імкліва... А вось як вы, Міхал Антонавіч, уяўляеце сабе агульную перспектыву развіцця кансерваторыі, якім чынам будзе мяняцца яе аблічча ў цэлым?**

— Думка пра перспектывы неадлучная ад мары. Як жа інакш? І наша кансерваторыя бачыцца мне ў будучым як музычная акадэмія з адзіным цыклам навучання. Пакуль Сярэдняя спецыяльная музычная школа пры БДК жыве не тое што самастойным — у пэўным сэнсе адасобленым жыццём. Паміж школай і ВНУ не-не ды і ўзнікаюць узаемныя прэтэнзіі — абгрунтаваныя і не надта, абумоўленыя, хутчэй, «ведамаснымі амбіцыямі». Наколькі арганічным стала б навучанне будучых музыкантаў, калі б кансерваторыя і школа, што існуе пры ёй, мелі агульнае кіраўніцтва, адзіны педагагічны калектыў, адзіную вучэбную праграму!

**— Даравітае дзіця, паступіўшы ў школу, пераходзіць з класа ў клас і гэтак жа арганічна, без уступных экзаменаў, прадаўжае вучыцца ў кансерваторыі, толькі класы ўжо будуць называцца курсамі...**

— Іменна! І тады, стварыўшы збалансаваную вучэбную праграму, можна будзе вызваліць нямала часу для больш шырокага знаёмства, скажам, з літаратурай, з сумежнымі мастацтвамі. А то ў выніку нескаардынаванасці праграм узнікаюць нейкія неабавязковыя паўторы, якія тармозяць навучальны працэс. Навошта, напрыклад, сальфеджыо, якое выкладаюць у школе ў досыць поўным аб'ёме, «паўтараць» яшчэ і ў кансерваторыі амаль у тым жа аб'ёме? Гэта прадмет, які мае быць засвоены будучымі музыкантамі на пачатку навучання, і трывала. Тое самае магу сказаць і пра курс гісторыі рускай музыкі: засвоенае выпускніком ССМШ фактычна паўтараюць праграмы кансерваторыі. А ў выніку мы выпускаем, за рэдкім выключэннем, у літаральным сэнсе вузкіх спецыялістаў, якія часцяком проста не ведаюць літаратуру, выяўленчае мастацтва. Мы павінны рыхтаваць **культурна адукаваных людзей!**

**— Але ж не ўсе, хто паступае ў ССМШ, вытрымліваюць інтэлектуальныя і эмацыянальныя нагрузкі навучання. Далёка не ўсе «дацягваюць» нават да восьмага класа...**

— Таму пры кансерваторыі павінна функцыяніраваць і вучылішча для тых, хто не здатны вытрымаць напружанае навучанне па праграме «школа — ВНУ». Выпускніку вучылішча будзе выдавацца дыплом аб сярэдняй музычнай адукацыі з правам выкладання адпаведных дысцыплін, а пры жаданні прадоўжыць навучанне маладыя людзі змогуць паступіць у БДК на агульных асновах, здаючы экзамены.

**— Міхал Антонавіч, а якім, на вашу думку, павінен быць статус музычнай школы-сямігодкі, звычайнай дзіцячай музычнай школы?**

— На жаль, ДМШ даюць пакуль вельмі мала ў плане падрыхтоўкі і вылучэння перспектыўных вучняў. Музычная школа — гэта ўсё ж такі спецшкола, і нельга, я лічу, адчыняць яе дзверы для ўсіх жадаючых займацца музыкай. А ёсць у многіх ДМШ менавіта гэткая арыентацыя. Ператвараць ДМШ у «лікбез» — проста марнатраўства, такая мая думка. Эстэтычную адукацыю, элементарную музычную падрыхтоўку чалавек павінен набываць у звычайнай агульнаадукацыйнай школе, а гэтага, на жаль, у нас пакуль няма. Я лічу, што ў выхаваўчым працэсе павінна быць адзінства літары, лічбы і ноты. Пераважаюць сёння лічба, літара. Нота ж недзе «згубілася», за выключэннем агульнаадукацыйных школ з музычна-харавым ухілам. І, на маю думку, якраз школы з музычным ухілам — гэта **нармальныя** школы, такімі і павінны яны быць. Ненармальныя — «проста школы», ператвораныя, па сутнасці, у школы «з ухілам»: яны ж ухіляюцца ад задач эстэтычнага выхавання ў бок эстэтычнай нявыхаванасці, глухаты!

Што ж датычыць узаемаадносін кансерваторыі з ДМШ і музвучылішчамі... Нам трэба больш уплываць на педагогаў гэтых навучальных устаноў. Часцей наведвацца туды, праводзіць адкрытыя ўрокі, перадаваць свой метадычны вопыт. Праслухоўваць навучэнцаў, звяртаючы ўвагу на таленавітых. Ведаць, хто ў нас ёсць, і прагназіраваць кантынгент будучых абітурыентаў музычнай ВНУ. І яшчэ я лічу, што выкладаннем музыкі, харавых спеваў у школах павінны займацца выпускнікі БДК. Слушна ставіцца пытанне пра адкрыццё ў нас музычна-педагагічнага факультэта.

**— Міхал Антонавіч, а ці блізкія да рэальнасці вашы мары, пажаданні?**

— Цяперашні час вельмі спрыяе самым дзёрзкім і хуткім пераменам. Гэта ж не так даўно вакол многіх нашых праблем у розных інстанцыях вяліся працяглыя і кволыя размовы, і ў рэшце рэшт, тое ці іншае пытанне «клалася пад сукно». Цяпер жа нам ахвотна ідуць насустрач, у кіруючых органах культуры рэспублікі ставяцца да нас зацікаўлена, разумеючы значэнне і месца адзінай на Беларусі музычнай ВНУ як аднаго з цэнтраў нашай духоўнай культуры. Гэтую зацікаўленасць, як я ўжо гаварыў, мы адчулі, вырашаючы праблемы матэрыяльнай базы, якая вызначае ў жыцці творчым вельмі многае...

**— І ў ПЕРСПЕКТЫВАХ жыцця творчага...**

— Так, і ў перспектывах. Дарэчы, развіццё нашай ВНУ, мяркую, немагчыма без трыадзінства «студэнт — педагог — матэрыяльная база». Што зроблена і што мае быць зроблена ў гэтым плане? Стражэйшы стаў крытэрый узроўню спецыяльных ведаў і агульнакультурнай падрыхтоўкі абітурыентаў БДК. Забаронены ўмоўныя пераводы на наступны курс, экзаменатары атрымалі магчымасць ставіць «неуд» студэнтам-недарэкам, не паглядаючы палахліва на дэканат, бо скасавана колішняя залежнасць паміж колькасцю прафесарска-выкладчыцкага складу і колькасцю студэнтаў. Пайшлі мы сёлета на эксперымент, даўшы групе студэнтаў вольнае наведванне заняткаў: паглядзім, якія будуць вынікі зімовай сесіі. Складзены індывідуальныя графікі заняткаў для студэнтаў сямейных і для тых, хто ўдзельнічае ў рабоце канцэртна-тэатральных арганізацый. Адмянілі кураторства: бо хто ж як не педагог па спецыяльнасці праводзіць са студэнтам ільвіную долю вучэбнага і нават пазавучэбны час! Каму ж як не яму, старэйшаму калегу, настаўніку, адказваць за фарміраванне асобы маладога музыканта — у самым шырокім сэнсе?

Многае робіцца для ўмацавання педагагічнага складу: маладыя павышаюць кваліфікацыю ў аспірантурах, у асістэнтурах-стажыроўках, да работы ў БДК далучаем, як я ўжо казаў, вопытных практыкаў.

Што датычыць матэрыяльнай базы.... Добрыя перамены я адзначыў. Ды не магу прамаўчаць пра тое, што мае вострую патрэбу ў пераменах. Нам не хапае вучэбных плошчаў (іх у нас толькі чацвёртая частка ад таго, што мае быць). У нас няма лінгафоннага кабінета, лабараторыі для расшыфроўкі фальклорных запісаў, няма відэаапаратуры для фіксацыі і паказу індывідуальных заняткаў па спецыяльнасці (з мэтай наступнага аналізу, вывучэння методыкі педагога). Няма паўнацэннай бібліятэкі як навукова-метадычнага цэнтра з чытальнай залай — ёсць проста сховішча для нот. У нас няма высакакласнай гуказапісваючай і ўзнаўляльнай тэхнікі. Нарэшце, пад пагрозай закрыцця аказаўся клас ударных, бо няма чым замяніць амартызаваны, непрыдатны для заняткаў інструментарый. Тое, што сёння прапануюць дзяржаўныя магазіны, не адпавядае патрабаванням падрыхтоўкі музыкантаў-спецыялістаў. Ёсць таксама праблема набыцця духавых інструментаў належнай якасці.

На жаль, вырашэнне такіх праблем выходзіць за рамкі магчымасцей кансерваторыі. Не ад нас залежыць, напрыклад, вырашэнне пытання аб набыцці неабходнага інструментарыя і апаратуры праз камісійны гандаль. А ў яго вырашэнні зацікаўлены, між іншым, і канцэртныя арганізацыі, і музычныя тэатры рэспублікі.

**— Міхал Антонавіч, ваша творчае жыццё — гэта яшчэ і кіраўніцтва буйным філарманічным калектывам, аркестрам імя І. Жыновіча...**

— Тут таксама адбываюцца перамены. Справа, зразумела, не ў новых канцэртных праграмах, не ў новых гастрольных маршрутах. Аркестр, традыцыі якога фарміраваліся больш чым паўстагоддзя, шмат зрабіў для развіцця і прапаганды беларускай народна-інструментальнай музыкі. Але сённяшні дзень падказвае: нягледзячы на аўтарытэт, на добрае імя жыновічаўцаў, трэба перабудоўвацца і нам. Неабходна пашырыць групу беларускіх фальклорных інструментаў. Неабходна (гэта адчуваюць, дарэчы, і кампазітары, якія пішуць для нас) увесці ў партытуру групу скрыпак. Гучанне характэрнай для беларусаў траістай музыкі немагчыма без спецыфічнага каларыту «сялянскай» скрыпкі, і гэта зусім не зменшыць ролю нашай вядучай, цымбальнай групы, а толькі будзе адцяняць і дапаўняць яе гучанне. Перабудова партытуры ў гэтым сэнсе вымагае сур'ёзных змен унутры калектыву, яна будзе для нас адказным і складаным выпрабаваннем.

**— Многія ўжо ведаюць, што ў галіне народна-інструментальнага выканаўства будзе сёлета адметная падзея...**

— Маеце на ўвазе конкурс імя І. Жыновіча? Так, ён будзе ўпершыню праведзены ў канцы гэтага года. Як старшыня конкурснага журы падкрэслю, што для выканаўцаў на народных інструментах гэта сапраўды доўгачаканае свята: дасюль ім даводзілася на правах беднай Папялушкі ўдзельнічаць толькі ў эстрадных конкурсах.

Конкурс гэты будзе праводзіцца раз у тры гады. Хацелася б, каб з часам ён набыў значэнне міжрэспубліканскага, бо і «сваякі» беларускіх цымбалаў, і домра, і баян ёсць у традыцыйных інструментарыях многіх братніх рэспублік. Упэўнены: спаборніцтва музыкантаў-«народнікаў» можа набыць інтэрнацыянальнае гучанне. Так што чакаем гасцей.

**Гутарыла С. БЕРАСЦЕНЬ.**

# НОВАЕ БЕЗ... НАВІЗНЫ?

## Графіка на выстаўцы «Краіна Саветаў»

Першае ўражанне ад графічнага раздзела рэспубліканскай выстаўкі «Краіна Саветаў» быццам бы неблагое. Ён падабраны з веданнем справы, мастакі прадстаўлены характэрнымі для сябе творамі, усё, здаецца, бездакорна: тых парушэнняў густу і сэнсу, якіх дастаткова ў раздзелах жывапісу і скульптуры, тут амаль няма...

І, разам з тым, чамусьці адольвае мяне на выстаўцы нейкая настальгія па днях мінулых. Па тых самых, калі мы, маладыя яшчэ мастацтвазнаўцы, ішлі на выстаўкі — не пабаюся быць банальным, — як на сустрэчу з сябрамі-аднадумцамі. Ішлі паспрачацца, падыскутаваць каля выстаўленага ў экспазіцыі твора, які кранаў цябе за жывое — няхай нават ён і не быў тэхнічна дасканалым. А гаварыць было пра што. Так, наша маладосць супала з сапраўдным выбухам мастацтва 60-х, прынамсі, мастацтва графікі: з'явіліся серыі «Майстры», «Партызаны» і «купальскія» ілюстрацыі А. Кашкурэвіча, «Здабытчыкі», «Памяць» і «Белы кантынент» Г. Паплаўскага, «У. І. Ленін» М. Бельскага, «Партызанская сюіта» М. Гуціева, «Беларускія песні» А. Паслядовіч, ілюстрацыі да паэмы У. Маякоўскага «У. І. Ленін» В. Шаранговіча...

Паглядзеўшы экспазіцыю «Краіны Саветаў», задаў сабе пытанне: што сёння для графікі вызначальнае? Навізна формы? Здаецца, яна досыць разнастайная. Думаю, нестае графічнаму раздзелу зусім іншага: менавіта **навізны сэнсу.** Праўда, пэўныя «гарачыя» тэмы ў экспазіцыі прадстаўлены (аркушы У. Рамейкі, С. Волкава, В. Мікіты), але здзівіць яны нікога не маглі: надта падобныя на ўчарашнюю газету.

Сённяшняя газета, між тым, стала цікавейшай за графіку, яна адкрывае нам мноства праблем, перад якімі губляюцца аловак і разец мастака. Нават плакат, за рэдкім выключэннем, выглядае слабым ценем сучаснай публіцыстыкі.

На жаль, даўно мы перасталі суадносіць убачанае на выстаўках з рэальным нашым жыццём, з яго клопатамі, пытаннямі. Ставімся да мастацтва вельмі проста: паглядзелі — і добра. Ці не таму, што выстаўкі апошніх гадоў трывала аддзялілі выяўленчае мастацтва ад сучаснасці, страцілі кропкі перасячэння з ёй?

Графічных работ, у якіх глыбока распрацоўваліся б надзённыя праблемы і сур'ёзныя калізіі, на выстаўцы «Краіна Саветаў» таксама няшмат. Экспазіцыя атрымалася такая беспраблемная, «бесканфліктная», што прымушае прыгадаць усе папярэднія парадна-замілаваныя выстаўкі часоў застою.

Калі шчыра, то нельга не прызнаць, што ёсць спробы прыстасаваць графіку да новых умоў існавання. Аднак вынікі пакуль — ці не двухсэнсоўныя. Вылучаныя ў «цвікі» экспазіцыі серыі «Старонкі гісторыі» С. Волкава і «Мір — планеце» Л. Асецкага цяжару «ідэйнай» дамінанты не вытрымліваюць.

Цыкл С. Волкава спрабуе занатаваць наш складаны час у кантэксце 70-гадовага шляху краіны: тут сабраны дакументальныя атрыбуты і сімвалы эпохі, партрэты гістарычных дзеячаў. Мастак пачынае сваё апавяданне з 25 кастрычніка 1917 года. Натуральна, на аркушы У. І. Ленін, салдат, матрос, чырвонагвардзеец, тэкст звароту «Да грамадзян Расіі». Далей. Аркуш «18 кастрычніка 1921 года», прысвечаны чацвёртай гадавіне рэвалюцыі, з цытатай з адпаведнага ленінскага артыкула. Людзі схіліліся над «Праўдой»... Чаму раптам 21-ы год? Але ўрэшце гэта справа аўтара. Наступны аркуш — «25 красавіка 1945 года» (значыць, папярэднія дваццаць чатыры гады: калектывізацыя, індустрыялізацыя, масавыя рэпрэсіі, пачатак вайны — мастака не цікавяць?) — малодшы сяржант на фоне газеты «Советская Белоруссия» і тэкст загада Вярхоўнага Галоўнакамандуючага войскамі І-га Беларускага фронту... Аркуш «5 сакавіка 1953 года» — смуткуючы чалавек, побач — партрэт «найвялікшага генія чалавецтва»... Так было? Было. Але ўсё ж незразумела. У чым тут сутнасць аўтарскай задумы? Ліст «12 красавіка 1961 года» — М. С. Хрушчоў і Юрый Гагарын... Шлях у космас пракладзены... Што тут — канстатацыя гістарычнага факта? У чым сутнасная гістарычная і псіхалагічная сувязь частак цыкла паміж сабой? Якое стаўленне самога аўтара да гэтых «старонак гісторыі»? І чаму яго зацікавілі менавіта гэтыя, а не іншыя старонкі? Пытанняў шмат...

Больш цэласнай па задуме атрымалася серыя Л. Асецкага «Мір — планеце». Публіцыстычная завостранасць праблематыкі, аб'ектывізацыя адлюстравання, якую нельга нават назваць вобразам рэальнасці, аб'ядноўваюць гэтыя аркушы з мастацтвам плаката. Аднак і тут выпадковасць сюжэтаў — ад канкрэтыкі ваеннай трагедыі Наваельні і першага рэвалюцыйнага дэкрэта да плакатна-мантажных абстракцый на тэму «нам патрэбен мір» або «мір дому твайму», якія ператварыліся ў штамп і эмацыянальна не кранаюць. Здавалася б, тэзіс «Мір — планеце» асабліва сугучны нашаму дню, калі сапраўды ясна: каб існаваць, патрэбен мір. Але ці пераконвае гэты пастулат у цыкле Л. Асецкага? Вядома, работа зроблена ў цэлым прафесійна, аднак сухаваты, рацыяналістычны кампазіцыйны прыём, складаны «набор» разнастайных персанажаў, стафажных фігурак, атрыбутыкі, выяўленчых клеймаў і да т. п. зніжаюць жывы пластычны імпульс.

Дэкаратыўным характарам прываблівае цыкл літаграфій «Па Туркменіі» Л. Марчанкі, аднак гэтаму мастаку патрэбна добрае псіхалагічнае ўзрушэнне, каб перайсці ад лагодна-сузіральных экзатычных шуканняў у сферу сённяшніх праблем. Так было ў свой час з Г. Паплаўскім, калі ён ад «цалінных» серый перайшоў да «Памяці», або з А. Кашкурэвічам: ад «Майстроў» — да «Партызанаў».

Дарэчы, той жа Г. Паплаўскі на выстаўцы працягвае пластычную распрацоўку ўлюбёнай «індыйскай» тэмы шляхам большай эмацыянальнасці і вытанчанасці, канструктыўнай яснасці малюнка і выразнасці сілуэта. А. Кашкурэвіч жа, ў «Партрэце з японскай гравюрай» віртуозна распрацоўвае праблему пабудовы аб'ёмаў у прасторы, разам з тым стварае пераканаўчы жаночы вобраз, поўны мяккага лірызму і паэтычнасці.

З эмацыянальнай аддачай «пагружаецца» ў матэрыял У. Басалыга, раскрываючы ў вобразах старажытнай беларускай архітэктуры глыбокую маральную аснову.

І тым не менш...

«Індыйскія» работы Г. Паплаўскага, аркушы П. Дурчына, Л. Марчанкі, У. Басалыгі, А. Лось, У. Самачэрнава — гэта хутчэй паўтарэнне пройдзенага, чым спроба зірнуць на свет па-новаму. Дзесяць гадоў назад той жа У. Басалыга выставіў серыю малюнкаў пяром «Помнікі дойлідства Беларусі», М. Гуціеў — акварэль «Вечар на Нарачы» (цяпер — «Нарачанская гладзь»), М. Карпук — «Сельскі пейзаж» (цяпер — «Ушацкі пейзаж»). У той жа звыклай каляіне, што і раней, сёння працуюць і І. Немагай, С. Герус, Ф. Гумен, В. Ткачук, С. Раманаў, У. Садзін... Можа, графіка спынілася на перакрыжаванні? Тады чаму ў каталогу выстаўкі пазначана так многа твораў, якіх у экспазіцыі... няма? Дзе яны, гэтыя серыі — «У. І. Ленін з намі» А. Александровіча, «Рудабельская рэспубліка» Л. Асецкага, «У. І. Ленін» М. Басалыгі, «Гэтае мілае гарадское жыццё» А. Кашкурэвіча, новыя творы В. Шаранговіча, Н. Паплаўскай, Б. Кузьмічова, Ю. Герасіменкі-Жызнеўскага, прапанаваныя мастакамі на выстаўку?

Так, у экспазіцыі амаль няма работ высокага класа. Затое завельмі твораў проста невыразных, інертных, вялікіх — асабліва, калі яны прысвечаны вытворчай тэматыцы. Прычын тут многа. Галоўная, бадай, у тым, што, адмаўляючыся востра перажываць супярэчнасці і драматычныя калізіі жыцця, пазбягаючы рабіць уласныя высновы, многія графікі прыцішваюць голас сумлення, дазваляюць ленавацца сваёй душы. Атрымліваецца, што лягчэй і прасцей зрабіць серыю аркушаў пра які-небудзь экзатычны рэгіён, цыкл вытанчана-прыгожых пейзажных акварэляў для «хатняга інтэр'ера» або паказаць сваю віртуознасць у пейзажным малюнку алоўкам, чым, скажам, паехаць у раён Чарнобыльскай АЭС, як гэта зрабіла група маладых жывапісцаў... Відаць, «падарожнічаць» у мінулае намнога лягчэй, чым паспрабаваць асэнсаваць драму сённяшняга...

Таму і вабяць работы некаторых маладых графікаў, якія імкнуцца знайсці свае сучасныя вобразна-пластычныя тэмы, асацыятыўныя хады, як К. Вашчанка ў «Подыху стагоддзя», С. Балёнак у «Белай вароне», У. Лукашык у «Пераадоленні», В. Камароў у «Адзіноце», У. Вішнеўскі ў «Будаўніцтве чалавека», С. Сіплевіч у «Імкненні».

На жаль, у кантэксце сёлетняй экспазіцыі нават самыя ўдалыя творы ніби пажухлі, зраўняліся з рэчамі іншага складу. Зададзены тон «добрапрыстойнасці» нівеліраваў тое лепшае, што ёсць на выстаўцы. На першы план вылучаецца не сапраўдны гістарызм, на які прэтэндуюць гравюры Г. Кісялёва, не псіхалогія, не чалавечая сутнасць мадэлі, як заяўлена ў партрэтах І. Немагая, В. Губарава, І. Сазонава, М. Будавея, А. Рыбчынскага, М. Рыжыкава, а знешнія, «літаратурныя» асацыяцыі. Эмацыянальная напружанасць падмяняецца наборам інфармацыйных знакаў. Нават, на першы погляд, манументальна-экспрэсіўныя партрэты Г. Паплаўскага з серыі «Барацьбіты за мір» не дасягаюць той духоўнай аддачы, той сілы выразнасці, якой чакаеш, чытаючы назвы аркушаў — «А. Адамовіч», «В. Быкаў», «Э. Клімаў»...

Непрытоенасці першых уражанняў, пафасу «першадотыку» нестае і акварэлі, якой на выстаўцы нямала. Эмоцыі большасці аўтараў застаюцца «па-за дужкамі» твораў і таксама падмяняюцца — пасіўным «знаходжаннем» мастака ў ландшафце. Адпаведна і глядач не хвалюецца, не суперажывае, а слізгае позіркам па панарамах, дэталях, дробязях. Дарэчы, заўважаеш пэўныя метамарфозы акварэлі: у творах І. Пратасені, Я. Батальёнка, Я. Жыліна, А. Шыёнка прыкметнае імкненне да карціннай завершанасці. Пры такім падыходзе губляецца каштоўная ўласцівасць акварэлі — саюз пачуццяў з іх пластычнай інтэрпрэтацыяй.

У цэлым спадабаўся мне раздзел плаката. Некаторыя з твораў экспазіцыі, на мой погляд, дасягнулі высокага ўзроўню. Сярод іх — актуальныя работы У. Жука, У. Крукоўскага, У. Васюка, У. Цеслера. Па-ранейшаму цікава працуюць М. Стома, Л. Кальмаева, С. Саркісаў...

Аднак, як заўважыў старшыня секцыі плаката У. Жук, «нашы плакатысты па-новаму яшчэ не навучыліся працаваць, а па-старому не жадаюць». Адсюль і якасныя няроўнасці гэтага раздзела, адсюль і стэрэатыпы, штампы ў мастацкіх рашэннях. Але плакатысты ўсё ж здолелі «ўдыхнуць» ва ўсю рэспубліканскую выстаўку струмень жывой сучаснасці.

Што можна ў заключэнне сказаць пра графічныя серыі, цыклы, аркушы, якія ўвайшлі ў юбілейную экспазіцыю? Быццам бы тут — усё роўна, усё правільна. Але гэтая ціхая плынь мне задавальнення не прынесла. Бо сучаснай творчасці патрэбна не фіксацыя факта, няхай нават вельмі важнага. Патрэбна зусім іншае: асэнсаванне — глыбокае і шчырае — гісторыі і сучаснасці, якое народзіць графічныя цыклы-лёсы, серыі-споведзі, акварэлі-вобразы, малюнкі-перажыванні. Беларуская графіка сёння мае патрэбу ў навізне, дакладней, у абнаўленні. Мае патрэбу ў рызыцы, эксперыменце, раскаванасці форм, прыёмаў, метадаў. Інакш не дасягнуць ёй тых вышынь, якія вывелі нашу нацыянальную графіку дваццаць гадоў назад на міжнародную арэну.

**Барыс КРЭПАК.**



К. ВАШЧАНКА. Подых стагоддзя.




М. СТОМА. СЭУ: мір, прагрэс, працвітанне!



А. КАШКУРЭВІЧ. Партрэт з японскай гравюрай.

# З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

## Павел ПРУДНІКАЎ



●

Час нас лечыць, час нас і калечыць,
Што не кожны здольны зразумець.
Знікне ранак, надыходзіць вечар.
Блякне раптам сонечная медзь.

Луг цвіце, і дрэвы пладаносяць,
І над грэчкай кружацца раі.
А ў душу залазіць ужо восень...
І ты зноў — у пекле,
не ў раі.

Ты здаешся парасткам зялёным,
А на справе —
састарэлы дзед.
Час-цягнік праносіцца шалёна,
Застаецца толькі дымны след!..

Хоць жыццё й частуе міражамі
І бывае часам песціць нас,
Ды часцей нас абдымае замець
І прыносіць тысячы абраз...

●

Як абрыдлі вы мне, прайдзісветы!
Немагчыма ад вас уцячы.
І «вучоныя» вы, і «паэты»,
І «палітыкі», і «ўрачы».

Колькі вас развялося на свеце!
Атруцілі, спрытнюгі, жыццё.
Быццам вас паразвеяў вецер
І узброіў калючым асцём.

Дзе б знайсці такі сродак нам зручны,
Што б ён змог нас пазбавіць ад вас?
Можа, злосць з дабратой неразлучны?
Хай рассудзяць тут людзі і час.

●

Біў калісьці ў грудзі кулакамі:
— Я з народа выйшаў, патрыёт.
А трымаў за пазухаю камень,
Зычыў добрым людзям эшафот.

Асушаў ты рэкі і балоты —
Рабаваў прыроду спакваля.
Гаварыў:
— Заззяе пазалотай
Збажына на «знойдзеных палях».

Дыфірамбы пеў ты і жывіцы —
Той крыві, што высмактаў з сасны.
І не даў ты ранам загаіцца,
Як зароў ты голасна, услых:

— Хто дазволіў лес губіць і рэкі?
Хто збядніў зарэчныя лугі?
Бо яны ж служылі чалавеку,
З імі мы не ведалі тугі.

Вось які ты ёсць перабудоўшчык:
Куды дзьмухне вецер —
там і ты.
І крычыш адкрыта на ўсю плошчу
Аб сумленні
аж да хрыпаты.

НАШЫ ГОСЦІ

# РУПЛІВЫ СУВЯЗНЫ

У Доме творчасці пісьменнікаў «Іслач» адбылася творчая сустрэча з паэтам і вучоным з Беласточчыны Янам Чыквіным.

— Мы вельмі рады, — сказаў Ніл Гілевіч, адкрываючы вечар, — што ва ўмовах братняе Польшчы беларуская нацыянальная меншасць мае магчымасці развіваць сваю культуру, захоўваць сваю самабытнасць, пасылаць сваіх дзяцей у беларускія школы.

Ян Чыквін удакладніў, што ў Беластоку — цэнтры Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы — выдаецца адзін раз у тыдзень газета «Ніва». У кожным яе нумары змяшчаецца старонка для дзяцей — «Зорка». Прыкладна раз у месяц з'яўляецца і старонка літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа». Апрача таго, штогод выпускаецца «Беларускі каляндар». Раз у некалькі гадоў выходзіць літаратурны альманах «Белавежа» з новымі творамі як пачаткоўцаў, так і сталых майстроў беларускага мастацкага слова. З ліку апошніх ужо пяць чалавек прыняты ў члены Саюза польскіх пісьменнікаў, усе яны маюць па некалькі сваіх кніг.

Па просьбе прысутных калега з Польшчы крыху расказаў пра сябе. Ян Чыквін мае вышэйшую філалагічную адукацыю, якую атрымаў у Варшаўскім універсітэце, дзе, дарэчы, паспяхова функцыяніруе кафедра беларускай філалогіі. Цяпер Ян Чыквін — доктар гуманітарных навук, дацэнт гэтага ж універсітэта, чытае ў ім курс лекцый па тэорыі літаратуры.

Як вядома, у свет выйшлі чатыры паэтычныя зборнікі Яна Чыквіна. Аналізуючы гэтыя кнігі, бачыш, што ўжо ў самай першай з іх малады аўтар зрабіў сур'ёзную заяўку на сваё месца ў беларускай паэзіі.

Падборкі вершаў Яна Чыквіна друкаваліся ў перакладзе на польскую мову ў такіх вядомых часопісах, як «Творчасць» — яшчэ тады, калі рэдагаваў яго Яраслаў Івашкевіч,—«Паэз'я» і інш. Пра яго творы пішуць Яцэк Кайтох і Анджэй Васькевіч. Апошні прадказваў: паэзія Яна Чыквіна павінна знайсці падтрымку ў літаратурным асяроддзі Польшчы, бо яна не банальная.

У Мінску рыхтуецца да выдання яго зборнік «Кругавая чара», а ў Ольштыне — «Сонечнае сплячэнне» (па-польску).

Ян Чыквін — і як навуковец, і як пісьменнік — з гонарам выконвае нялёгкую высакародную місію сувязнога двух народаў-братоў, дзвюх суседніх краін, дзвюх славянскіх культур. Характэрна, што ён са сваім сааўтарам Л. Раманюк так і назвалі свой падручнік па беларускай мове і літаратуры для VII класа — «Яднае нас дружба».

Апрача таго, наш госць рыхтуе да выдання на польскай мове анталогію сучаснай беларускай паэзіі; нядаўна пераклаў на польскую мову ў часопіс «Варміа і Мазуры» асобныя творы Т. Бондар, А. Вярцінскага, Н. Гілевіча, М. Стральцова, Н. Тулупавай. А для нашага часопіса «Полымя» мяркуе напісаць агляды артыкул пра сучасную польскую літаратуру.

Прысутныя вельмі прыхільна сустрэлі вершы Яна Чыквіна, абмяняліся сваімі думкамі аб іх. У заключэнне сустрэчы Н. Гілевіч падкрэсліў, што паэтычныя здабыткі Яна Чыквіна маюць агульна-беларускую значымасць, пажадаў яму багатага паэтычнага і навуковага плёну.

Міхал ДУБЯНЕЦКІ.

Ян ЧЫКВІН

## ЧАТЫРЫ ВЕРШЫ

●

На соннай Нарвы вадзе —
Месяц струной залатой.
Начную песню гудзе
Апошні казадой.

І дзесьці ў змрочных кустах,
З бягучых у балота ракіт
Чулліва іншы адклікнецца птах,
Ды так, што аж сэрца шчыміць.

І — як абрыў — цішыня,
Па якой, як па коўзкаму лёду,
Хтосьці вядзе каня —
Выпіць з Нарвы воду.

Усё магчыма ноччу такой,
Калі ваду так прагна п'юць...
І Нарвы змяіная ртуць
Праткнута стралой залатой.

●

Дзе прападаюць рэчы вялікіх
людзей:
Галошы Саванаролы,
Анучы Шэкспіра,
Вуздэчка каня Аляксандра
Македонскага?

Дзе спачываюць косці
Першых уладальнікаў
Пікі,
Агню
І плуга?

Ці хто памятае
Першыя словы
Мікеланджэла,
Калумба,
Каперніка?

Ды прызнаймася перад сабою:
Ці змаглі б мы паўтарыць
З апошняй сустрэчы
Хоць два апошнія сказы
Нашых бацькоў?

●

Муза працы, муза
цярпення і муза віны,
сёстры сясцёр маіх,

пакутніцы Хрыста Навіна,
і вас ужо ўпланавалі
ў атамны тэатр вайны,

і, можа, да апошняга
спектакля
асталася ўсяго гадзіна.
. . . . . . . . . . .
Калі ж агонь успыхне
пахавальны —
не будзе ні бога, ні сатаны.

●

Бягу з панадворка і ў ляшчыне
гіну
Абмыць вочы і рукі ад крыві
звярынай.

А той крык, што ёсць ва мне,
здаецца,
Разам са мною і з рэхам
ўзарвецца.

І птушкі памоўклі, бы дзеці
тыя,
Што ўбачылі вочы ўжо
нежывыя,

Бок акрываўлены, рукі
злачынцы
І зубы ў пашчы, як швайкі ў
скрынцы.

Бягу з панадворка і радасць
бачу
У сцежках пакручастых ды
непрадбачлівых.

Бягу адурманены зноў
заблудзіцца
У сэнсе жыцця і яго таямніцах.

Алем ДАНЕШВАР:

# «СПАДЗЯЮСЯ НА НОВУЮ СУСТРЭЧУ...»

Чатыры дні гасцяваў у Мінску перакладчык рускай і савецкай мастацкай літаратуры з Афганістана Махамад Алем Данешвар (у друку выступае пад псеўданімам Данешвар Зар'яб). Ён прыехаў, каб бліжэй пазнаёміцца з радзімай Васіля Быкава, творы якога пераклаў, рэспублікай, што перанесла велізарныя пакуты ў час вайны. А. Данешвар наведаў мемарыяльны комплекс Хатынь, Дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, радзіму Янкі Купалы — Вязынку, Літаратурны музей Якуба Коласа, меў гутарку ў Саюзе пісьменнікаў рэспублікі, у якой прынялі ўдзел першы сакратар праўлення Ніл Гілевіч і сакратар праўлення Васіль Зуёнак. Госць цікавіўся ўдзелам беларускіх літаратараў у перабудове, навінкамі літаратуры, у першую чаргу — на ваенную тэму.

Знаёмімся з А. Данешварам бліжэй. Прашу яго сказаць некалькі слоў пра сябе.

— Нарадзіўся ў 1950 годзе ў Кабуле,— гаворыць А. Данешвар. — У канцы 1968 года скончыў ліцэй. Пасля здачы ў студзені 1969 года ўступных экзаменаў у Кабульскі універсітэт паводле вынікаў конкурсу быў накіраваны ў Савецкі Саюз для вучобы ў Маскоўскім аўтадарожным інстытуце. Пасля заканчэння інстытута, у 1975 годзе, вярнуўся на радзіму—працаваў у Кабульскім аўтамеханічным тэхнікуме выкладчыкам, затым загадчыкам кафедры аўтамабіляў. У 1978 годзе стаў працаваць у дэпартаменце па складанні і перакладу падручнікаў Міністэрства асветы Афганістана. У гэтым жа годзе апублікаваў у часопісе «Эрфан» у перакладзе на мову дары кнігу савецкага пісьменніка Радзія Фіша «Джалалуддзін Румі», што выйшла ў серыі «ЖЗЛ». У 1983 годзе па просьбе выдавецтва «Прогресс» прыехаў на працу ў Маскву. За чатыры гады пераклаў кнігі: «Тарас Бульба» Гогаля, зборнік апавяданняў Чэхава, «Байкі» Льва Талстога, «Казка пра рыбака і рыбку» Пушкіна, «Чапаеў» Фурманава, «Сэрца аддаю дзецям» Сухамлінскага, «Адплаты чакайце ў Джэкдалаку» савецкага ўсходазнаўцы Хальфіна. Пераклаў на родную мову паасобныя творы Леніна, некалькі кніг савецкіх аўтараў на палітычныя тэмы. Цяпер займаюся літаратурнай апрацоўкай перакладаў твораў Быкава «Альпійская балада» і «Дажыць да світання», якія зрабілі Вардак і Ахгар. У план выпуску выдавецтва «Прогресс» на 1989 год уключана аповесць Васіля Быкава «Знак бяды» ў маім перакладзе на дары.

— Вашы ўражанні ад знаёмства з творчасцю Быкава?

— Вайна — шматгранная з'ява. Маршалы глядзяць на вайну як на стратэгію, аўтары прыгодніцкіх твораў імкнуцца паказаць сваіх герояў адпаведна гэтаму жанру. Але самая страшная асаблівасць вайны — як афганец я пра гэта кажу з вялікім болем у сэрцы — яе бесчалавечны трагізм і жудасныя вынікі, з якімі доўга і доўга даводзіцца чалавеку змагацца, адчуваць на сабе іх цяжар. Быкаў якраз і выдзяляецца сярод іншых сваім уменнем глыбока зазірнуць у душу чалавека, якая можа разбурыцца або вытрымаць выпрабаванні, уменнем паказаць увесь жах і боль, што прыносіць чалавеку вайна. У гэтым яго моц і вялікая заслуга перад літаратурай. Быкаў для мяне — жывая класіка.

Размова ў нас заходзіць аб аўтарытэтах, аб літаратурных настаўніках — класіках.

— Каго вы лічыце найвялікшым пісьменнікам свету?

— Па глыбіні пранікнення ў чалавечую душу, па майстэрству псіхалагічнага аналізу, на маю думку, Дастаеўскі — самы вялікі пісьменнік свету. Тым не менш, я прыхільнік усёй сусветнай класічнай літаратуры. З паэтаў для мяне самымі дарагімі з'яўляюцца вялікія персідскія класікі — Фірдаўсі, Хафіз, Хаём, Атор, Румі, Санаі, Саадзі. Хачу падкрэсліць, што любоў да роднай і сусветнай літаратуры прывіта мне старшым братам пісьменнікам Рахнавардам Зар'ябам.

Вядома, што цяпер у Афганістане адбываецца працэс нацыянальнага прымірэння. Я пацікавіўся ў афганскага перакладчыка, ці ўплывае гэты працэс на сучасны стан літаратуры, культуры.

— Я бачу тут добрыя адзнакі, — сказаў А. Данешвар. — Напрыклад, калі раней відэа- і магнітафонныя запісы спевакоў, якія знаходзяцца на чужыне з прычыны многіх абставін, былі забаронены для карыстання, то пасля абвяшчэння палітыкі нацыянальнага прымірэння гэтае табу, на шчасце, знята. На працягу апошніх год заахвочвалася так званая выхаваўча-патрыятычная, лозунгавая літаратура. І творы такога роду, нягледзячы на адсутнасць у іх мастацкіх вартасцей, публікаваліся. Гэта тэндэнцыя прывяла да з'яўлення пэўных груп пісьменнікаў, якія не вызначаліся як мастакі, аднак паспяхова авалодвалі плошчай на старонках часопісаў і кніг. Цяпер у нашым пісьменніцкім саюзе да праблемы сапраўдных мастацкіх вартасцей ставяцца, у адрозненне ад нядаўняга мінулага, па-новаму. Гэта, канечне, радасная з'ява. Тым больш, што сучасная афганская літаратура маладая і ад таго, як мы даглядаем гэтае маладое дрэўца, залежыць галоўны напрамак, будучае нашай літаратуры.

Я вельмі рады быў пазнаёміцца з Беларуссю, з душэўным беларускім народам, займець добрых сяброў,— працягваў госць. — Спадзяюся, што ў наступны раз прыеду ў Мінск з творамі беларускіх пісьменнікаў на мове дары. І скажу беларускім сябрам: «Зялёны ліст — падарунак дэрвіша».

Са свайго боку я паказаў госцю зборнік вершаў сучасных афганскіх паэтаў для дзяцей «Ватан — значыць Радзіма». Расказаў, што яго пераклаў на беларускую мову Анатоль Грачанікаў, які ў 1983 годзе ўдзельнічаў у Днях савецкай літаратуры ў Афганістане. Дарэчы, у Афганістане пабывалі таксама Віктар Трасцянскі, Мікалай Чаргінец. У 1984 годзе адбыліся Дні літаратуры Афганістана на Беларусі, у якіх удзельнічалі Абдула Найбі, Ашраф Азімі, Зарын Андзор, Гардзівал, Зія Дастур, Абдурахім Араз, Махамед Сіддзін Рухі, Пуя Фар'ябі. Да гэтых Дзён выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла кніжку «Афганскія народныя прыказкі і прымаўкі», а ў 1986 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» выйшаў зборнік афганскіх казак «Дапаможаш ты і табе дапамогуць».

Як кажуць, дар за дар.

Аляксей ГАРДЗІЦКІ.

# Часопісы ў лістападзе

## «ПОЛЫМЯ»

В. Шырко гутарыць з К. Крапівой — «З думкай аб жыццёвай праўдзе», М. Лужанін разважае аб шляху, пройдзеным краінай, — «Семдзесят».

Пад рубрыкай «Паэтычнае слова Ленінграда» публікуюцца творы М. Дудзіна, Ю. Воранава, А. Чапурова, А. Цакунова, Г. Гарбоўскага, В. Максімава, Г. Марозава, В. Сасноры, В. Кузняцова ў перакладзе П. Макаля, Г. Пашкова, В. Зуёнка, Г. Каржанеўскай, С. Законнікава, В. Макарэвіча.

Друкуюцца вершы С. Гаўрусёва, У. Верамейчыка, Р. Тармолы, падборка маладых паэтаў «Вам на памяць серп і молат...», пачатак рамана Я. Радкевіча «Закон прыцяжэння».

Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы У. Сарокі «Неўміручая спадчына», М. Сташкевіча «Дарога ў будучыню», нарыс У. Міхнюка пра паплечніка Леніна С. Шасцерніна — «Партыйны псеўданім — Руслан».

Надзённым праблемам літаратурнага жыцця прысвечаны артыкул В. Каваленкі «Ёсць арыенціры дзейнасці». Слова пра творчасць Ц. Гартнага (да 100-годдзя з дня нараджэння пісьменніка) гаворыць А. Клачко— «Гары, агонь Кастрычніка!».

Кнігі рэцэнзуюць: Э. Ліпецкі, У. Мікалаеў (І. Ігнаценка, «Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Беларусі»), Б. Бур'ян (П. Макаль, «Асенняя пошта лістоты»), М. Вышынскі (І. Жарнасек, «Ліст да сына»).

Завяршае нумар падборка «Наш каляндар».

## «МАЛАДОСЦЬ»

Да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка прапануецца падборка паэтаў братніх рэспублік у перакладзе на беларускую мову. Паэзія прадстаўлена таксама творамі В. Зуёнка, В. Лукшы, Я. Міклашэўскага, В. Міхасёнка.

«Пабуджаныя» — раздзелы з рамана Г. Далідовіча.

У. Саламаха расказвае пра Героя Савецкага Саюза М. Міхайлашава — «Сучаснік з таго пакалення», В. Зданюк — пра афіцэра-інтэрнацыяналіста М. Быкава — «Застаўся ў салдацкім страі». З матэрыяламі гадоў рэвалюцыі знаёміць Н. Дзюба — «На пачатку вялікага шляху».

На анкету часопіса адказваюць У. Дамашэвіч, Б. Сачанка, Т. Бондар, М. Мятліцкі, Т. Чабан, Л. Дранько-Майсюк — «Верыць у маладосць».

Сённяшні стан літаратуры — тэма роздуму У. Гніламёдава «Дайце героя, пакажыце характар».

Э. Іофе рэцэнзуе кнігу У. Сандрыгайлы «Палітыка і моладзь: некаторыя аспекты выхавання палітычнай культуры».

## «БЕЛАРУСЬ»

«Рытм паскарэння» — рэпартаж, які вядуць А. Федаровіч і фотакарэспандэнты.

«Жывое ленінскае слова» — публіцыстычны роздум Н. Маеўскай, «Масква мая...» — лірычны рэпартаж Я. Гарэліка.

Аб зменах у грамадстве і аб «тармазах» перабудовы разважае дэлегат XXVII з'езда КПСС Л. Чайлытка — «Будпляцоўка без трыбуны».

Публікуюцца творы С. Грахоўскага, Я. Сіпакова, пераклады вершаў паэтаў розных народаў, зробленыя Р. Барадуліным, М. Мятліцкім, П. Макарэвічам, быль С. Глушнёва «Янотавыя футры», заканчэнне гістарычных сцэн І. Шамякіна «Стратэгія», нарыс У. Глушакова «Зямное прыцягненне», літаратурна-крытычныя артыкулы «Карані еднасці» Л. Гаранін, «Жывая праўда ленінскай думкі» У. Конана, развагі З. Азгура «Спасціжэнне ісціны».

Г. Шупенька ў сувязі са 100-годдзем Ц. Гартнага разважае пра творчасць аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры.

## «НЁМАН»

Гістарычны эцюд у вершах А. Вярцінскага «Ульянавы і Раманавы» пераклаў Ф. Яфімаў. Вершы В. Лукшы прапануюцца ў аўтарызаваным перакладзе Э. Скобелева.

Друкуецца заканчэнне рамана «Зеніт» (пер. Т. Шамякінай).

«Нёман» сумесна з балгарскім часопісам «Тракія» (Плоўдзіў) абмяркоўвае праблемы выжывання чалавецтва ў тэрмаядзерную эпоху. На пытанні адказваюць М. Хайтаў і А. Адамовіч.

Змешчаны заканчэнне нататак М. Сердзюкова аб дзяржпрыёмцы «У канцы лаяльнасці», раздзелы з кнігі У. Ліпскага «Урокі Купрэвіча», артыкул І. Элентуха «Колеры часу і фарбы «выяўленчага фронту», літаратуразнаўчы роздум С. Лаўшука «Вялікае бачыцца ўсё ярчэй», рэцэнзіі С. Букчына, А. Каўруса, М. Бацвінніка, падборка «Учора. Сёння. Заўтра».

Калектыў Аб'яднанай дырэкцыі дзяржаўных літаратурных музеяў выказвае глыбокае спачуванне старшаму навуковаму супрацоўніку Літаратурнага музея Якуба Коласа Сачанка Т. А. з выпадку цяжкага гора — смерці МАЦІ.

**НАШ КАЛЯНДАР**

# «ТУТ СХАДЗІЛІСЯ ПЛЯМЁНЫ...»

**Да 105-ай гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа**

Хоць у Якуба Коласа ў адрозненні ад Янкі Купалы ці Максіма Багдановіча і няма твораў, прысвечаных далёкаму мінуламу Беларусі, аднак гэта ніколькі не азначае, што ў яго спадчыне не адбілася гістарычнае жыццё народа. Кожны народ захоўвае ў сабе жывыя адбіткі сваёй самабытнай гісторыі, на доўгім працягу якой ён фарміраваўся як адметная з'ява ў чалавецтве. І таму зразумела, што ў творчасці сапраўднага нацыянальнага пісьменніка не можа не адбіцца гісторыя яго народа. Гэта мы бачым і ў Якуба Коласа. Углядаючыся ў разнастайныя з'явы народнага жыцця, ён адначасова заўважыў і такія, што дзівосна адбівалі мінуўшчыну, прычым некаторыя з іх сваімі каранямі ўваходзілі ў вельмі глыбокую старажытнасць.

У гэтых адносінах вельмі характэрны раздзел паэмы «Новая зямля» — «Падгляд пчол». У ім даецца апісанне збору мёду на пасецы галоўнага героя твора Міхала. Прачытаўшы гэта месца паэмы, не можаш не задаць пытання: «Навошта было гаспадару на гэты момант збіраць сваіх родзічаў, наладжваць з гэтага выпадку для іх баль і, самае галоўнае, дзяліць між імі мёд? Прычым, робіць гэта не сам гаспадар, а адзін з яго гасцей». Адказ на такое пытанне вядзе нас яшчэ ў родава-абшчынны лад, калі ўсё, у тым ліку і борці, былі ў агульным уладанні родаў, і ўсё здабытае і сабранае, таксама і мёд, дзялілася паміж членамі роду. І як гэта ні дзіўна, такі архаічны звычай змог захавацца ў асяроддзі панямонскіх беларусаў аж да канца XIX стагоддзя і пад пяром Я. Коласа перарос у мастацкую карціну аднаго з самых светлых помнікаў нялёгкага сялянскага жыцця.

У творчасці Я. Коласа адбіваліся не толькі паасобныя з'явы мінуўшчыны: у ёй мы бачым мастацкае асэнсаванне ўсяго гістарычнага шляху беларускага народа. У гэтых адносінах асаблівай увагі заслугоўвае лірычны ўступ да III часткі паэмы «Сымон-музыка». Тут выявіўся глыбокі позірк народнага песняра ў родную мінуўшчыну. Ва ўсхваляваным маналогу яна памайстэрску спрацавана і выступае ва ўсёй сваёй непаўторнай адметнасці. Кожная страфа ці нават радок тут раскрывае ва ўсёй сваёй выразнасці тую ці іншую рашаючую для лёсу Беларусі старонку яе гісторыі.

Найперш паэт бачыць «адвечныя курганы», якія густа ўсыпалі беларускую зямлю і сталі неад'емнай рысай яе пейзажу. Для Я. Коласа яны — «сведкі прошласці глухой», «даўніх спраў вартаўнікі». На жаль, яны — нямыя сведкі, бо хаваюць у сабе першыя гістарычныя крокі нашага народа, і таму, звяртаючыся да іх, паэт са шкадаваннем зазначае: «Эх, не скажаце ніколі, што казалі вам вякі».

Але па меры далейшага асвятлення Я. Коласам мінуўшчыны роднага краю, голас паэта ўсё больш набывае сумную ноту. І гэта зразумела. Песняра асабліва ўразілі выключна балючыя абставіны беларускай гісторыі і, у першую чаргу, бясконцыя войны, што руйнавалі прасторы радзімы. І прычына іх вядомая. Беларусь, размешчаная на скрыжаванні важнейшых міжнародных шляхоў, была, як сказаў паэт, «спакусай» для многіх заваёўнікаў. Вось чаму

**Тут схадзіліся плямёны,**
**Спрэчкі сілаю канчаць,**
**Каб багата адароны**
**Мілы край наш зваяваць.**

І як сумны вынік гэтага — па роднай зямлі «лілася кроў нявінна», паліўся «набытак», тварыліся «гвалтоўнасці», будаваўся «астрог народу», тапталіся «збажынка з ярынкаю».

Але Беларусь мела не толькі незлічоныя людскія ахвяры і матэрыяльныя страты. Заваёўнікі добра разумелі, што немагчыма доўга трымаць заваяваны народ пад сваёй уладай, калі не змярцвіць яго душу і не забіць яго самасвядомасць. Вось чаму, каб наш народ «пад прыгон узяць навек», ворагам патрэбна было «нас цяжка ў сэрца раніць», «нашы скарбы апаганіць, душу вынесці на здзек». Колькі горкай гістарычнай праўды ўбіраюць у сябе гэтыя Коласавы словы. Сапраўды, з II пал. XVI ст. пасля заключэння Люблінскай уніі ў 1569 г., у выніку чаго былі шырока адчынены дзверы ў Вялікае княства Літоўскае для польска-каталіцкай экспансіі, і пачалося ганьбаванне ўсяго беларускага. Беларусы складалі галоўную моц, а значыць і сілу ў гэтай дзяржаве, і таму супраць іх і быў накіраваны галоўны ўдар. Польска-каталіцкія колы добра разумелі, што беларускую мову, якая з'яўлялася дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім і на якой было выдадзена шмат кніг, нялёгка будзе пазбавіць яе высокага грамадскага аўтарытэту. І таму яны пусцілі ў ход усе сродкі, каб апаганіць яе і зняславіць. Менавіта з гэтага часу і пачалося выцясненне беларускай мовы з дзяржаўнага ўжытку і ахайванне яе як грубай і хамскай. А разам з гэтым пачаў прыніжацца і гонар беларуса, зневажанне ўсіх яго духоўных каштоўнасцей. Галоўны герой трылогіі «На ростанях» Андрэй Лабановіч і бачыў прычыну заняпаду сваёй радзімы ў тым, што «на галаву беларускага народа многа выліта памыяў, годнасць яго прыніжана і мова яго асмеяна». У выніку ўсяго гэтага, як адзначаў далей Лабановіч, аб Беларусі сталі складвацца «шаблонныя» пустыя ўяўленні як аб краіне, што славіцца сваімі балотамі і хваробай каўтуном.

А як пранікліва разгледзеў Я. Колас сутнасць рэлігійнай барацьбы, якая пачалася таксама ў сярэдзіне XVI ст. і на доўгі час ахапіла беларускае грамадства. Трэба зазначыць, што ў нашай гістарычнай навуцы і літаратуразнаўстве яна атрымлівае аднабаковае асвятленне. У гэтых даследаваннях часта даводзіцца, што праваслаўная царква, якую сапраўды імкнулася выцесніць каталіцтва, была абаронцам нацыянальных і культурных інтарэсаў беларускага народа, але ўсё гэта супярэчыць сапраўднасці, бо праваслаўная царква найперш абараняла інтарэсы праваслаўных вярхоў беларускага грамадства. І таму зразумела, што калі беларускія магнаты скора перайшлі ў каталіцтва, праваслаўе страціла сваю галоўную сацыяльную апору і пайшло ў заняпад. У апошні час з боку некаторых аўтараў ужо робіцца рэверанс у бок каталіцкай царквы. Маўляў, каталіцызм стварыў у Беларусі шырокую сетку калегій, дзе практычна маглі вучыцца ўсе жадаючыя, ды яшчэ бясплатна. Але ў гэтым і крылася ўся небяспека, бо менавіта з гэтага часу і пачало складвацца ў Беларусі такое парадаксальнае становішча, калі разам са святлом стала ісці і цемра. Каталіцызм, шырока прываблівaючы ў свае навучальныя ўстановы беларускую моладзь і даючы ёй веды, у той жа час зацямняў яе нацыянальную свядомасць, адрываў яе ад роднай глебы і выхоўваў з яе даволі шматлікую плойму рэнегатаў, якія рабіліся чужымі для свайго народа, яго культуры і мовы. Вось гэтай аднабаковасці ў паказе рэлігійнай барацьбы і пазбег Я. Колас. Ён паказаў усю шкоду яе для беларускага народа, не робячы ніякіх апраўданняў ні праваслаўю, ні каталіцтву, бо іх змаганне паміж сабою, як сказаў паэт, звяртаючыся да роднага краю

**у божа імя,**
**У чэсць косцелаў, царквоў**
**Паміж дзеткамі тваімі**
**Многа легла камянёў,**
**Многа выйшла трасяніны,**
**Меч, агонь знішчалі край!**
**З двух бакоў «айцы» дубінай**
**Заганялі нас у рай.**

Так, рэлігійная варожасць сапраўды штучна раз'ядноўвала народ, дзелячы яго на католікаў, праваслаўных, уніятаў, што цэлыя стагоддзі зацямняла самасвядомасць народа і перашкаджала яго нацыянальнай кансалідацыі. Царкоўная барацьба паглынала лепшыя інтэлектуальныя сілы беларускага народа.

Якуб Колас выразна паказаў, што найперш у выніку рэлігійнай калатнечы ў Беларусі

**Здрада чорная расла,**
**Што папамі і ксяндзамі**
**У сэрца кінута была.**

Аднак галоўная небяспека заключалася не толькі ў адрыве ад народа вышэйшых класаў. Ставілася мэта поўнасцю перайначыць увесь наш народ, пазбавіць яго нацыянальнага аблічча. А для гэтага патрэбна было найперш, як адзначыў Я. Колас у «Новай зямлі», —

**...перарваць жывыя звенні,**
**Якіх вякі не перарвалі**
**На гістарычным перавале.**

У канчатковым выніку ўсё гэта рабілася для таго,

**Каб у віры той ашукі**
**Знішчыць нашы ўсе сляды,**
**Каб не ведалі і ўнукі,**
**Хто такія іх дзяды.**

Разрыў жывой сувязі паміж пакаленнямі па разліку ворагаў і павінен быў прывесці да поўнага знікнення народа.

Звярнуўшыся яшчэ раз да асэнсавання гістарычнага шляху роднага краю ў алегарычнай навеле «Жывая вада», Якуб Колас з гордасцю вялікага патрыёта паказаў, што ніякія непамерныя цяжкасці не змаглі забіць жывую душу беларускага народа і ператварыць яго зямлю ў суцэльнае «мёртвае поле».

У гады Вялікай Айчыннай вайны Якуб Колас зрабіў грунтоўны агляд шматвяковай сумеснай барацьбы рускага і беларускага народаў супраць нямецкай агрэсіі. Ён нагадаў аб змаганні Полацкай зямлі, якая стала першай ахвярай крыжацкіх заваёўнікаў у пачатку XIII ст., і аб бітве на Чудскім возеры ў 1242 г., дзе былі нагалаву разгромлены «псы-рыцары». Народны паэт асаблівую ўвагу звярнуў на Грунвальдскую перамогу ў 1410 г. над тэўтонамі, дзе яскрава выявілася славянскае адзінства, і таму новым Грунвальдам ён называў будучую перамогу над гітлераўскай Германіяй. Расказаў Я. Колас і пра гераічныя справы барацьбы беларускіх партызанаў у 1918 г. супраць кайзераўскіх акупантаў. Гаворачы аб шматвяковай традыцыі сумеснага рашучага адпору нямецкіх заваёўнікаў, Я. Колас гэтым самым падкрэсліў значэнне гістарычнай памяці як натхняльнай сілы ў змаганні народаў за сваю незалежнасць.

Творчасць Я. Коласа з'яўляецца ў поўным сэнсе гэтага слова мастацкім летапісам свайго часу. У ёй знайшлі сваё адлюстраванне ўсе важнейшыя гістарычныя падзеі на Беларусі. І таму яго неўміручыя творы з'яўляюцца адной з крыніц, з якой мы будзем заўсёды чэрпаць веды аб шматгранным жыцці беларускага народа.

**Мікола ЕРМАЛОВІЧ.**




**з 16 па 22 лістапада**

16 лістапада, 19.50

**«ПРАЧЫТАЙЦЕ МАЕ ПІСЬМО...»**

Агляд пошты за тыдзень.

20 лістапада, 18.10

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС «БУГ».**

Вы даведаецеся, як рэстаўрыруюць помнікі ў Пружанскім раёне, пачуеце новыя вершы З. Дудзюк, пазнаёміцеся з этнаграфічнымі эцюдамі мастака М. Маеўскага, пабываеце на свяце «Мелодыі і фарбы роднага краю» ў вёсцы Скокі Брэсцкага раёна.

20 лістапада, 19.00

**«БЕЛАРУСКАЯ МУЗЫЧНАЯ ВОСЕНЬ». АДКРЫЦЦЁ ФЕСТЫВАЛЮ. ТРАНСЛЯЦЫЯ З БЕЛДЗЯРЖФІЛАРМОНІІ.**

У канцэрце выступіць адзін з самых маладых музычных калектываў краіны — Дзяржаўны малы сімфанічны аркестр СССР, які ўзначальвае вядомы дырыжор, народны артыст СССР Ю. Сіманаў. Прагучаць сімфанічная паэма «Кастрычнік» Д. Шастаковіча, сімфанічная карціна М. Мусаргскага «Ноч на Лысай гары», дзве сюіты з балета С. Пракоф'ева «Рамэа і Джульета», арыі з класічных опер. У канцэрце прымае ўдзел лаўрэат усесаюзнага і міжнародных конкурсаў Л. Іванова.

Каментатар — Э. Язерская.

21 лістапада. 13.10

**«СЛОВА — ПАЭЗІІ».**

Вершы П. Глебкі чытаюць В. Белахвосцік і А. Аверкаў.

21 лістапада. 14.30

Канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці органаў унутраных спраў Беларусі — лаўрэатаў II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці.

21 лістапада. 17.35

**ГАДЗІНА ДАКУМЕНТАЛЬНАГА КІНО.**

«Наказ». Прэм'ера фільма кінастудыі «Беларусьфільм». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр Ю. Лысятаў. Уступнае слова сакратара праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР В. Дашука.

21 лістапада. 18.45

**«СТАРАДАЎНІЯ ПАРКІ БЕЛАРУСІ».**

Перадача запрашае ў дзівосны свет восені, у Лагойскі і Лошыцкі паркі.

Вядучы — журналіст В. Тарас.

21 лістапада. 23.15

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ».**

Вы пазнаёміцеся з водгукамі гледачоў на выступленне ансамбляў «Сузор'е» і «Сем герц», пабываеце ў музычным клубе «Арыенцір», убачыце выступленні груп «Альянс», «Містэр-Твістэр» і інш.

22 лістапада. 13.15

**«МУЗЫЧНЫЯ СПЕКТАКЛІ ТЭАТРАЎ КРАІНЫ».**

Б. Сметана. «Прададзеная нявеста». Пастаноўка Аго-Эндрыка Керге, музычны кіраўнік — народны артыст ЭССР П. Лільe. Мастак — заслужаны дзеяч мастацтваў ЭССР Э. Рэнтэр.

У галоўных партыях — вядучыя артысты тэатра «Эстонія»: народная артыстка СССР А. Кааль (Мажэнка), народны артыст СССР Х. Крум (Еняк), народная артыстка СССР У. Крээц (Міха), народны артыст ЭССР Т. Майстэ (Кецал).

Каментатар — Э. Язерская.

22 лістапада. 19.50

**«У НЯДЗЕЛЮ ВЕЧАРАМ».**

Старадаўнія рамансы спявае заслужаная артыстка БССР С. Гулевіч.

22 лістапада. 23.10

**ІНФАРМАЦЫЙНА-МУЗЫЧНАЯ ПРАГРАМА.**

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

**Р. БАРАВІКОВА.** Каханне. Кніга лірыкі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 1 р. 30 к.

**Г. МАРЧУК.** Жылі-былі дзед Васільчык і баба Кацярына. Казкі. Мн., «Юнацтва», 1987. — 15 к.

**МОЙ РОДНЫ КУТ.** Вершы беларускіх паэтаў аб роднай прыродзе. На беларускай і рускай мовах. Мн., «Беларусь», «Мастацкая літаратура», 1987. — 3 р. 80 к.

**М. СКРЫПКА.** З сэрцам і перцам. Байкі, вершы, фельетоны, мініяцюры. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. — 1 р. 40 к.

**А. ЯКІМОВІЧ.** Гордзіеў вузел, альбо Нявыдуманыя гісторыі з жыцця Алеся Пятрашкі. Аповесць. Мн., «Юнацтва», 1987. — 25 к.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856
АТ 01525

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.